БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

М. І. Свістунова
Г. К. Ціванова

# Гістарычная марфалогія беларускай мовы

*Дапушчана
Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь
у якасці вучэбнага дапаможніка
для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі
па спецыяльнасці
«Беларуская філалогія (па напрамках)»*

МІНСК
БДУ
2018

УДК 811.161.3’36’0(075.8)
ББК 81.411.3-2-03я73
С24

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (загадчык кафедры – кандыдат філалагічных навук дацэнт *Д. В. Дзятко*);
кандыдат філалагічных навук дацэнт *В. Э. Зіманскі*

**Свістунова, М. І.**
С24 Гістарычная марфалогія беларускай мовы : вучэб. дапам. / М. І. Свістунова, Г. К. Ціванова. – Мінск : БДУ, 2018. – 199 с.
ISBN 978-985-566-574-9.

Выкладзены асноўныя звесткі па галоўных тэмах гістарычнай марфалогіі, якія вывучаюцца ў курсе гістарычнай граматыкі беларускай мовы, а таксама заданні для выканання на практычных занятках, тэсты для самакантролю і тэксты для комплекснага аналізу.

Для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі, якія навучаюцца па спецыяльнасці «Беларуская філалогія (па напрамках)».

**УДК 811.161.3’36’0(075.8)**
**ББК 81.411.3-2-03я73**

**ISBN 978-985-566-574-9**

© Свістунова М. І.,
Ціванова Г. К., 2018
© БДУ, 2018

# Прадмова

Вучэбны дапаможнік «Гістарычная марфалогія беларускай мовы», як і раней падрыхтаваная гэтымі ж аўтарамі кніга «Гістарычная фанетыка беларускай мовы» (Мінск : БДУ, 2016. 159 с.), адрасаваны студэнтам устаноў вышэйшай адукацыі, у праграму якіх уваходзіць курс гістарычнай граматыкі беларускай мовы. Мяркуецца, што комплекс гэтых выданняў будзе спрыяць тэарэтычнай і практычнай падрыхтоўцы будучых філолагаў.

Уменне аналізаваць асобныя граматычныя з'явы, якое выпрацоўваецца ў працэсе засваення гістарычнай марфалогіі, неабходна для далейшага вывучэння наступнага курса – гісторыі беларускай літаратурнай мовы, які сярод іншага прадугледжвае аналіз старажытных тэкстаў.

Матэрыял выдання падзяляецца на тэмы ў адпаведнасці з колькасцю адведзеных на марфалогію практычных заняткаў. Паколькі аўтары вучэбнага дапаможніка не маюць на мэце выкласці ў ім увесь лекцыйны курс, у кнігу не ўключаны наступныя тэмы: «Характарыстыка марфалагічнага ладу старажытных ўсходнеславянскіх гаворак» (тэма аглядная); «Гісторыя лічэбніка» (прадугледжвае агульную характарыстыку ўтварэння гэтай часціны мовы, а марфалагічныя змены ў ёй аналагічныя зменам у сістэме назоўніка і прыметніка); «Прыслоўе» (часткова раскрывалася пры разглядзе гісторыі іншых чацін мовы); «Службовыя словы і выклічнікі» (больш мэтазгодна разглядаць іх як складнікі сінтаксічных адзінак).

У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу і прыкладаў для аналізу выкарыстаны ўрыўкі з тэкстаў пісьмовых помнікаў, часткі ілюстрацый да слоўнікавых артыкулаў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», таму ў адпаведных выпадках пашпартызацыя крыніц даецца ў скарачэннях па правілах, прынятых у гэтым лексікаграфічным вы-

данні. Акрамя таго, прыводзяцца прыклады з твораў сучаснай беларускай мастацкай літаратуры, фальклору і дыялектных запісаў, якія паказваюць студэнтам непарыўнасць гісторыі беларускай мовы і эвалюцыйныя змены ў ёй. Адначасова гэта забяспечвае міжпрадметныя сувязі з курсамі дыялекталогіі і сучаснай беларускай мовы.

Практычная частка вучэбнага дапаможніка ў межах кожнай тэмы прадстаўлена падборкай заданняў для выканання студэнтамі разам з выкладчыкам або індывідуальна, і тэстам для самастойнай праверкі трываласці ведаў. Для зручнасці ўспрыняцця зместу асобных слоў і выразаў іх тлумачэнні прыводзяцца непасрэдна пасля тэксту задання. Адказы на тэставыя заданні змешчаны ў канцы кнігі.

У асобным раздзеле выдання прапануюцца тэксты для комплекснага аналізу. Да некаторых з іх даюцца заданні на выяўленне тых ці іншых граматычных рыс (адпаведна іх прадстаўленасці ў тэкстах). Тэксты для назірання выбраны зыходзячы з іх жанрава-стылістычнай разнастайнасці. Мяркуецца, што выкладчык сам вырашыць, які тэкст прапанаваць і якія задачы паставіць перад студэнтамі.

Аўтары спадзяюцца, што вучэбны дапаможнік паспрыяе арганізацыі працэсу навучання і фарміраванню ў студэнтаў трывалых ведаў і неабходных кампетэнцый.

Выказваем словы ўдзячнасці шаноўным рэцэнзентам за слушныя заўвагі і рэкамендацыі: дацэнту кафедры беларускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава кандыдату філалагічных навук В. Э. Зіманскаму і калектыву кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

## Тэма 1

# Граматычныя катэгорыі назоўніка

**Граматычная катэгорыя** – параметр, які ляжыць у аснове падзелу аднародных моўных адзінак на класы, ці, па-іншаму, сукупнасць формаў з пэўнымі граматычнымі значэннямі.

Гісторыя граматычных катэгорый – гэта эвалюцыя іх паняццевага і фармальнага бакоў, інакш кажучы, змяненне таго, што абазначае граматычная катэгорыя, і таго, як яна гэта абазначае.

Граматычныя катэгорыі падзяляюцца на ўніверсальныя і прыватныя. Універсальныя катэгорыі ахопліваюць усе словаформы пэўнай часціны мовы ў поўным аб'ёме; прыватныя з'яўляюцца лексічна абмежаванымі, выражаюцца толькі ў некаторых формах.

Універсальныя граматычныя катэгорыі назоўніка – гэта катэгорыі роду, ліку, склону. Прыкладамі прыватных граматычных катэгорый назоўніка з'яўляюцца катэгорыі зборнасці, адушаўлёнасці, рэчыўнасці, абстрактнасці.

***Катэгорыя роду*** – найбольш агульная граматычная катэгорыя назоўнікаў. Родавая прыналежнасць назоўнікаў грунтуецца на спрадвечнай, гістарычна замацаванай абстрактна-граматычнай класіфікацыі, якая не мела прамой сувязі з лексічным значэннем: нельга абгрунтаваць, чаму словы *дарога*, *галава* – жаночага роду, *горад*, *нос* – мужчынскага, а *неба*, *вока* – ніякага. Сувязь роду з семантыкай прасочваецца толькі ў невялікай частцы адушаўлёных назоўнікаў, граматычны род якіх супадае з біялагічным полам, а да ніякага роду адносяцца назвы маладых істот: *мужчына – жанчына – дзіця*, *бык – карова – цяля*, *певень – курыца – кураня*.

Для большасці назоўнікаў род – катэгорыя фармальна-граматычная, якая выражаецца ў канчатках дапасаванага да назоўніка азначэння: *прамая дарога, мая галава* – жаночы род; *вялікі горад, доўгі нос* – мужчынскі род; *сіняе неба, чыстае вока* – ніякі род.

Значэнне роду асобных назоўнікаў вагалася ў розныя гістарычныя перыяды, што звязана з перабудовай старажытнай сістэмы скланення, узаемадзеяннем розных дыялектаў, засваеннем запазычанняў.

На марфалагічным узроўні катэгорыя роду назоўнікаў афармлялася толькі факультатыўна, пры дапамозе некаторых словаўтваральных афіксаў і асобных склонавых канчаткаў. Так, напрыклад, назоўнікі з суфіксамі **-иц-** (**молодица, волчица**) і **-ост’-/-єст’-** (**жалость, тѧжєсть**) – жаночага роду, з суфіксамі **-ик-/-н-ик-** (**старикъ, бортникъ**), **-ан-ин-** (**полочанинъ, сєлꙗнинъ**), **-ич’-** (**кривичь, рꙋсичь**), **-тел’-** (**сєꙗтєль, ꙋчитєль**), **-ар’-** (**пахарь, знахарь**) – мужчынскага, а з суфіксам **-ьств-** (**лꙋкавьство, родьство**), **-(є)ни(j)-** (**спасєниє, стараниє**) – ніякага; назоўнікі з індаеўрапейскімі (і.-е.) асновамі на *ĭ ў творным склоне адзіночнага ліку мелі канчаткі, дэтэрмінаваныя родавай прыналежнасцю: ж. р. **костию, ночию** – м. р. **гостьмь, звѣрьмь**.

У старажытны перыяд развіцця беларускай мовы кожны назоўнік праяўляў родавую прыналежнасць ва ўсіх сваіх формах. Род назоўніка можна было вызначыць і ў множным ліку: назоўнікі розных родаў мелі розныя канчаткі. Напрыклад, у назоўным склоне множнага ліку (параўнайце з адпаведнымі сучаснымі формамі):

мужчынскі род: **городи, кънѧзи** – *гарады, князі,*

жаночы род: **головы, зємлѣ** – *галовы, землі,*

ніякі род: **гнєзда, полꙗ** – *гнёзды, палі.*

***Катэгорыя ліку*** уласціва не толькі назоўніку, але і ўсім зменным часцінам мовы. Аднак толькі ў назоўнікаў (і ў асабовых займеннікаў) лік – гэта незалежная, самастойная катэгорыя. У праславянскай мове існавала тры лікі: адзіночны, множны і парны. У працэсе гістарычнага развіцця парны лік знік, а множны – спрасціўся: назоўнікі набылі ўніфікаваныя склонавыя канчаткі, незалежныя ад роду і тыпу скланення.

***Катэгорыя зборнасці*** была лексіка-граматычнай і праяўлялася ў канкрэтных (прадметных) назоўнікаў: сукупнасць асоб абазначалася назоўнікамі жаночага роду (**братьꙗ, кнѧзьꙗ, дꙗдьꙗ**), сукупнасць прадметаў – ніякага (**гольє, камєньє, бєрєзьє**). Зборныя назоўнікі першапачаткова змяняліся па ліках: адзіночны лік – **братьꙗ**, парны – **братьи**, множны – **братьѣ**.

Сучасныя адзіночналікавыя (singularia tantum) і множналікавыя (pluralia tantum) назоўнікі гістарычна ўзніклі ў моўнай практыцы на падставе асаблівасцей семантыкі кожнага асобнага назоўніка. Зборныя і рэчыўныя назоўнікі калісьці мелі формы ліку, пры гэтым яны набывалі адрозненні ў значэнні: **чл҃вкъ посѣꙗвъ жито** [‘зерне’] **и пшеницю... молилсꙗ** (Чэцця, 118б); **жытъ, ꙗрынъ** [‘палеткі, пасевы’] **ѹмысльне травити, ани топтати не маютъ** (Ст. 1588, 59); сучасныя словы *жыта, ярына* з’яўляюцца адзіночналікавымі назоўнікамі.

***Катэгорыя склону*** фармалізуецца ў сістэме сінтаксічных значэнняў, замацаваных за формамі словазмянення назоўнікаў. Сінтаксічныя значэнні склону выражаюцца канчаткамі словаформы або спалучэннем словаформы з прыназоўнікам. У сучаснай беларускай мове назоўны склон ніколі не ўжываецца з прыназоўнікам, а месны – без прыназоўніка. У старажытнасці ўсе склоны маглі ўжывацца без прыназоўніка. Напрыклад, родны склон са значэннем мяжы пры дзеясловах з прыстаўкай **до-**: **Игорь же, дошедъ <u>Дунаꙗ</u>, созва дрѹжинѹ** (Лаўр. лет., 34); давальны склон у значэнні кірунку: **Приде Ѻлегъ изъ Грекъ <u>Тмѹтороканю</u>** (Лаўр. лет., 68), месны склон: **И затворисѧ <u>киевѣ</u> с людми своими** (Лаўр. лет., 250).

На працягу гісторыі канчаткі асобных груп назоўнікаў мяняліся разам з развіццём усёй сістэмы скланення. Акрамя таго, адсутнасць строгай арфаграфічнай нормы ў старабеларускім пісьменстве спрыяла з’яўленню розных графічных варыянтаў канчаткаў. Усё гэта ўскладняе вызначэнне граматычнай формы, таму неабходна ўдумліва аналізаваць кантэкст і ставіць склонавыя пытанні, напрыклад: **Самсонъ... затрѧсе моцьне тыми столпы** (Скар. КС, 36б–37) – **затрѧсе** *чым*? **<u>столпы</u>** – гэта форма творнага склону множнага ліку (форма дапасаванага займенніка **тыми** гэта пацвярджае); **чинимы миръ твердый ис королемь казимиромъ польскымъ и сомовитомъ и съ его <u>братомъ</u> казимиромъ мазовъскымъ** (АЗР, I, 1, 1340): **чинимы** *з кім*? **съ братомъ** – форма творнага склону адзіночнага ліку; **она по смерти своей тое именье Понизье братьи и <u>братанкомъ</u> своимъ... записала** (АСД, III, 90, 1617): **записала** *каму*? **братанкомъ своимъ** – форма давальнага склону множнага ліку. Адзін і той жа канчатак **-омъ** у апошніх прыкладах утварае формы розных склонаў.

*Клічны склон* займаў асаблівае месца ў сістэме склонавых формаў. Ён абазначаў асобу ці прадмет, да якіх звярталіся з гаворкай. Гэта форма ўтваралася толькі ў адзіночным ліку ад назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду пэўных тыпаў скланення (на *ŏ/*jŏ, *ŭ, *ā/*jā, *ĭ). У іншых выпадках зваротак перадаваўся формай назоўнага склону.

Адно і тое ж склонавае значэнне ў розных групах назоўнікаў (пры супадзенні роду і ліку) выражалася рознымі канчаткамі. Напрыклад, родны склон адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду: **стола**, **дому**, **гости**, **камене**. Такія канчаткі называюцца *сінанімічнымі*.

З другога боку, адзін і той жа канчатак у адной і той жа групе назоўнікаў мог служыць паказчыкам розных склонаў. Напрыклад, **кости**, **ночи**, **гости**, **голуби** – родны, давальны і месны склоны адзіночнага ліку. Такія канчаткі – *аманімічныя*.

***Катэгорыя адушаўлёнасці*** – прыватная граматычная катэгорыя, якая фармалізуецца толькі ў форме вінавальнага склону. Вытокі яе палягаюць у лексіка-сінтаксічных адносінах у канструкцыях тыпу «прэдыкат – суб’ект – прамы аб’ект»: патрэба ў граматычных сродках размежавання прамога дапаўнення і дзейніка спрыяла развіццю адметных формаў вінавальнага склону для адушаўлёных назоўнікаў (першапачаткова формы назоўнага і вінавальнага склонаў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду мелі аднолькавыя канчаткі: назоўны (*хто*?, *што*?) **кънѧзь, голѫбь, мечь, домъ**; вінавальны (*каго*?, *што*?) **кънѧзь, голѫбь, мечь, домъ.** Толькі ў назоўнікаў, якія ва ўсходнеславянскі перыяд мелі канчатак **-а** (**вода, землꙗ, воевода, судіꙗ**), форма вінавальнага склону адзіночнага ліку (**воду, землю, воеводу, судію**) адрознівалася ад формы назоўнага склону, г. зн. выражэнне суб’екта і аб’екта не было аманімічным. Далейшае развіццё мовы было накіравана на ліквідацыю аманіміі формаў назоўнага і вінавальнага склонаў для назоўнікаў мужчынскага роду, а таксама ў формах множнага ліку[1].

## Заданні

З а д а н н е 1. Вызначыце род падкрэсленых назоўнікаў. Патлумачце, на падставе чаго вызначаецца род гэтых назоўнікаў.

1) **Которы[и] сирота лета зуполные маючи... повине[н] во[и]ну служити** (Ст. 1529);

2) **ѿ вѣка ѧз[ѕ] ѡкаꙗннаѧ калѣка** (Зб. 107, 111);

3) **ѡ[н] же ꙗко гнилець стелеть ꙗко портъ иже зьѣлъ его моль** (Зб. 262, 17б);

4) **еще одну гусь отъ селянки зъ Пашкова** (ИЮМ, XXV, 47, 1715).

[1]Больш падрабязна пра развіццё катэгорыі адушаўлёнасці, змены ва ўжыванні формаў клічнага склону і парнага ліку гл. у тэме 5.

З а д а н н е 2. Што паказвае на род падкрэсленых назоўнікаў?

1) **въ великой части свѣта монархою зосталъ** (Апокр., 47);

2) **ꙋдарили на ни$^{х}$ а$^{ж}$ свѣ$^{т}$ затми$^{л}$ з пылꙋ** (Скар. КБ, 34б);

3) **плач$^{s}$ сиротъ, вдов$^{s}$ болю неоуимꙋютъ** (Лям., 4);

4) **иди к$^{s}$ мꙋравьи ленивче видь пꙋти ее и оум$^{д}$рѣи иже нѣтъ оу нее пана ани пристава** (Зб. 262, 95б).

З а д а н н е 3. Вызначыце род падкрэсленых назоўнікаў і запішыце для кожнага назоўніка з пары пачатковую форму.

1) **За отвезенье цеклы и вапны сажоной до лазни на тынкованье камина за два возы заплатили** (ИЮМ, 1698). – **Тот их вкинуть в вапно негашеное казал** (Зб. 82);

2) **За вырезыванье погони на ветреникъ**[1] **и за посеребрене и злоцене... заплатили** (ИЮМ, 1681). – **Юрку Котляру за ветреницу до ратуша золот. один и полъ** (ИЮМ, 1689);

3) **Я возный виделъ есми того Игната въ вѣзенью мескомъ под ратушою** (АВК, 1582). – **за грабежи ѡныхъ людей шиею на ратушъ выдати** (КСД, 127, 1514);

4) **Пребыване наше есть выспа, которꙋю ѡгорнула река** (Алекс., 26). – **ѡнъ естъ высопъ на томъ вода велми горꙋча ижъ рꙋка не стерпитъ** (Царств., 79).

[1]**ветреникъ, ветреница** – ‘флюгер’ (ГСБМ. Вып. 3. С. 157).

З а д а н н е 4. У «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» знайдзіце словы **гортань** (вып. 7), **жаль** (вып. 10), **записъ** і **запись** (вып. 11), **мочъ**, **мочь I** (вып. 18). Звярніце ўвагу на ілюстрацыйныя прыклады да гэтых слоў і выкажыце меркаванне адносна граматычнага роду гэтых назоўнікаў.

З а д а н н е 5. Прааналізуйце лікавыя формы падкрэсленых слоў. Адзначце выпадкі адрозненняў ад формаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

1) **птаство неха$^{s}$ се множи$^{т}$ на земли** (Бельск., 2б);

2) **есть тежъ землѧ на повѣтрꙋ, по которой ходѧть и живꙋтъ птаства** (Мак., 121);

3) **гды бы птаха, ꙗкаѧ ѡдно крыло мѣла, не могла бы лѣтати** (Мак., 298);

4) **там мѧ два птаха чл҇кооб(ра)зна стретили и ко мнѣ говорили** (Алекс., 1);

5) **не две ль птахи ценѧт$^{s}$сѧ за одинъ пенѧзь** (Цяп., 13б).

З а д а н н е 6. Прачытайце наступныя прыклады. Растлумачце, чаму ў апошнім з іх назоўнік **медъ** ужыты ў множным ліку.

1) **Мещаномъ Полоцкимъ въставъ**[1] **меду пресного а бочька меду кислого**[2] **съ ключа**[3] **тамъ жо** (КЗ, 297, 1488);

2) **за бочку меду питного**[4] **золотыхъ полосма**[5] (АЗР, III, 236, 1578);

3) **въ дому своемъ брацкомъ тотъ медъ розсычоный**[6] **мѣти и за пѣнези выдавати** (АЗР, IV, 53, 1592);

4) **меды и так великие достатки на славное веселие зготовали** (Стрыйк., 441).

---

[1] **въставъ, уставъ** II – ‘мера мёду’ (ГСБМ. Вып. 35. С. 195).

[2] **медъ кислый** – ‘хмельны напітак ніжэйшага гатунку з мёду, выраблены шляхам яго заквашвання з вадой і хмелем’ (Там жа. Вып. 17. С. 307).

[3] **ключъ** – ‘зямельнае ўладанне, якое складалася з пэўнай колькасці вёсак, фальваркаў і ўгоддзяў’ (Там жа. Вып. 15. С. 130–131).

[4] **медъ питный** – ‘хмельны напітак з мёду, вады, хмелю і вострых прыпраў’ (Там жа. Вып. 17. С. 307).

[5] **полосма** – ‘сем з палавінай’ (Там жа. Вып. 26. С. 195).

[6] **медъ розсычоный** – ‘мядовы хмельны напітак, прыгатаваны шляхам заквашвання і варкі (перагонкі) мёду’ (Там жа. Вып. 17. С. 307).

З а д а н н е 7. Прачытайце наступныя прыклады. Растлумачце, чым адрозніваецца семантыка падкрэсленых назоўнікаў у розных формах ліку.

1) **ꙗденье єго было... толко г҃ зерна <u>бобоу</u> соухаго** (Чэцця, 105);

2) **ѡтє$^{ц}$... ȣпровади$^{л}$ єго за собою до огорода в которо$^{м}$ было по$^{л}$но насѣѧно <u>маку</u>** (Рым., 79б);

3) **того много ста$^{т}$ками на весне сами господари своє збоже травили, <u>маки</u>, <u>горохи</u>, <u>бобы</u> проса, рєпа то все згола погинуло, а которые мо$^{л}$отили ꙗрь, зє$^{р}$нꙗ то$^{л}$ко знакъ** (Барк., 164);

4) **<u>маки</u>, <u>горохи</u>, ꙗчмень ꙗрица, то все морозъ побилъ** (Барк., 165б);

5) **<u>гороҳȣ</u> копа десєть грошє$^{s}$** (Ст. 1588, 514).

З а д а н н е 8. У кожнай пары сказаў знайдзіце і выпішыце зборныя назоўнікі. Што адрознівае іх у плане словазмянення? Запішыце пачатковыя формы назоўнікаў, ужытых у множным ліку, а таксама зборных назоўнікаў.

1) **ȣгрели рыбȣ на вуглꙗх, исус иҳъ возвалъ на обед** (Зб. 255, 47). – **поидет ли ч҃лкъ по оуголью а ноги єго не ѡжьгли бы сѧ** (Зб. 262, 96);

2) **навязка**[1] **на волы и коровы и иншоє быдло** (Ст. 1529, 96). – **которое быдля здохнеть, ино за скуру воловую пять грошей, а за коровью г҃ грошы** (КПД, 558, 1557);

3) тотъ дворецъ[2]... с... дубровами, паросниками[3], кустовьем и зарослями... продали есмо (АВК, XXXVI, 49, 1582). – кусты балсамове и розги посохли (Валх., 60).

[1]навязка – 'штраф' (ГСБМ. Вып. 18. С. 344).
[2]дворецъ – 'маёнтак, фальварак, хутар' (Там жа. Вып. 7. С. 247).
[3]паросникъ – 'пералесак, малады лес' (Там жа. Вып. 24. С. 16).

З а д а н н е 9. Выпішыце з ніжэйпрыведзеных сказаў адзіночналікавыя і множналікавыя назоўнікі.

1) шестьдесятъ золотыхъ маютъ намъ дать на Громницы (КЗ, 213, 1486);

2) Золотари, которые золото срэбро фалшуютъ и межи того мешают медь або цы[н][1] або олов[2]... маютъ быти огнемъ караны (Ст. 1566, 12);

3) головня оуголью а дрыва огню а му[ж] сварливый тому хто задираетъ сва[р] (Зб. 262, 107);

4) в малых днех иж ся ему дивовати почали, игралъ в шахы и в варцабы[3] лепшей надъ иныхъ (Трыст., 13);

5) Брунор былъ раненъ у перси велми глубоко (Трыст., 73).

6) прикажи сыно[м] изра[и]левы[м], абы принесли до тебе оливы[4] зъ оливного дерева (Біблія, 143);

7) на харчъ и на дрожджи дали пивоваромъ осмак. двадцать (ИЮМ, IX, 17, 1692).

[1]цынъ, цына – 'волава' (пол. *cyna*).
[2]оловъ – 'свінец' (ГСБМ. Вып. 22. С. 195).
[3]варцабы – 'шашкі' (Там жа. Вып. 3. С. 11).
[4]олива – 'алей з пладоў аліўкавага дрэва' (Там жа. Вып. 22. С. 192).

З а д а н н е 10. Зрабіце марфалагічны разбор падкрэсленых слоў і звярніце ўвагу на адрозненні ў іх значэнні. Якую граматычную асаблівасць мае адпаведны назоўнік у сучаснай беларускай мове?

1) Начинье ковальское – клещи, молоты и топоровъ пять, то все за три копы коштовало (АВК, XXXVI, 327, 1582);

2) звыча[и] былъ... оны[х] до певъныхъ реме[с]никовъ и ва[р]статовъ и начи[н] реме[с]ничихъ водити (Зб. 259, 584б).

З а д а н н е 11. Зыходзячы з кантэксту, вызначыце семантыку падкрэсленых назоўнікаў. Зрабіце іх марфалагічны разбор.

1) тотъ Янъ молодший выехалъ а старшие братья дома (ПВЛ, 561, 1567);

2) Ѿца твоего и матку и братию и всю твою родину зберешъ до дому своего (Біблія, 234);

3) готовъ есми того довести[1] и дядьками моими... которыи на родинахъ и на христинахъ были (АВК, XXI, 266, 1556).

[1]довести – ‘прадставіць доказы, даказаць, засведчыць, паказаць’ (ГСБМ. Вып. 8. С. 171).

З а д а н н е 12. У прыведзеных ніжэй сказах знайдзіце назоўнікі, ужытыя ў клічным склоне. Запішыце іх пачатковую форму.

1) Самъ же того, княже, посмотри, гораздо ль то ся дѣеть (АЗР, I, 129, 1493);

2) Вся таѧ навальность страшливы$^{м}$ вѣтромъ взрȣшоных$^{ъ}$ водъ, не могла тебе, ѡ граде бж҃ій, затопити (Карп., 47);

3) а пото$^{м}$ коли сѧ воротила до свекрови своей, ȣслышала ѿ ней: дочко моꙗ пошукаю тобѣ ѿпочине$^{н}$ꙗ (Біблія, 139);

4) Єгиптѧне... написали ли$^{ст}$ до филиппа, такъ ѡ великій лѣкарȣ филиппе, коли бы еси Алеѯандра ȣмори$^{л}$ ꙗдовиты$^{м}$ зеліемъ... (Алекс., 28);

5) Алимпиꙗда... казала до себе возва$^{т}$ вѣщка[1] и рекла ему: мȣдръче, живо$^{т}$ мой великими болестьми есть дрȣчонъ[2] (Алекс., 3б).

[1]вещокъ – ‘вяшчун, чараўнік’ (ГСБМ. Вып. 3. С. 7).

[2]дручоный – ‘змучаны’ (Там жа. Вып. 9. С. 88).

З а д а н н е 13. У кожнай групе сказаў размяжуйце аманімічныя формы назоўнага і вінавальнага склонаў назоўнікаў на падставе кантэксту (звярніце ўвагу на тое, што абазначаюць такія формы – суб’ект ці аб’ект дзеяння). З развіццём якой граматычнай катэгорыі ліквідуецца гэта аманімічнасць?

1) оже кто въсѧдеть на чюжь конь... (Руск. пр., 1282); кмет жаловал на свои сѫседы ижь емȣ вночи конь украден (Вісл., 22б); естли бы подводъный конь усталъ альбо здох (КПД, 598, 1558);

2) хто... хоче$^{т}$ свои свиньи гнати оу то$^{т}$ лѣ$^{с}$ чере$^{с}$ чюжое имѣніе, тогды не может то$^{г}$ оучини$^{т}$ ѡдно пȣтемь правымъ (Вісл., 38); ходили мои свинни две на поли (ИЮМ, XXXII, 219, 1578);

3) пани Спытковаꙗ ѡ$^{в}$довела, а дети малы (Увар., 101); бы$^{л}$ иѡ$^{в}$ живъ после сего р҃м лѣтъ и оувиде$^{л}$ дѣти свои и дѣти детеи свои$^{х}$ чотыри роды (Зб. 262, 30б); чи могуть причащати сѧ дѣти малыѧ? (Зб. вып., 25);

4) ѡбапол езера люди жівȣть (Вісл., 10б); много зла оучинили Московичамъ и в полонъ повели многиа люди (Увар., 109).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Граматычная катэгорыя роду назоўнікаў – гэта катэгорыя:

1) універсальная;
2) лексіка-граматычная;
3) фармальна-граматычная;
4) формаўтваральная;
5) лексічна абмежаваная.

**2.** Адзначце ўсе правільныя выказванні.

1) Катэгорыя роду заўсёды звязана з семантыкай назоўніка.

2) Катэгорыя роду абумоўлена семантыкай для ўсіх адушаўлёных назоўнікаў.

3) Першапачаткова адрозненні ў родзе праяўляліся ва ўсіх лікавых формах.

4) Значэнне граматычнага роду аднолькавае для адпаведных назоўнікаў ва ўсіх славянскіх мовах.

5) Значэнне граматычнага роду назоўніка выражаецца ў канчатках дапасаваных да яго слоў.

**3.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3, 4, 5, 6) падкрэсленае слова – назоўнік... (а, б, в) роду.

1) **Русин... ударил печенига в толстое <u>брухо</u> головою** (Стрыйк., 448);

2) **як... может праздновати той, который <u>брух</u> свой мает собе за Бога** (Каліст., І, 103б);

3) **Им поможетъ <u>мура</u> каменная и зброя железная** (Арыст., 148);

4) **двор был огорожен вельми твердым <u>муром</u>** (Трыст., 70);

5) **Много людей зъ стюдени померло по селам и по городомъ бо велми великаꙗ <u>стюдень</u>** (Рач., 273);

6) **вложоно в тую комягу... крошоное рыбы тисечи две и сто, кожды <u>тисеч</u> рахуючи по петдесят грошей** (АВК, XXXIX, 227, 1579);

а) мужчынскага;
б) ніякага;
в) жаночага.

**4.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3) падкрэсленае слова... (а, б, в).

1) **видехⷥ сѣ древо стоꙗше посⷥреди земли, и вышинꙗ его превелика бѣ. И <u>ветие</u> его велико вельми и моцⷥно** (Скар. ДП, 16);

2) **тогды вси Ꙋтꙗша**[1] **по <u>вѣти</u> вѣликой и несоша за Авимелехомъ** (Скар. КС, 24);

3) **со вѣтьми и вонѧми**[2] **въ ц҃рковъ ст҃ꙋю подьмо** (Чэцця, 314б);

[1]**ѵтяти** – ‘ссячы’ (ГСБМ. Вып. 35. С. 306).

[2]**воня** – ‘пах, духмянасць’ (Там жа. Вып. 4. С. 181).

а) з’яўляеццца зборным назоўнікам;

б) ужыта ў форме адзіночнага ліку;

в) ужыта ў форме множнага ліку.

**5.** Прачытайце вершаваныя радкі.

А пад паветкаю прылады:
Вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы
І вулляў некалькі на пчолы.

(*Я. Колас*. «Новая зямля»)

Дапоўніце сказы прапанаванымі ніжэй словамі так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

1. Змяняюцца па ліках назоўнікі… (а, б, в, г, д, е, ё, ж).

2. З’яўляюцца множналікавымі назоўнікі… (а, б, в, г, д, е, ё, ж).

а) прылады;

б) калёсы;

в) панарады (‘каркас, аснова калёс’, ‘калёсы без драбін’);

г) сані;

д) восі;

е) колы;

ё) вулляў (некалькі);

ж) (на) пчолы.

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Множналікавыя назоўнікі ёсць у сказах:

1) **в калитє дєй было копъ тры грошей готовых** (АВК, XXXVI, 295, 1582);

2) **мають брати за за працꙋ свою пересудꙋ ѿ копы литовъскоє по два грошы литовскихъ** (Ст. 1588, 128–129);

3) **полѵгрошокъ Польский маєть отмѣненъ быти за чотыри пѣнязи Литовскихъ** (АЗР, II, 36, 1508);

4) **онъ… пенязи єго милости серебщизныє, корчомныє, подякольныє и житныє… побралъ** (АВК, XVII, 36, 1539);

5) **тогды онъ бенѧшъ ждановичъ тоє сꙋмы тысєча копъ грошеѕ ємꙋ колонътаю нє ѡтъдалъ** (КЛС, 1б, 1596);

6) **позычилъ ємѵ два рѵбли денегъ московскихъ** (АВК, XXXIX, 55, 1578);

7) **взялъ съ каждого коня и з жеребяти и съ клячи по денъзє** (КЗ, 473, 1448).

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У прыведзеным ніжэй сказе зборнымі з’яўляюцца назоўнікі:

1) **ȣлєѕ**;
2) (**з**) **бортью**;
3) **вєръховъє**;
4) **корєⷩє**;
5) (**в**) **пȣщы**.

**вольно имъ ȣлєѕ з бортью выпȣстити**[1] **и вывести а вєръховъє и корєⷩє ѡставити в пȣщы** (Ст. 1588, 381).

[1] **выпȣстити** – ‘аддаць’ (ГСБМ. Вып. 6. С. 49).

**8.** Адзначце характарыстыкі катэгорыі адушаўлёнасці.

1) з’яўляецца ўніверсальнай;
2) з’яўляецца лексічна абмежаванай;
3) для назоўнікаў усіх трох родаў выражаецца формамі вінавальнага склону ва ўсіх ліках;
4) для назоўнікаў мужчынскага роду праяўляецца ў вінавальным склоне;
5) для назоўнікаў жаночага і ніякага роду выражаецца ў вінавальным склоне адзіночнага ліку;
6) для назоўнікаў жаночага і ніякага роду выражаецца ў вінавальным склоне множнага ліку.

**9.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Формы клічнага склону прадстаўлены ў сказах:

1) **Квѣтє мои иди до домȣ** (Зб. 752, 16);
2) **Коли жито в самомъ кветє было** (АВК, XVIII, 263, 1633);
3) **госѵдарѵ ѡтче, выслѵхаи менє** (Бава, 145);
4) **приходꙗче поклонꙗютсѧ славномѵ гдрю** (Увар., 102).

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Катэгорыя адушаўлёнасці фармальна выражана ў наступных прыкладах з «Рускай праўды» па спісе 1282 г.:

1) **Ажь оѵбьѥть моѵжь моѵжа, то мьстити братоѵ;**
2) **Аже кто оѵбиѥть кнѧжа моѵжа въ разбои а головника не ищють;**
3) **Аже челѧдинъ съкрыѥтьсѧ. а закличють и**[1] **на търгоѵ... а познаѥти и... тъ свои челѧдинъ поꙗти;**
4) **Оже придеть кръвавъ моѵже на дворъ или синь то видока**[2] **ѥмоѵ не искати;**
5) **Или не боѵдеть на немь знаменꙗ**[3]**, то привести ѥмоѵ видок.**

[1]**и** – тут форма вінавальнага склону ўказальнага займенніка «яго».
[2]**видокъ** – ‘сведка’ (Хрэстаматыя... С. 460).
[3]**знамение** – ‘знак, метка’ (Там жа. С. 470).

Тэма 2

# Тыпалогія старажытнага скланення. Эвалюцыя скланення назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку

**Скланенне** – гэта змяненне па склонах і ліках. Вядомы дзве сістэмы старажытнага скланення: *іменная* (для назоўнікаў, кароткіх прыметнікаў і дзеепрыметнікаў) і *займенная* (для неасабовых займеннікаў, поўных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў, а таксама парадкавых лічэбнікаў).

Тыпалагічнае даследаванне гісторыі скланення прадугледжвае выяўленне падабенстваў. Так, назоўнікі, якія маюць аднолькавыя серыі склонава-лікавых флексій, аб'ядноўваюцца ў адзін тып скланення.

Славянскія мовы атрымалі ў спадчыну ад індаеўрапейскай *шасцітыпную сістэму скланення назоўнікаў*. Па тыпах скланення назоўнікі размяркоўваліся ў залежнасці ад апошняга гука і.-е. асновы:

- *ā/*jā: *vodā-, *zemjā-;
- *ŏ/*jŏ: *gordŏ-s, *konjŏ-s; *selŏ-d, *poljŏ-d;
- *ŭ: *sūnŭ-s;
- *ĭ: *gostĭ-s, *kostĭ-s;
- *на зычны: *imen-, *kamōn > *kamy, *telent-, *slovos-, *mater-;
- *ū: *svekrū-s.

Фанетычныя працэсы, што адбыліся ў старажытнасці[1], істотна змянілі гукавую форму слова: *zemjā > … *зямля*, *gordŏ-s > … *горад*,

[1]На канцы адкрытага склада спрасціліся зычныя; j-палаталізацыі прывялі да ўзнікнення мяккіх зычных; утварыліся спецыфічныя славянскія галосныя: *ŏ, *ŭ > [ъ], *ĭ > [ь], *ū, *y > [ы], з'явіліся насавыя галосныя на месцы спалучэнняў *галосны* + *санорны* *m, *n і іншыя змены.

*imen > ... *імя* і г. д. Акрамя таго, змянілася і марфалагічная будова: адбылося перараскладанне – аснова слова скарацілася на карысць канчатка (напрыклад, у формах назоўнага склону адзіночнага ліку: *vodā-ø > **вод-а** > *вад-а*, *gordŏ-s > **город-ъ** > *горад-ø*). Рэшткі і.-е. асновы выяўляюцца і ў формах іншых склонаў (напрыклад, у адзіночным ліку ў давальным склоне: *vodā-i > *vod-aî > *vod-ě (**вод-ѣ**) > *вадз-е*, у вінавальным склоне: *vodā-m > *vod-ǫ (**вод-ѫ**) > *вад-у* і г. д.).

Супаставім і.-е. тыпы асноў з іх сучаснымі адпаведнікамі. Так, асновы **на *ā/*jā** мелі назоўнікі жаночага роду, якія сёння выступаюць з канчаткам *-а/-я* (*вада, рука, зямля*), а таксама некаторыя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду (тыпу *стараста, ваявода, суддзя*); гэты тып скланення меў дзве разнавіднасці: цвёрдую – з асновай на цвёрды зычны (**вада, галава, дарога**) і мяккую – з асновай на мяккі зычны (на спрадвечна мяккі зычны – **земля, сбруя, межа, каша, круча**).

Тып скланення **на *ŏ/*jŏ** аб'ядноўваў чатыры словазмяняльныя парадыгмы: назоўнікі мужчынскага роду цвёрдай разнавіднасці (**городъ, хлѣбъ, порогъ**) і мяккай (на спрадвечна мяккі зычны – **край, кнѧзь, мечь, мужь**), ніякага роду цвёрдай разнавіднасці (**окно, болото, озеро**) і мяккай (**поле, море, плече**).

Тып скланення **на *ŭ** належаў назоўнікам мужчынскага роду (да страты рэдукаваных – двухскладовыя). У пачатку пісьмовай пары па гэтым тыпе паслядоўна змяняліся толькі некалькі з іх: **сынъ, домъ, волъ, медъ, вьрхъ, полъ** 'палова'. Верагодна, раней колькасць назоўнікаў, якія скланяліся такім чынам, была большай (**бобръ, боръ, даръ, ледъ, миръ, низъ, пиръ, плодъ, чинъ** і інш.).

Па тыпе скланення **на *ĭ** змяняліся назоўнікі мужчынскага роду на другасна памякчоны зычны (**голубь, зѧть, медвѣдь**) і назоўнікі жаночага роду на спрадвечна мяккі (**ночь, пѣчь, мышь**) і другасна памякчоны (**осень, грязь, медь** 'медзь', **радость**). Да страты рэдукаваных гэтыя назоўнікі мелі канчатак **-ь**.

Да тыпу скланення **на зычны** адносіліся словы ўсіх трох родаў. Адметнай асаблівасцю гэтага скланення было ўзнікненне ўстаўкі (з рэштак старажытнай асновы) перад канчаткам. Так змяняліся назоўнікі ніякага роду **на *en** (*imen- – **имѧ, имене, имени, именемь...**; **беремѧ, вымѧ, племѧ, полъмѧ, семѧ, стремѧ, темѧ**), **на *es** (*slovos- – **слово, словесе, словеси...**; **коло, колесе...**; **око, ухо, небо, тѣло** і да т. п.), **на *ent** (> ęt > 'at) – назвы маладых істот (*telent- > **телѧ, телѧте, телѧти...**; **дитѧ, жеребѧ, ягнѧ** і да т. п.). Назоўнікі мужчынскага роду ў выніку фанетычных змен у назоўным склоне набылі форму **на -ы**: *kamōn > *kamy – **камы, камене, камени, каменьмь...**; **корень, кремень, ремень, ячмень** і да т. п.). Назоўнікаў жаночага роду, што скланялі-

ся па гэтым тыпе, было ўсяго два: *mater- > **мати, матєрє, матєри, матєрью**... і *dъčer- > **дъчи, дъчєрє**... .

З дабаўленнем устаўкі (суфікса) *-ъv- скланяліся і назоўнікі з асновай **на *ū** (таму некаторыя даследчыкі аб'ядноўваюць іх з папярэднім тыпам), аднак іх суфікс не быў часткай і.-е. асновы формы назоўнага склону адзіночнага ліку: *svekrū-s > **свєкры, свєкръвє, свєкръви, свєкръвию**...; **кры, кръвє, кръви**..., **любы, любъвє**..., **мъркы, мъркъвє**..., **цьркы, цьркъвє**... . Назоўнікі гэтага тыпу ў форме назоўнага склону захавалі старажытную ўстаўку **-ъв-** > *-ов-/-оў-* ці *-в-*: *свякр**оў*** або *свякр**ов**а*, *кр**оў***, *любо**ў***, *морк**в**а*, *цар**кв**а*.

Каб зразумець ***эвалюцыю сістэмы скланення***, найперш трэба навучыцца вызначаць зыходны тып скланення, пры гэтым зручна прытрымлівацца наступнага алгарытму (схема 1):

1) высветліць, ці з'яўляецца пры скланенні ўстаўка: калі яна ёсць, то па ёй вызначаем тып скланення – на зычны (*-en-; *-ent-; *-es-; *-er-) або на *ū;

2) вызначыць род назоўніка:

– калі ніякі, то гэта скланенне на *ŏ/*jŏ;

– калі жаночы, то звяртаем увагу на канчатак: *-а/-я* – скланенне на *ā/*jā; -ь (ці нулявы) – скланенне на*ĭ;

– калі мужчынскі, то глядзім на якасць апошняга зычнага: а) зычны цвёрды і назоўнік неаднаскладовы – тып скланення на *ŏ, назоўнік аднаскладовы – магчыма, тып скланення на *ŭ; б) зычны мяккі – высвятляем паходжанне мяккасці: спрадвечная – тып скланення на *jŏ, другасная – тып скланення на *ĭ.




*Схема 1.* Алгарытм вызначэння старажытнага тыпу скланення

Сучасная сістэма скланення ўзнікла ў выніку ўзаемадзеяння назоўнікаў розных тыпаў і.-е. асноў і перагрупоўкі тыпаў скланення на падставе граматычнага роду. Пры гэтым спрыяльным фактарам было супадзенне канчаткаў у форме назоўнага склону: *gordŏ-s > **город-ъ** і *sūnŭ-s > **сын-ъ**. У формах ускосных склонаў або перамагаў адзін з тыпаў скланення, або заставаліся варыянты (табл. 1).

Калі ў сучаснай беларускай мове захаваліся абодва варыянты канчаткаў таго ці іншага назоўніка мужчынскага роду, то іх ужыванне залежыць не ад характару і.-е. асновы, а звязана з семантыкай слова і з якасцю апошняга зычнага сучаснай асновы.

Важнай перадумовай аб'яднання ў адзін тып скланення назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай (гэта маглі быць назоўнікі з асновамі на *jŏ і на *ĭ) было другаснае памякчэнне зычных (*konjŏ-s > [кон'-ь] і *ognĭs > [огн·-ь] > [огон'-ь]) і наступнае супадзенне формаў назоўнага склону (табл. 2).

Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду адносіліся да тыпу скланення на зычны. Ва ўскосных склонах яны мелі ўстаўку -**мен**-. Старажытная форма назоўнага склону адзіночнага ліку заканчвалася на -**ы**, і менавіта яна найперш зведала змены па граматычнай аналогіі: супала з формай вінавальнага склону (В. скл.: **камень, ремень, корень**; Н. скл.: **камы, ремы, коры** > **камень, ремень, корень**) і стала заканчвацца на памякчоны [н·], як і назоўнікі мужчынскага роду скланення на *ĭ. Пасля другаснага памякчэння зычных гэтыя назоўнікі, як і назоўнікі скланення на *ĭ, аб'ядналіся з тыпам скланення на *jŏ (табл. 3).

Аналагічна скланяўся назоўнік **дьнь** (Р. скл.: **дьне**, Д. скл.: **дьни**, Т. скл.: **дьньмь**, М. скл.: **дьне**).

Такім чынам, усе назоўнікі мужчынскага роду аб'ядналіся ў адным тыпе скланення.

У старабеларускіх пісьмовых помніках адлюстраваліся розныя прамежкавыя этапы перабудовы старажытнай сістэмы скланення. Напрыклад, у сказе **зако[н] подобны[s] замкови ѡ[б]точоному мꙋрами** (Зб. 261, 133б) назоўнік **замъкъ** ужыты з канчаткам скланення на *ŭ (як **сынови**), аднак першапачаткова ён скланяўся па тыпе асноў на *ŏ і выступаў з канчаткам -**ѵ**.

Назоўнікі мужчынскага роду з суфіксамі -**тел**'-, -**ар**'-, -**ан-ин**- (тыпу **читатель, знахарь, полочанинъ**) былі рознаскланяльнымі: у формах адзіночнага і парнага ліку яны скланяліся па тыпе асноў на *ŏ/*jŏ, а ў форме множнага – як назоўнікі з асновамі на зычны.

*Табліца 1*

**Вынікі ўзаемадзеяння тыпаў скланенння на *ŏ і на *ŭ**

| Склон | Формы стражытнага скланення | | Формы сучаснага скланення | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | на *ŏ | на *ŭ | | | |
| | з канчаткам | | | | |
| Р. | **-а** | **-у** | **-а** | **-у** | |
| | **Бога, брата, города, ѣльника, замъка, кваса, топора, смѣха** | **верхꙋ, волꙋ, домꙋ, медꙋ, сынꙋ** | адушаўлёныя: *Бога, брата, сына, вала*; канкрэтныя: *горада, дома, замка, тапара* | абстрактныя: *смеху*; рэчыўныя: *квасу, мёду*; зборныя: *ельніку* | |
| Д. | **-у** | **-ови** | **-у** | | |
| | **Богꙋ, братꙋ, городꙋ, замъкꙋ, топорꙋ** | **домови, сынови** | *Богу, брату, гораду, дому, ельніку, замку, тапару, смеху, сыну* | | |
| Т. | **-омь** | **-ъмь** | **-ом/-ам** | | |
| | **братомь, городомь,** | **волъмь, сынъмь** | *братам, валом, горадам, сынам* | | |
| М. | **-ѣ** | **-у** | **-е** | **-у** | **-ы** |
| | **Бозѣ, братѣ, городѣ, замъцѣ, топорѣ, смѣсѣ** | **верхꙋ, домꙋ, сынꙋ** | з цвёрдым зычным на канцы асновы ў Н. скл.: (*у*) *горадзе*, (*пры*) *браце*, (*аб*) *сыне*, (*у*) *доме*; неасабовыя на заднеязычны (з чаргаваннем): (*на*) *версе* | асабовыя на заднеязычны і зацвярдзелы: (*па*) *Богу*, (*пры*) *сторажу*; неасабовыя на заднеязычны (без чаргавання): (*па*) *смеху*, (*па*) *верху* | неасабовыя на зацвярдзелы: (*на*) *тапары*, (*па*) *мячы* |
| | **-и** (*jŏ) | | | | |
| | **мечи, сторожи** | | | | |

З а ў в а г а. Формы вінавальнага склону тут не разглядаюцца – яны змяняліся з развіццём катэгорыі адушаўлёнасці (**виделъ братъ** > **виделъ брата**).

*Табліца 2*

**Вынікі ўзаемадзеяння тыпаў скланення**
**на *jŏ і на *ĭ**

<table>
<tr><th rowspan="3">Склон</th><th colspan="2">Формы стражытнага скланення</th><th>Формы сучаснага скланення</th></tr>
<tr><th>на *jŏ</th><th>на *ĭ</th><th>аналогія са скланеннем на *jŏ</th></tr>
<tr><th colspan="3">з канчаткам</th></tr>
<tr><td rowspan="2">Р.</td><td>-я</td><td>-и</td><td>-я</td></tr>
<tr><td>кънѧзꙗ, конꙗ</td><td>гости, огни</td><td>князя, каня, госця, агня</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Д.</td><td>-ю</td><td>-и</td><td>-ю</td></tr>
<tr><td>кънѧзю, коню</td><td>гости, огни</td><td>князю, каню, госцю, агню</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Т.</td><td>-емь</td><td>-ьмь</td><td>-ем/-ём</td></tr>
<tr><td>кънѧземь, конемь</td><td>гостьмь, огньмь</td><td>князем, канём, госцем, агнём</td></tr>
<tr><td rowspan="4">М.</td><td>-и</td><td>-и</td><td>-і</td></tr>
<tr><td rowspan="3">кънѧзи, кони</td><td rowspan="3">гости, огни</td><td>(на) кані, (у) агні</td></tr>
<tr><td>асабовыя<br>-ю (па аналогіі з *ŭ-скланеннем)</td></tr>
<tr><td>(пры) князю, (аб) госцю</td></tr>
</table>

*Табліца 3*

**Трансфармацыя назоўнікаў мужчынскага роду**
**з і.-е. асновамі на зычны**

<table>
<tr><th rowspan="2">Склон</th><th colspan="2">Формы стражытнага скланення</th><th>Формы<br>сучаснага скланення</th></tr>
<tr><th>на зычны</th><th>аналогія<br>са скланеннем на *ĭ</th><th>аналогія<br>са скланеннем на *jŏ</th></tr>
<tr><td>Н.</td><td>камы, ремы</td><td>камень, ремень</td><td>камень, рэмень</td></tr>
<tr><td>Р.</td><td>камене, ремене</td><td>камени, ремени</td><td>каменя, рэменя</td></tr>
<tr><td>Д.</td><td>камени, ремени</td><td>камени, ремени</td><td>каменю, рэменю</td></tr>
<tr><td>В.</td><td>камень, ремень</td><td>камень, ремень</td><td>камень, рэмень</td></tr>
<tr><td>Т.</td><td>каменьмь, ременьмь</td><td>каменьмь, ременьмь</td><td>каменем, рэменем</td></tr>
<tr><td>М.</td><td>камене, ремене</td><td>камени, ремени</td><td>на камені, рэмені</td></tr>
</table>

Склонавыя формы назоўнікаў ніякага роду з асновамі на *ŏ/*jŏ ў працэсе гістарычнага развіцця зведалі толькі фанетычныя змены: страту рэдукаваных галосных і зацвярдзенне губных зычных (напрыклад, у творным склоне адзіночнага ліку: **польмь** > *полем*), пераход [е] > [о] (напрыклад, у творным склоне адзіночнага ліку: **плечьмь** > **плечем** > *плячом*), дэфаналагізацыю <ĕ> (напрыклад, у месным склоне адзіночнага ліку: **окнѣ** > **окнє** > *акне*) і інш. Назоўнікі ніякага роду з і.-е. асновамі на зычны або перасталі далучаць устаўку і супалі ў скланенні з іншымі назоўнікамі ніякага роду (*слова*, *вуха*, *вока* сталі змяняцца як *акно*, *сяло*, *возера*), або захавалі варыянты і сталі рознаскланяльнымі (напрыклад, у родным склоне адзіночнага ліку: *імя//імені*, *цяля//цяляці*; у давальным склоне адзіночнага ліку *імю//імені*, *цялю//цяляці* і г. д.).

Такім чынам сфарміравалася І скланенне[1] назоўнікаў. Пры гэтым колькасць рознаскланяльных назоўнікаў павялічылася.

## Заданні

Заданне 1. Вызначыце тып старажытнага скланення (паводле і.-е. асновы) прапанаваных назоўнікаў.

Абруч, бабёр, верх, вецер, востраў, вуж, гарох, дзень, дом, камень, корань, лекар, мудрэц, парог, пень, прарок, рубель, рэмень, стэп, сын, хлеб, хрысціянін, ячмень.

Заданне 2. Ці па аднолькавай мадэлі ўтвораны словы *дурань* і *корань*, *крэмень*, *прамень* і *вязень*; *ёлупень*, *струмень* і *студзень*. Аднавіце праформы і вызначыце тып старажытнага скланення гэтых назоўнікаў. Пры неабходнасці звяртайцеся да «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы».

Заданне 3. Падумайце і адкажыце, да якога тыпу скланення адносіліся словы *звер*, *вугаль*, улічыўшы, што ў літоўскай мове ім адпавядаюць *žveris*, *anglis*?

Заданне 4. Размяжуйце ніжэйпрыведзеныя назоўнікі ніякага роду паводле тыпу старажытнага скланення. Для выканання задання вызначыце, якія з іх адносіліся да скланення на *ŏ/*jŏ, а якія – да скланення з асновай на зычны (для апошніх укажыце ўстаўку).

Акно, бервяно, вясло, вуха, гняздо, жарабя, зерне, зубраня, калоссе, кола, лязо, племя, полымя, слова, стрэмя, сяло, цела, цемя, шчаня.

---

[1]І скланенне называем тут у адпаведнасці з акадэмічнай традыцыяй. Па школьнай традыцыі гэта скланенне называюць ІІ (другім). Часам, каб пазбегнуць непаразумення, ужываюць назву «мужчынскае» скланенне.

З а д а н н е 5. Вызначыце тып скланення, род, лік і склон назоўнікаў у прапанаваных сказах.

1) **продалъ ему домъ свой у мѣстѣ Каменецкомъ и со огородом, который лежитъ... по малую улочку, што к рѣцѣ идеть** (РПП, 166, 1528);

2) **ȣсȣнȣлосе с$^{ѕ}$тадо по берегу в$^{ѕ}$ море... и тонули в мори** (Цяп., 49);

3) **в$^{ѕ}$ пȣщахъ и в$^{ѕ}$ гора$^{х}$ волки, ме$^{д}$ведѣ, и львы, звѣръ есть барзо срокгій** (Каліст, II, 192б);

4) **къ тому, завели и подали есмо владыцѣ его милости на тые три волоки у селѣ Паршевицкомъ три приселенья у-въ одномъ мѣстцу** (АЗР, V, 16, 1633).

З а д а н н е 6. Прааналізуйце падкрэсленыя назоўнікі ў форме роднага склону адзіночнага ліку: выявіце тып старажытнай асновы, адзначце іх першасныя (традыцыйныя) і новыя склонавыя канчаткі.

1) **Алексайре ц҃рю далеи краю не ходи** (Алекс., 1);

2) **срдце страшливое противу громоту**[1] **боꙗзни не постоить** (Скар. ІС, 35б);

3) **мы ни одного гроша на жадъные**[2] **потребы наши тыхъ пенязей не хочемъ оборочати** (КПД, 6, 1538);

4) **клꙗчȣ... кȣпилъ есми ѡди$^{н}$ на ѡдинъ в гостꙗ**[3] **не знаю его** (КВЗС, 111б, 1539);

5) **нижли до верху и початку того фалшывого декрету** (АВК, XXXII, 12, 1596);

6) **Подлѣ того дому стайня непокрытая, безъ верха** (АВК, VIII, 490, 1601);

7) **слуга замковый... торбу взялъ, и, вглянувши внутру, червоные золотые обачивши... отнесъ ее до замку, до вряду** (АЗР, IV, 216, 1600–1605);

8) **ничо$^{г}$ власно$^{г}$ ѡпро$^{ч}$ лȣка, шабли и ѡщепȣ**[4] **не мѣ$^{ли}$** (Стрыйк., 429);

9) **голос грома твоего был на ѡкрȣгу** (Пс. XVII, 63б);

10) **тогды люде страшливыи, того громȣ и гȣкȣ бȣинаго не слыхали** (Алекс., 59б);

11) **Ст҃аѧ Ѯениѧ... въсевъшы до караблꙗ приплынȣла до Алеѯандрыи** (Зб. 752, 496б);

12) **тая меду лубочка важыла пудъ одинъ** (ИЮМ, IV, 286, 1688);

13) **былъ нѣꙗкъ раненъ ѡт медьведѧ дикого** (Трыст., 71);

14) **За направованье котелка и ковша дали...** (ИЮМ, XI, 40, 1697).

[1]**громотъ** – ‘грукатанне, грымоты’ (ГСБМ. Вып. 7. С. 174).

[2]**жадный** – займеннік ‘ніякі’ (Там жа. Вып. 9. С. 245).

[3]**гость** – ‘купец, іншаземец’ (Там жа. Вып. 7. С. 116).

[4]**ощепъ** – ‘кап’ё’ (Там жа. Вып. 23. С. 375).

З а д а н н е 7. Сярод падкрэсленых выявіце новыя (нетрадыцыйныя, другасныя) формы давальнага склону назоўнікаў і растлумачце, па аналогіі з якім тыпам скланення яны ўзніклі.

1) Даємъ <u>слузѣ</u> нашему <u>Юркови</u> Козеняти на своемъ селѣ на Хвотовцехъ ·н҃· копъ (АЗР, I, 45, 1424);

2) <u>дьяку</u> на проскуры давать зъ двора нашого будемъ (АВК, II, 2, 1431);

3) <u>даниелови</u> межи грозных львовъ седѧчомоу ѡбед принеслъ (Валх., 49);

4) мы приказали Стѣцкꙋ, абы томꙋ сынꙋ своемꙋ <u>Станиславу</u> велелъ передъ нами въ четвергъ стати (КСД, 14, 1510);

5) кождый олейникъ не маетъ продовать <u>гостю</u> безъ ведомости старостиной (ИЮМ, VII, 340, 1582);

6) [царь] листы ко всѣмъ землѧⷨ ц҃рскыⷨ коⷤдои земли по <u>писмꙋ</u> еѧ и кажⷣомꙋ <u>людꙋ</u> по <u>ꙗзыкꙋ</u> его (Зб. 262, 127б);

7) подобне ѡни… <u>птахови</u> которыⷥ коли зплутаеть ноги в сети юⷤ летати не можеⷮ (Зб. 262, 133б);

8) Авимелехъ… вернулⷥ <u>авраамови</u> Сарⷥру жену его (АВК, XVII, 232, 1540);

9) пришодши которие въ одиннадцатую годину, взѧли по <u>грошу</u> (Цяп., 27б);

10) бѣда <u>народꙋ</u> грешномꙋ (Бельск., 137б);

11) Ѿправивши триⷥнꙋ <u>мꙋжеви</u> своемꙋ, казала на ѡноⷨ мѣстцꙋ высокꙋю могилꙋ ꙋсыпаⷮ (Стрыйк., 441);

12) по апостолскомꙋ <u>словꙋ</u> Б҃га боитⷥсѧ, Ц҃рѧ чтитъ, Братство любитъ (Карп., 10–10б);

13) бегучы по <u>пескꙋ</u> а видꙗчы ижь слѣдомъ нас доⷥти може, ꙋзрѣли ꙗмꙋ ѡднꙋ (Зб. 82, 47б).

З а д а н н е 8. У наступных сказах знайдзіце назоўнікі, якія мелі і.-е. асновы на зычны. Выпішыце новыя (другасныя) формы, супастаўце іх з традыцыйнымі.

1) противу имъ никгды не бытии ни однымъ веремянемъ безо лѣсти и безъ хитрости (АЮЗР, II, 104, 1393);

2) ц҃рь… повелѣⷧ никитоу свѧзати ременеⷨ сырымъ (Чэцця, 32б);

3) добримъ ласкавымъ окомъ посмотри (КЗ, 350, 1484);

4) розмаите немоци и многіе болести ѡдныⷨ словоⷨ оуздоровлѧⷧ (Валх., 60б);

5) статокъ побралъ корову с телꙗтемъ (КВЗС, 14, 1537);

6) Богданъ Кошчичъ, пришедши на мой домъ и волы два а корову с телемъ у мене пограбилъ (АВК, XXI, 26, 1555);

7) **за вухом левым другая рана тятая ж** (АВК, XXXVI, 98, 1582);

8) **Сребролюбіє, бж$^{с}$твеный Ап$^{с}$лъ Павелъ, коренемъ всемоу злоу называєтъ** (Каліст, II, 11б);

9) **виделъ єсми... с правого боку надъ теменемъ рану** (АВК, XX, 273, 1621).

З а д а н н е 9. Сярод падкрэсленых вызначыце першасныя (традыцыйныя) і другасныя (новыя) формы меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў. Растлумачце, па аналогіі з формамі якога тыпу скланення ўзніклі новыя формы назоўнікаў у гэтай граматычнай пазіцыі.

1) **Кто порушить... ли при моємъ <u>животѣ</u>, или по моємъ животѣ розсудится со мною** (АЗР, I, 22, 1386);

2) **Велѣлъ его поднѧти на <u>крижоу</u>** (Пак. Хр., 21б);

3) **увидел иж бусел на <u>верху</u> нѣкоторое высокоє вежы гнездо мѣл** (Атыла, 223);

4) **В котором дей <u>доме</u>**[1] **згорело напрод изба и з сенъми, хлевъ на быдло рубленый, пуня рубъленная** (АВК, XXXVI, 167, 1582);

5) **в чыємъ <u>кгрȣнте</u> зеремꙗ**[2] **будеть, томȣ тежъ и ловенье бобровъ належати маеть** (Ст. 1588, 387);

6) **не позвавши**[3] **ихъ, хочетъ права перевести у <u>двору</u>, жебы и декретъ вашей милости шію ломалъ**[4] (АЗР, IV, 82, 1595);

7) **бȣрѧ великаѧ... на борȣ на <u>лесе</u> и по лȣгомъ со пчелами дерева бортноє... поламала** (Барк., 152);

8) **потомъ зась Іраклїѧ... в <u>огни</u> згорѣ$^{в}$ши згинȣлъ** (Варл., 244б);

9) **Ѿ поранкȣ ажь до сегѡ часȣ стоить на <u>полю</u>, ани на малȣю хвилю не воротиласѧ до <u>домȣ</u>** (Хран., 194);

10) **купили на <u>рынку</u> лотоковъ**[5] **пять до накриваня цекавзу**[6] (ИЮМ, VIII, 156, 1691).

---

[1]**домъ** – тут ‘двор, сядзіба, гаспадарка’ (ГСБМ. Вып. 8. С. 287).

[2]**зеремя** – ‘месца, дзе вядуцца бабры’ (Там жа. Вып. 12. С. 227).

[3]**позвати** –‘выклікаць (у суд)’ (Там жа. Вып. 25. С. 408).

[4]**ломати шию** – ‘парушацца, губляць сілу (пра закон)’ (Там жа. Вып. 17. С. 114).

[5]**лотокъ** – ‘выдзеўбанае бервяно для сцёку вады’ (Там жа. Вып. 17. С. 121).

[6]**цекавзъ** – ‘цэйхгаус’ (Там жа. Вып. 36. С. 214).

З а д а н н е 10. Назоўнік *агонь* меў праформу *ognĭs. Па якім тыпе скланення ён змяняўся першапачаткова? Растлумачце паходжанне яго канчаткаў у формах, выкарыстаных у наступных сказах.

1) **Ѿ огню много намъ и вамъ щкоты**[1] **стало** (ПГ, I, 163, 1447);

2) **ѡ$^{н}$ его слȣха$^{т}$ не хотѣлъ, але се до ѡ$^{г}$нꙗ пеке$^{л}$ного поквапи$^{л}$** (Зб. 752, 538);

3) вѣчные добра за дочасные ѿмѣнили, и всѣхⷥ себе вѣчномꙋ огню ѿдали (Варл., 124б–125);

4) самъ себе ѡгневи вѣчномꙋ предалъ (Зб. 107, 124б);

5) тыи в вѣчноⷨ ѡгню пекеⷧноⷨ бꙋдꙋⷮ во вѣки (Стрыйк., 448б);

6) наказаломъ былъ палей два передъ ꙋпꙋстомъ вбивши ꙋ водѣ петна[2] гербꙋ моего потоль, поколь вода заливаетъ, роспаливши въ огни, выпалити (АВК, VI, 234, 1699).

---

[1] щкота – тое, што і шкода, 'пашкоджанне, урон' (ГСБМ. Вып. 37. С. 127).
[2] петно – тут 'знак, прымета' (Там жа. Вып. 29. С. 419).

З а д а н н е 11. У прыкладах з Лаўрэнцьеўскага летапісу (1377) знайдзіце доказы ўзаемадзеяння розных тыпаў скланення назоўнікаў.

1) ѡбри... не дадѧша въпрѧчи конѧ... ни вола... (4 адв.);

2) Азъ мьстила оуже ѡбидꙋ мꙋжа своего... когда творихъ трызнꙋ мꙋжеви своемꙋ (16 адв.);

3) копье летѣ сквозѣ оуши коневи... оударⷪ в ноги коневи (16);

4) волга же раздаꙗ воемъ по голꙋби комꙋждо а дрꙋгимъ по воробьеви (16 адв.);

5) [Вольга] просвѣщена же бывши... радовашесѧ дш҇ею и тѣломъ (17 адв.).

З а д а н н е 12. Прааналізуйце склонавыя формы назоўнікаў з і.-е. асновай на зычны. Адкажыце на пытанні: традыцыйны ці новы канчатак яны мелі; калі новы, то па аналогіі з чым ён узнік; якія з гэтых формаў сталі нормай у сучаснай беларускай мове?

1) послалъ иⷭсъ ѿ оуч҇нкъ своихъ два... оувидита ѡслѧ привѧзано, и жрѣбѧ с нимъ младо (Чэцця, 313);

2) въ тꙋю землю бортнꙋю Мꙋтишинскꙋю не вступатися, а ни нашемꙋ родꙋ племени, а ни нашимъ близкимъ (АЮЗР, I, 56, 1516);

3) сѣ гс҇да бога твоего есть небо и небеса небес[1] (Скар. ДЗ, 24б);

4) оголи емꙋ седмъ плетеницъ власъ на темени его (Скар. КС, 36);

5) бѣѧше прⷪрочица ⷥвѣздарька именеⷨ сивилла (Сівіла, 2);

6) роскаⷥ его огнь во поломени, абовѣⷨ огнеⷨ гⷭдним ѡсꙋдитсѧ всѧ землѧ (Каз. Кір., 12);

7) на ѡслꙗти по колкꙋ рокъ ездили (Барк., 152б);

8) ѡсаⷤчиⷥ того села на имꙗ феѡдор драгомиⷬ стоꙗⷧ наⷣ дорогою шаⷫкꙋ знꙗвши (Дыяр., 151б);

9) сꙗ не годило на ѡнъ часъ з иншого племенꙗ собѣ жонꙋ приводити (Пралог, 543б);

10) Реклъ Адамъ: то теперѧ кость з костей моихъ. и тѣло зⷥ тѣла моего: тꙋю бꙋдꙋтъ звать женою, бо з мꙋжа взѧта есть (Хран. 7б).

---

[1] небеса небесъ – 'рай' (ГСБМ. Вып. 19. С. 389).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

З адпаведнікаў прыведзеных сучасных назоўнікаў у X ст. па тыпе скланення на *ŭ паслядоўна скланяліся:

1) бор; 5) кол; 9) сын;
2) вар; 6) лес; 10) сыр.
3) верх; 7) мёд;
4) вол; 8) пар;

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

З прадстаўленага шэрагу сучасных назоўнікаў і.-е. аснову на *jŏ мелі:

1) гай; 5) карэц; 9) сторож;
2) голуб 6) лось; 10) дом.
3) заяц; 7) палаш;
4) зяць; 8) пастух;

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

З прыведзеных сучасных назоўнікаў і.-е. аснову на *ĭ мелі:

1) грош; 5) кош; 9) меч;
2) гусь; 6) лён; 10) соль.
3) карабель; 7) мазь;
4) князь; 8) медзь;

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

З пералічаных сучасных назоўнікаў і.-е. аснову на зычны мелі:

*назоўнікі ніякага роду*:

1) вока; 6) мора;
2) вядро; 7) семя;
3) вясло; 8) сцягно;
4) дзіця; 9) цела;
5) кола; 10) ягня;

*назоўнікі мужчынскага роду*:

11) агонь; 16) крэмень;
12) вязень; 17) пень;
13) дурань; 18) прамень;
14) конь; 19) студзень;
15) корань; 20) ячмень.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Рознаскланяльнымі ў X ст. былі назоўнікі:

1) богатырь; 6) сеꙗтель;
2) владыка; 7) ѹдиꙗ;
3) кънѧзь; 8) ѹченикъ;
4) писарь; 9) ѹчитель;
5) полочанинъ; 10) холопъ.

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэслены назоўнік выступае ў традыцыйнай склонавай форме ў сказах:

1) **стоить береза безъ верху стара** (АСД, I, 104, 1546);
2) **шо$^{л}$ до грече$^{с}$кого ѡбозȣ** (Тр. гіст., 71);
3) **привели ва$^{с}$ ку грѣше$^{н}$ю против г$^{с}$дȣ** (Біблія, 211);
4) **того грабежȣ которы$^{ѕ}$ ѡни именȣють не брали** (КВЗС, 49б, 1538);
5) **ѡ роженои братіи... што сестры выдають замȣ$^{ж}$ из домȣ ѿчч҃иного$^{г}$** (Вісл., 36).

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэслены назоўнік выступае ў традыцыйнай склонавай форме ў сказах:

1) **ниже оусѧ сторона свѣта ѡколо морскоую выписуеть** (Валх., 63);
2) **до огнѧ оного негасимого... пошлеть ихъ** (Каліст I, 23);
3) **пото$^{м}$ его... поховано на долине кэазо недалеко ѡ$^{т}$ столъпа каменно$^{г}$** (Атыла, 222);
4) **хочемъ з кременꙗ ѡгонь выкресати** (Зб. 259, 69б);
5) **выбегла кошуба**[1] **с краꙗ луга через поле** (Бава, 161).

[1]**кошуба** – ‘лань’ (ГСБМ. Вып. 16. С. 77).

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Традыцыйныя формы давальнага склону маюць падкрэсленыя назоўнікі ў сказах:

1) **Треба еднакъ завше давати дѣтѧти имѧ того ст҃го, который припадаетъ въ день рожденіѧ его** (Зб. вып., 12);
2) **кланѧтисѧ ѿцȣ, и сн҃ȣ, и ст҃омȣ дх҃ȣ** (Кин., 61б);
3) **двери моеи гостю ѿворю** (Зб. 262, 25);
4) **Конь не даетсѧ ни ѡдному чоловѣку повести, кромѧ мнѣ** (Бава, 152);
5) **Тые словы... выписати, абы$^{с}$ ты$^{м}$ снаднѣй постȣпкови его... пригладѣтисѧ могъ** (Апокр., 96–96 адв.).

**9.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Згодна з пісьмовай традыцыяй Х ст. канчатак **-ѣ** ў месным склоне адзіночнага ліку мелі назоўнікі:

1) **братъ**;
2) **волъ**;
3) **гнѣздо**;
4) **городъ**;
5) **корабль**;
6) **лѣсъ**;
7) **мечь**;
8) **плече**;
9) **поле**;
10) **слово**.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Канчатак падкрэсленага назоўніка адпавядае пісьмовай традыцыі X ст. у сказах:

1) **Ступилъ єсть с нєбєси огнь на пѧть мєстъ** (Скар. ПБ, 15б);

2) **збожъя готового взяли... . сєменя льненого бочъка** (АВК, XXXVI, 42, 1582);

3) **за бочкꙋ сємени льнꙗного сорокъ грошєⷥ** (Ст. 1588, 514);

4) **и загамовалисꙗ дожчи з нєба** (Бельск., 9).

5) **то были два поколѣⷩꙗ ѡдноⷢ ꙗзыка и племꙗ, то єⷭⷮ роⷭси и алꙗны** (Стрыйк., 426);

6) **сꙗ нє годило на ѡнъ часъ з иⷩшого племенꙗ собѣ жонꙋ приводити** (Пралог, 543б).

Тэма 3

# Гісторыя скланення назоўнікаў жаночага роду. Фарміраванне парадыгмы множнага ліку скланення назоўнікаў

У праславянскі перыяд жаночы род мелі назоўнікі з і.-е. асновамі на *ā/*jā (*vodā-ø > **вод-а**, *zemjā-ø > **зємл-ꙗ**), на *ĭ (*kostĭ-s > **кост-ь**, *noktĭ-s > **ноч-ь**), на *ū (*svekrū-s > **свєкр-ы**) і невялікая колькасць назоўнікаў з асновамі на зычны (*mater-ø > **мат-и** і *dŏčer-ø > **дъч-и**).

Скланенне назоўнікаў жаночага роду **з асновамі на *ā/*jā** ў адзіночным ліку на працягу гісторыі амаль не змянілася (табл. 4).

*Табліца 4*

**Скланенне назоўнікаў жаночага роду (*ā/*jā) у адзіночным ліку**

| Склон | Цвёрдая разнавіднасць | | Мяккая разнавіднасць | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | **вода** | **голова** | **зємлꙗ** | **межа** |
| Р. | **воды** | **головы** | **зємлѣ** | **межѣ** |
| Д. | **водѣ** | **головѣ** | **зємли** | **межи** |
| В. | **водꙋ** | **головꙋ** | **зємлю** | **межꙋ** |
| Т. | **водою** | **головою** | **зємлєю** | **межею** |
| М. | **водѣ** | **головѣ** | **зємли** | **межи** |

Няцяжка заўважыць, што ад сучасных прынцыпова адрозніваецца толькі форма роднага склону мяккай разнавіднасці: **зємл-ѣ**,

**меж-ѣ** > *зямл-і, мяж-ы* (пра гісторыю гэтых змен гл. тэму 4). Астатнія формы вылучаюцца толькі фанетычна – у іх праявілася аканне, зацвярдзенне шыпячых, дэфаналагізацыя <ě> (яць). Формы творнага склону набылі варыянт з усечаным канчаткам *-ой* (< *-ою*): *вадой, галавой, зямлёй, мяжой*. Гэта парадыгма адзіночнага ліку стала асновай для ***сучаснага II (жаночага) скланення***.

Як відаць з табл. 5, скланенне назоўнікаў жаночага роду **з асновамі на *ĭ** зведала толькі фанетычныя змены: другаснае памякчэнне зычных, страту рэдукаваных, утварэнне падоўжаных зычных, зацвярдзенне шыпячых і г. д. На аснове скланення назоўнікаў жаночага роду на *ĭ ўтварылася парадыгма адзіночнага ліку ***сучаснага III скланення***.

*Табліца 5*

**Скланенне назоўнікаў жаночага роду з і.-е. асновамі на *ĭ ў адзіночным ліку**

| Склон | Аснова на спрадвечна мяккі зычны | | Аснова на памякчоны зычны | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | **ночь** | **мышь** | **кость** | **медь** |
| Р. | **ночи** | **мыши** | **кости** | **меди** |
| Д. | **ночи** | **мыши** | **кости** | **меди** |
| В. | **ночь** | **мышь** | **кость** | **медь** |
| Т. | **ночью** | **мышью** | **костью** | **медью** |
| М. | **ночи** | **мыши** | **кости** | **меди** |

Назоўнікі з **асновамі на *ū** (*svekrū-s > **свекры**) ва ўскосных склонах набывалі суфікс **-ъв-** (табл. 6).

*Табліца 6*

**Скланенне назоўнікаў жаночага роду з і.-е. асновамі на *ū ў адзіночным ліку**

| Склон | Формы назоўнікаў | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | **свекры** | **кры** | **любы** | **мъркы** | **цьркы** |
| Р. | **свекръве** | **кръве** | **любъве** | **мъркъве** | **цьркъве** |
| Д. | **свекръви** | **кръви** | **любъви** | **мъркъви** | **цьркъви** |
| В. | **свекръвь** | **кръвь** | **любъвь** | **мъркъвь** | **цьркъвь** |
| Т. | **свекръвью** | **кръвью** | **любъвью** | **мъркъвью** | **цьркъвью** |
| М. | **свекръве** | **кръве** | **любъве** | **мъркъве** | **цьркъве** |

Найперш зведалі змену формы назоўнага склону асноў на *ū па аналогіі з вінавальным склонам: **свєкры** > **свєкръвь**, **кры** > **кръвь**, **любы** > **любъвь**, **мъркы** > **мъркъвь**, **цьркы** > **цьркъвь**. У выніку адбылося выраўноўванне асновы – ва ўсіх склонах яна стала аднастайнай. Формы назоўнага склону супалі з формамі скланення на *ĭ. Пасля гэтага формы роднага і меснага склонаў таксама набылі канчаткі, характэрныя для *ĭ-скланення: Р. скл. – *свекрыві, крыві*...; М. скл. – (*у*) *свекрыві*, (*па*) *крыві*. Такім чынам, назоўнікі тыпу **свєкръвь**, **кръвь**, **любъвь** пачалі скланяцца як **кость**, **мєдь** і ўвайшлі ў ***III скланенне***.

Некаторыя назоўнікі з і.-е. асновамі на *ū далучыліся да больш прадуктыўнага тыпу скланення на *ā/*jā: **мъркы** > (**мъркъвь**) **мъркъва**, **цьркы** > (**цьркъвь**) **цьркъва**, а таксама **бꙋкы** > **бꙋкъва**, **смокы** > **смокъва** (‘інжыр’), **тыкы** > **тыкъва**. Так назоўнікі тыпу *морква, царква* ўвайшлі ў ***II скланенне***, а назоўнік *свякроў* займеў варыянт *свякрова*.

Назоўнікі з асновамі **на зычны** пры скланенні набывалі ўстаўку *-er-, калі мелі значэнне роднасці. Наша мова захавала толькі два з іх: *mater-ø > **мат-и** > *маці* і *dŏčer-ø > **дъч-и** > *дач-к-а*. Назоўнік **мати** скланяўся гэтаксама, як і назоўнікі з асновамі на *ū.

У старабеларускі перыяд ужывальныя былі абедзве формы: **матє$^{р}$ єго да$^{ст}$ ти живо$^{т}$ вєчны$^{ѕ}$** (Дыяр., 169б); **мати моꙗ богатымъ жонам кошꙋли мыєт** (Бава, 135). Форма **мати** выяўлена толькі ў назоўным і вінавальным склонах. У сучаснай беларускай мове назоўнік *маці* стаў нескланяльным. У дыялектнай мове прысутнічае варыянт *мацера*, які скланяецца як назоўнік жаночага роду II скланення.

Што ж да назоўніка **дъчи**, то ён у старабеларускім пісьменстве выяўлены ў царкоўнаславянскім фанетычным афармленні – **дщи**, а таксама больш ужывальных варыянтах **дщєрь**, **дщєра**.

Разам з тым больш пашыранымі былі дэрываты з суфіксам **-к-** – **матка** і **дочка**.

Такім чынам, у адзіночным ліку старажытная шасцітыпная (паводле і.-е. асноў) сістэма іменнага скланення трансфармавалася ў трохтыпную (паводле граматычнага роду).

Першапачаткова ў кожнага з шасці тыпаў старажытнага скланення існавала ўласная парадыгма парнага і множнага лікаў. Гісторыя формаў парнага ліку будзе прадстаўлена далей. Змены ў **парадыгме множнага ліку** назоўнікаў звязаны з працэсам уніфікацыі тыпаў скланення.

Неабходна звярнуць увагу на тое, што ў назоўнікаў:

***жаночага роду***: а) адрозніваюцца канчаткі цвёрдай і мяккай разнавіднасцей; б) у формах назоўнага і вінавальнага склонаў канчаткі супадаюць;

***мужчынскага роду***: а) з асновамі на *ŏ/*jŏ ў назоўным склоне выступае канчатак *-и*, а ў вінавальным – *-ы/-и* (у залежнасці ад цвёрдасці/мяккасці зычнага асновы); б) з асновамі на *ŭ адрозніваюцца канчаткі назоўнага (*-ове*) і вінавальнага (*-ы*) склонаў;

***ніякага роду***: а) канчатак *-а* выступае ва ўсіх тыпах скланення; б) формы назоўнага і вінавальнага склонаў супадаюць.

Найперш гістарычныя змены закранулі формы множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду ў назоўным склоне: яны змяніліся па аналогіі з формамі вінавальнага склону – усе назоўнікі мужчынскага роду незалежна ад тыпу скланення ў назоўным склоне множнага ліку набылі канчатак *-ы/-и* (табл. 7). Такі ж канчатак быў і ў назоўнікаў жаночага роду з асновамі на *ā. Па аналогіі з пералічанымі назоўнікі ніякага роду таксама набылі канчатак *-ы/-и* (*вокны, палі; словы*[1], *імёны/імі, дзеці, цяляты*). Такім чынам, намецілася тэндэнцыя да ўніфікацыі скланення.

*Табліца 7*

**Формы назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку назоўнікаў розных тыпаў скланення**

| Склон | Тып скланення | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | на *ā/*jā | на *ŏ/*jŏ | на *ŭ | на *ĭ | на зычны | на *ū |
| Н. | **головы**<br>**землѣ** | **городи**<br>**кънѧзи**<br>**окна**<br>**полѧ** | **сынове**<br>**домове** | **гостие**<br>**кости** | **камене**<br>**имена**<br>**небеса**<br>**телята**<br>**матери** | **кръви**<br>**цьркъви** |
| В. | = Н. скл. | **городы**<br>**кънѧзи**<br>н. р. = Н. скл. | **сыны**<br>**домы** | = Н. скл. | **камени**<br>= Н. скл. | = Н. скл. |

Толькі тры назоўнікі, якія мелі асновы на *ŏ: *калена, сусед* і *чорт*, захавалі ў назоўным склоне множнага ліку даўні канчатак *-и* (*кален-**і**, суседз-**і**, чэрц-**і***), таму яны і трапілі ў разрад рознаскланяльных.

[1]Большасць назоўнікаў гэтага тыпу страціла ўстаўку: *целы, вочы, вушы*. Назоўнікі *колы* і *калёсы* адрозніваюцца па семантыцы. Назоўнік *нябёсы* – рознаскланяльны.

Што ж да формы роднага склону множнага ліку, то старажытныя канчаткі яе для назоўнікаў розных тыпаў скланення (табл. 8) так ці інакш прадстаўлены ў сучаснай мове.

*Табліца 8*

**Формы роднага склону множнага ліку назоўнікаў розных тыпаў скланення**

| Тып скланення | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| на *ā/*jā | на *ŏ/*jŏ | на *ŭ | на *ĭ | на зычны | на *ū |
| **головъ**<br>**земль** | **городъ**<br>**кънꙗзь**<br>**окнъ**<br>**поль** | **сыновъ**<br>**домовъ** | **гостий**<br>**костий** | **именъ**<br>**небесъ**<br>**телятъ**<br>**матеръ** | **кръвий**<br>**цьркъвий** |

Канчатак ***-ъ/-ь*** пасля страты рэдукаваных стаў нулявым: *галоў, зямель* (устаўны [е]), *азёр, імён, нябёс, цялят.*

Для назоўнікаў мужчынскага роду гэты канчатак (-ъ/-ь) аказаўся семантычна невыразным: не адрозніваў формы роднага склону множнага ліку ад формаў назоўнага склону адзіночнага ліку. Таму канчатак **-овъ** роднага склону множнага ліку непрадуктыўнага скланення на *ŭ пашырыўся на ўсе назоўнікі мужчынскага роду іншых тыпаў скланення: **городъ** > **городовъ** – *гарадоў,* **каменъ** > **каменевъ** – *камянёў,* а таксама на назоўнікі ніякага роду **окнъ** > *вокнаў,* **поль** > *палёў,* **небесъ** > *нябёсаў,* **телятъ** > *цялятаў* і нават на некаторыя назоўнікі жаночага роду: **соснъ** > *соснаў,* **земль** > *земляў,* **цьркъвий** > *цэркваў.* У сучаснай беларускай мове існуе варыянтнасць канчаткаў (*зямель – земляў, імяў – імён* і г. д.), пры якой часам улічваецца колькасць складоў: назоўнікі з аднаскладовымі асновамі ўжываюцца з канчаткамі, якія паходзяць з *-овъ* (*пол-е – палёў, мор-а – мораў*), а назоўнікі са шматскладовымі асновамі – з нулявым канчаткам (*возер-а – азёр, балот-а – балот*).

Канчатак ***-ий/-ьй*** [и$_{р}$й] > *-ей* стаў асноўным для назоўнікаў III скланення (*аповесцей, касцей, мышэй, начэй*). Зрэдку гэты канчатак сустракаецца і ў назоўніках іншых скланенняў: *коней, свіней, дзяцей.*

Як бачна з табл. 9, формы творнага склону назоўнікаў з асновамі на ***ŏ/*jŏ**, а таксама ніякага роду з асновамі на зычны супадалі з формамі вінавальнага склону. Астатнія формы мелі падобныя фіналі.

*Табліца 9*

**Формы давальнага, творнага і меснага склонаў множнага ліку назоўнікаў розных тыпаў скланення**

| Склон | Тып скланення | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | на *ā/*jā | на *ŏ/*jŏ | на *ŭ | на *ĭ | на зычны | на *ū |
| Д. | **головамъ землꙗмъ** | **городомъ кънꙗземъ окномъ полемъ** | **сынъмъ домъмъ** | **гостьмъ костьмъ** | **каменьмъ именьмъ небесьмъ телятьмъ матерьмъ** | **кръвьмъ цьркъвьмъ** |
| Т. | **головами землꙗми** | **городы кънꙗзи окны поли** | **сынъми домъми** | **гостьми костьми** | **каменьми имены небесы теляты матерьми** | **кръвьми цьркъвьми** |
| М. | **головахъ землꙗхъ** | **городѣхъ кънꙗзихъ окнѣхъ полихъ** | **сынъхъ домъхъ** | **гостьхъ костьхъ** | **каменьхъ именьхъ небесьхъ телятьхъ матерьхъ** | **кръвьхъ цьркъвьхъ** |

Менавіта ў формах давальнага, творнага і меснага склонаў множнага ліку наймацней праявілася тэндэнцыя да ўніфікацыі сістэмы скланення – у выніку назоўнікі ўсіх тыпаў скланення пачалі ўжывацца ў гэтых формах з канчаткамі былога скланення на *ā/*jā.

## ЗАДАННІ

Заданне 1. Аднавіце праформы падкрэсленых назоўнікаў і адзначце іх старажытныя тыпы скланення.

1) **кнѧзю Кестѧтю великоꙋю нелюбовь и жалость вдѣлалъ, што братаннꙋ его а сестрꙋ свою за холопа дал** (Віл., 1);

2) **зане$^{ж}$ бы$^{с}$ за кнземь Юрьемь дщи старшье сестры Скиргаилавы** (Увар., 91);

3) **силна есть ꙗко смерть любовь** (Скар. ПП, 10б);

4) **въ злобливꙋю дꙋшꙋ не внидеть мꙋдрость** (Скар. ПБ, 13);

5) **мꙋжъ приѧзливый ко дрꙋжбе лепший и больший приѧтель бꙋдеть нежели братъ** (Скар. Пс., 29);

6) **Пріидо$^{х}$ разлꙋчити, человѣка на Ѿца своего, и дъщере на матер$^{ѕ}$ свою** (Будны, 55);

7) абы дей часꙋ тыхъ ярмарковъ мененыхъ торговъ собѣ тамъ передъ єго церковью... нє ꙋживали (АВК, III, 11, 1582);

8) абы... бра$^{т}$ за брата ѡтецъ и матка за дочкꙋ дочка за маткꙋ, або ѿца... нє бы$^{л}$ каранъ (Ст. 1588, 24);

9) робак[1] подгрыз тыквꙋ (Зб. 259, 101б);

10) материꙗ каменнаꙗ лепшаꙗ нижъ деревенаѧ (Зб. 259, 604);

11) єще гꙋсъ однꙋ отъ селянки зъ Пашкова (ИЮМ, V, 129, 1688).

[1] робакъ – ‘чарвяк; насякомае’ (ГСБМ. Вып. 30. С. 116).

З а д а н н е 2. Ахарактарызуйце формы назоўнікаў у прыведзеных сказах: вызначыце тып і.-е. асновы, род, склон, лік, канчатак (традыцыйны ці новы).

1) онъ князя Сємена на рынкꙋ лаялъ ажъ до матери[1] (КЗ, 693, 1498);

2) ꙋхвалꙋ дꙋховенства обычая Восточъноє церкви, нашымъ листомъ потвердили (КЗ, 831, 1502);

3) бѣдъ своих позабꙋдеши и ꙗко полꙋденнаѧ лꙋчь повъстанеть тобѣ на вечеръ (Скар. КІ, 16б);

4) книга сꙋдеи... выдана и выложена повѣлениємъ и працею ꙋченаго мꙋжа франциска Скорины (Скар. КС, 48);

5) Филипъ аптекаръ... пастернакъ, петрꙋшкꙋ, морковь покопалъ, побралъ (АВК, XX, 76, 1592);

6) Былъ ѡдинъ мних молоды$^{ѕ}$ на $^{ѕ}$мє іоанъ просты$^{ѕ}$ покорны$^{ѕ}$ великоє любвѣ и приꙗзни ко всє$^{ѕ}$ братіи (Зб. 107, 164б);

7) стои$^{т}$ на всє$^{ѕ}$ дорозѣ недобро$^{ѕ}$ и нє бридит сѧ зло$^{ст}$ю (Пс. XVII, 4б);

8) дрꙋги$^{ѕ}$ раз нашол єсми велми хорошꙋю женꙋ на пꙋщи, котораѧ ми се давала в неволю, мовечи веди мене где хочеш (Зб. 82, 199);

9) в городе... рѣки кривавыє текли, македонꙗне ꙋ криви бродили (Алекс., 14–14б);

10) кꙋпили мяса... морквы, петрꙋшки (ИЮМ, XVII, 30, 1710).

[1]лаяти до матери – ‘мацюкаць’ (ГСБМ. Вып. 17. С. 283).

З а д а н н е 3. Назоўнік *ятроўка* ‘жонка мужава брата’ меў праформу ꙗтры. Растлумачце марфалагічныя і словаўтваральныя змены, якія адбыліся ў гэтым слове. Запішыце праформу назоўніка *залоўка* ‘сястра мужа’.

З а д а н н е 4. У Іпацьеўскім (створаны ў канцы XIII – пачатку XIV ст., вядомы ў пазнейшых спісах) і Лаўрэнцьеўскім (1377) летапісах сустракаюцца формы Московь (В. скл.), изъ Москвє, до Москвѣ (Р. скл.), на Москви (М. скл.). Устанавіце тып старажытнага скланення гэтага назоўніка і запішыце адпаведную форму назоўнага склону.

З а д а н н е 5. Утварыце формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў у адпаведнасці з правіламі Х ст.

**Береза, буки, волъ, гнѣздо, голубь, домъ, знамѧ, кора, коры, лось, море, мышь, носъ, походъ, ремы, рыцарь, слово, соколъ, сторона, суседъ, чудо, ѩгнѧ.**

З а д а н н е 6. У наступных прыкладах прааналізуйце ўсе формы назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў. Якія з іх традыцыйныя, а якія новыя? Па аналогіі з чым узніклі новыя канчаткі?

1) **Зубы твое ѩко стада овецъ пострыженыхъ, еже выступили изъ купала**[1] (Скар. ПП, 6);

2) **чинили суть злаѧ дела сынове ізраилевы, и разгневили ими гсда бога** (Скар. ЧЦ, 22–22б);

3) **маеть кождый з своего поля проробки чинити, а от леса ни один одного не мает заходити, а как соткнутся топоры тут будет граница** (Ст. 1529, 70);

4) **сталасѧ но$^{ч}$, в которои преходѧ$^{т}$ вси зверѧта доубро$^{в}$ные, и львенѧта рыкаючи абы оухватити и выпросити ѿ бга пока$^{р}$мъ собе** (Пс. XVI, 104);

5) **послове земские и вота**[2] **свое мают мети водле порѧдку нижэ$^{s}$ писаного** (Ст. 1566, 29);

6) **фарысееве… твары свои высушали абы люде выдечы зрозѹмевали же ѡни постѧт** (Зб. 261, 124б);

7) **десѧто$^{г}$ мца перво$^{г}$ днѧ ѡказалисѧ ве$^{р}$хи го$^{р}$** (Бельск., 29);

8) **рыболове выволокли дѣтѧ сѣтью з воды** (Стрыйк., 460б);

9) **церкви домы Божіи попустошены** (АЗР, IV, 440, 1615).

[1]**купало** – 'месца для купання' (ГСБМ. Вып. 16. С. 225).

[2]**вота, вотумъ** – 'думка і права прымаць удзел у галасаванні' (Там жа. Вып. 4. С. 215).

З а д а н н е 7. Вызначыце склон падкрэсленых словаформаў і растлумачце іх гістарычны лёс. З развіццём якой граматычнай катэгорыі гэтыя формы пачалі змяняцца ў пэўнай групы слоў?

1) **хто… хоче$^{т}$ свои свиньи гнати оу то$^{т}$ лѣ$^{с}$ чере$^{с}$ чюжое имѣніе, тогды не может то$^{г}$ оучини$^{т}$ ѡдно путемь правымъ** (Вісл., 38);

2) **Речи свои рухомые, шаты**[1]**, кони, гроши готовые**[2]**, цынъ, мѣдь… ей жонѣ своей на вѣчность даровалъ и записалъ** (РПП, 186, 1556);

3) **збудовал им домы, то есть потомство их розмножил** (Біблія, 106);

4) **па$^{н}$ства свои кро$^{л}$ болесла$^{в}$ еще за живота сыно$^{м}$ свои$^{м}$ роздѣлилъ** (Хр. польск., 8б);

5) **кудыкольвекъ ехала, стречала рыцеры и юнаки** (Трыст., 75).

[1]**шата** – 'плашч, верхняя вопратка' (ГСБМ. Вып. 37. С. 59).

[2]**(гроши) готовые** – 'наяўныя грошы, гатоўка' (Там жа. Вып. 7. С. 122).

З а д а н н е  8. Дайце каментарыі пра паходжанне і семантыку сучасных пар назоўнікаў: *дзіва – дзівосы, кола – калёсы, неба – нябёсы.*

З а д а н н е  9. У наступных прыкладах выявіце ўсе новыя формы роднага склону множнага ліку і растлумачце паходжанне іх канчаткаў.

1) **Отъ бочокъ, отъ кадей, отъ ушатковъ... по два пенязи берутъ** (АВК, VIII, 250, 1550);

2) **был середнего росту... плечеи широких** (Атыла, 178);

3) **надъ то еще черезъ колко ночеи видено комэту** (Атыла, 191);

4) **котораѧ сторона за собою доводовъ и артыкуловъ правныхъ большъ мети будеть** (Трыб., 3б);

5) **маеть его милость пятьдесятъ коней тамъ отправити** (АСД, I, 151, 1573);

6) **Статутъ правъ великого князства Литовского теперъ новоправленый... змоцняемъ и до уживанья даемъ** (АЗР, IV, 4, 1598);

7) **великое множество муже$^{ѕ}$ жон дете$^{ѕ}$ но еще болши тых было, которые на низу померли** (Барк., 167);

8) **звѣра$^{т}$ розмоито$^{г}$ рожаю тѹров, зѹбров, лоси$^{ѕ}$, елени$^{ѕ}$, сарнъ, рисе$^{ѕ}$, кѹни$^{ц}$, лисо$^{в}$, бѣло$^{к}$, го$^{р}$ностае$^{в}$ и и$^{н}$шого рожаю, также и в риба$^{х}$ великаꙗ ѡквитно$^{ст}$**[1] (Стрыйк., 513б–514);

9) **збаве$^{н}$наꙗ ре$^{ч}$ есть дете$^{м}$ ѿ пеле$^{н}$ еще приучатисе добры$^{м}$ учинко$^{м}$** (Зб. 255, 131);

10) **в то$^{м}$ колоде$^{ѕ}$ю ве$^{л}$ми было по$^{л}$но гаду аспидо$^{в}$ ехидновъ змиевъ и скоропѣи** (Зб. 752, 2б–3);

11) **Купили лубовъ десять до покрытя вежы отъ дождовъ** (ИЮМ, XII, 120, 1698).

---

[1]**оквитьность** – 'багацце' (ГСБМ. Вып. 22. С. 131).

З а д а н н е  10. Зыходзячы з кантэксту, вызначыце пачатковую форму і тып скланення падкрэсленых назоўнікаў.

1) **толко седмъ тысѧч грековъ валку держали напротивку сто тысѧчов троꙗнов** (Троя, 21);

2) **чиню милосерьдие надъ многими тисѣчьми любѧщими мѧ и хранѧщими заповѣди моѧ** (Будны, 9);

3) **нехаи зберет своих людеи пятнадцать тысечеи доброго люду зброиного** (Бава, 130);

4) **которые з воло$^{х}$ выехали ꙗко десе$^{т}$ тысѧщъ** (Барк., 166б).

З а д а н н е 11. Дайце гістарычнае тлумачэнне падкрэсленым граматычным формам ва ўрыўках з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» (вызначыце старажытны тып скланення і паходжанне канчатка формы ў тэксце).

І вецер жудасна засвішча,
Як на дудзе ці на кларнеце
На нейкім злыдневым банкеце, –
Ды ўсё ж святлеюць даляў вочкі
І іх бялюткія сарочкі.

(раздз. «Каляды»)

Не раз яна [хваля], зрабіўшысь парам,
На крыллях сонца дойдзе к хмарам
Ды йзноў дажджом на рэчку сыдзе –
Ніхто з граніц сваіх не выйдзе,
З законаў, жыццем напісаных...

(раздз. «Леснікова пасада»)

З а д а н н е 12. Наступныя назоўнікі, запісаныя ў адпаведнасці з пісьмовай традыцыяй X ст., пастаўце ў давальным, творным і месным склонах множнага ліку, супастаўце з сучаснымі адпаведнікамі і растлумачце, чым выкліканы гістарычныя змены.

**Войско, воронъ, горе, долонь, жеребѧ, ковшь, коло, лѣто, медвѣдь, мечь, мужь, отроча, плече, племѧ, тело, ухо, шеломъ.**

З а д а н н е 13. У наступных сказах прааналізуйце ўсе формы назоўнікаў множнага ліку. Вызначыце, першасны ці другасны канчатак ужыты.

1) **дали есмо ему... у Ольшахъ Рудница землю со всими прыходы** (РПП, 327, 1392);

2) **тотъ дворецъ... с полями, гаи, дубровами, паросниками, кустовьемъ и зарослями... продали есмо** (АВК, XXXVI, 49, 1582);

3) **старостове... мыто торговое... в местехъ на села$^{х}$, на дорога$^{х}$ на мостехъ, и торговое на то$^{р}$гохъ вымышлѧли и брали** (Ст. 1588, 20);

4) **просил умоцованый стороны жалобливое пан Сакович, абымъ еще при такихъ листовныхъ доводехъ светковъ и доводовъ ее слухал** (АВК, XXX, 48, 1590);

5) **иѡсифъ... умерлъ и помазаныи во$^{н}$ными мастѧми вложоный есть до тру$^{н}$ны во египтѣ** (Біблія, 105–105б);

6) **прибрал грубую землю травою... рожа$^{s}$ны$^{ми}$ дереви, высокими гаѧми веселыми дубровами** (Бельск., 2);

7) **ве$^{н}$кгром з тылу заехавши ѿку$^{л}$ не сподѣвалисѧ на ни$^{х}$ удари$^{л}$** (Стрыйк., 489б);

8) **ехали з великими дари до папежа** (Хр. польск., 6б);

9) ꙗкгейлови с полꙗки не ба$^{р}$зо рано пре$^{ч}$ еха$^{т}$ (Стрыйк., 560б);

10) велѣли есмо ему быти въ оружной казнѣ нашой на Москвѣ и завѣдати всякимъ оружнымъ дѣломъ нашимъ господарскимъ и всякими оружными мастеры (АЗР, IV, 374, 1610);

11) которие в <u>постехъ</u> <u>молитвахъ</u> и во всꙗкихъ добрихъ и ст҃ых учинкахъ угожаючи гд҃у бг҃у по всꙗ дн҃и пребывали (Пралог, 532).

З а д а н н е 14. У страбеларускім пісьменстве самым пашыраным канчаткам меснага склону множнага ліку назоўнікаў (за выключэннем назоўнікаў з асновамі на *ā/*jā) быў канчатак -ехъ[1]. Прааналізуйце падкрэсленыя словаформы ў прыведзеных прыкладах і скажыце, які тут быў першасны (старажытны) канчатак.

1) Злодеи оу своихъ <u>домехъ</u> хováю$^{т}$ (Вісл., 28б);

2) коро$^{л}$ мѣлъ те$^{ж}$ иного сн҃а... которыи ѡвшеки[1] пилату <u>в лете$^{х}$</u> ровe$^{н}$ бы$^{л}$ (Пак. Хр., 22б);

3) тогды ѡ <u>теле$^{х}$</u> и реликвіахъ ты$^{х}$ короле$^{в}$... почала твердо мъстити (Валх., 74б);

4) в малы$^{х}$ <u>часехъ</u> поехалъ после того кн҃зь велики$^{н}$ Кгидими$^{н}$ в ловы (Рач., 313);

5) позовъ таки$^{ѕ}$ выданы$^{ѕ}$ маеть быти прибиванъ, у брамъ замъковых и местъски$^{х}$, и пры <u>костелехъ</u> (Ст. 1588, 12);

6) звѣрꙗ$^{т}$ котори$^{х}$ в <u>лѣсе$^{х}$</u> хватаемъ а ты$^{м}$ се живимы (Алекс., 30б).

---

[1]овшеки – ‘цалкам’ (ГСБМ. Вып. 21. С. 341).

З а д а н н е 15. Дайце гістарычныя каментарыі падкрэсленым формам, ужытым Якубам Коласам у паэме «Новая зямля».

Перш-наперш, жыў бы там асобна,
А не ў галдзе, страшэнным сціску,
І лбоў не білі б там за міску,
Як гэта водзіцца ў народзе;
Там зможаш быць з <u>суседзьмі</u> ў згодзе.
(раздз. «За сталом»)

Ідзе – сам гнеў і сама бура,
Са лба на бровы збегла скура,
А губы шчыльна-шчыльна сцяты,
<u>Дзвярмі</u> ён грукнуў, выйшаў з хаты.
(раздз. «Сесія»)

---

[1]Гл.: *Булыка А. М., Жураўскі А. І., Крамко І. І.* Гістарычная марфалогія беларускай мовы. Мінск : Навука і тэхніка, 1979. С. 86, 88–89.

Пазбыўшы важнае пытанне,
Чакалі першага спаткання
З гасцьмі, якіх сюды наедзе,
Мо ўжо хто клыгае з іх недзе.

(раздз. «Падгляд пчол»)

Быў дзядзька ў пушчах, у барох
І расчытаць іх голас мог,
І з старасвецкімі дубамі
Каротка знаўся, як з сябрамі.

(раздз. «Дзядзька ў Вільні»)

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Да скланення на *ĭ адносіліся назоўнікі:

1) **вѣсть**;
2) **кръвь**;
3) **матерь**;
4) **милость**;
5) **тишь**.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Ад праформы з асновай на *ū ўтварыліся словы:

1) залоўка;
2) карова;
3) любоў;
4) морква;
5) трава.

**3.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3, 4, 5) падкрэсленае слова мела і.-е. аснову... (а, б, в).

1) **ахилес кро$^{в}$ю побиты$^{х}$ со вси$^{х}$ сторо$^{н}$ укрова$^{в}$ле$^{н}$** (Троя, 28);

2) **сосуды... были суть с меди красное** (Скар. ТЦ, 141);

3) **цер$^{ѕ}$ковъ е$^{ст}$ събранье... вѣрных людеи и$^{х}$ де богъ презрелъ** (Будны, 156);

4) **пишу сей мой достаментъ целымъ своимъ умомъ и доброю паметю** (ИЮМ, XXXII, 205, 1578);

5) **ласкаве принялъ ее wте$^{ц}$ небе$^{с}$ны$^{ѕ}$ яко дще$^{р}$** (Зб. 259, 560);

а) на *ĭ; б) на зычны; в) на *ū.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Традыцыйныя канчаткі маюць падкрэсленыя словаформы ў сказах:

1) **Андрѣи оуродивыи посмотрѣлъ оу верхъ цркви** (Чэцця, 46);

2) **Євга мати всехъ людей с кости спящего адама сотворѣна есть** (Скар. ПБ, 11);

3) **скоро се древꙗне вси ꙋпили, зара$^{\text{з}}$ бе$^{\text{з}}$ вѣсти казала их кнꙗном своим и боꙗром стина$^{\text{т}}$** (Стрыйк., 441);

4) **рекла свекрови своей... гдеколве$^{\text{к}}$ ты пойд$^{\text{еш}}$ и ꙗ пойдꙋ** (Каліст, II, 255б);

5) **рꙋфа зостала при свекрови своей** (Хран., 193).

**5.** Адзначце правільны адказ.

Падкрэслены назоўнік ужыты ў спрадвечнай форме ў сказе:

1) **Таковыхъ речей воеводове, старостове, и державцы наши кождый в державе своей маютъ досмотрати** (Ст. 1588, 38);

2) **Послове зъ розныхъ краевъ были** (Апокр., 9);

3) **дѣти которых ѡныи сынове божии з ѡными женами людскими з поколѣнꙗ каинового родили еще далеко были горши** (Біблія, 23);

4) **Коли... бол$^{\text{г}}$арове на цесара пришли, волѣ$^{\text{л}}$ ся з ними ꙋгажа$^{\text{т}}$ даючи и$^{\text{м}}$ доро$^{\text{ч}}$ныи доходы** (Бельск., 343б).

**6.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3, 4, 5) падкрэслены назоўнік... (а, б, в).

1) **до актъ подалъ певъныи документъ** (АВК, XXIV, 96, 1540);

2) **посмотрыш... Трыщанꙋ межы плеч** (Трыст., 94);

3) **он... ꙋпросилъсе, абы его до дальшихъ избъ ꙋпꙋстили** (АВК, XX, 134, 1598);

4) **словъ мои$^{\text{х}}$ поко$^{\text{р}}$не послꙋха$^{\text{ѕ}}$те** (Алекс., 24);

5) **добрꙋю наꙋкꙋ до ꙋшей его подати моглъ** (Варл., 36);

а) мае спрадвечную форму;

б) мае новую форму па аналогіі з *ŏ-скланеннем;

в) мае новую форму па аналогіі з *ĭ-скланеннем.

**7.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

Назоўнік... (1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9) у форме давальнага склону множнага ліку меў спрадвечны канчатак... (а, б, в, г).

| | | |
|---|---|---|
| 1) **домъ**; | 4) **дꙋпло**; | 7) **племꙗ**; |
| 2) **дꙋброва**; | 5) **голꙋбь**; | 8) **плеть**; |
| 3) **дꙋбъ**; | 6) **голꙋбꙗ**; | 9) **сынъ**; |

а) **-амъ**; б) **-омъ**; в) **-ъмъ**; г) **-ьмъ**.

**8.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3, 4, 5, 6) падкрэсленае слова ўжыта ў форме... (а, б, в).

1) **кто комꙋ сілою волы возме$^{\text{т}}$** (Вісл., 8);

2) **закри$^{\text{л}}$ мене по$^{\text{д}}$ крилы своими** (Пак. Хр., 37);

3) **<u>ѡстровы</u> сꙋт розделены водами** (Валх., 46б);

4) **на зброиныи <u>кони</u> всседали** (Троя, 18б);

5) **были до нас донесены <u>прозбы</u>** (Трыб., 1);

6) **витовтъ то ꙋслышавши ꙋчинит собе радꙋ со кнꙗзми своими и с <u>паны</u> литовскими** (Патр. К, 51б);

а) назоўнага склону множнага ліку;

б) вінавальнага склону множнага ліку;

в) творнага склону множнага ліку.

**9.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэсленае слова ўжыта ў спрадвечнай для яго форме творнага склону множнага ліку ў сказах:

1) **продалъ есми третюю часть имѣнейца... съ <u>коньми</u> рабочими** (РПП, 98, 1566);

2) **Вси ихъ права и привилья... потвержаем и вмоцꙋемъ сказꙋючи их мети моцны вечными <u>часы</u>** (Ст. 1529, 1);

3) **Греки ѡточили трою ѡколо <u>кораблями</u>** (Тр. гіст., 69б);

4) **небесныи корол... длꙗ злости фарисеиской <u>сѣтми</u> наꙋки своеи мало што грешъныхъ ꙋловилъ** (Зб. 259, 52);

5) **не толко пенезми але и <u>грошми</u> и золотом много з твоеи маетности и милостыни давал** (Зб. 752, 578б).

**10.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3, 4) канчатак **-ехъ** у падкрэсленай форме назоўніка ўжыты на месцы спрадвечнага канчатка... (а, б, в).

1) **Єслибы теснаѧ дорога была ꙗко на <u>мостехъ</u> и в ыншыхъ злыхъ разехъ...** (Ст. 1588, 378);

2) **еще на <u>дверех</u> приступивши... рекли просимо тебе пане** (Біблія, 95);

3) **тыи люди втекли... статки въ <u>домехъ</u> своихъ ѡставивши** (КСД, 245, 1515);

4) **Виделъ Трыщан ꙋ тыхъ <u>склепехъ</u> много всѧкого добра** (Трыст., 108);

а) **-ѣхъ**; б) **-ъхъ**; в) **-ьхъ**.

Тэма 4

# Узаемадзеянне цвёрдай і мяккай разнавіднасцей скланення. Змены ў скланенні асноў на заднеязычныя

Цвёрдая і мяккая разнавіднасці выступалі ў скланеннях на *ā/*jā (трава/землꙗ) і *ŏ/*jŏ (городъ/конь; село/поле). У склонавых канчатках цвёрдай і мяккай разнавіднасцей назіраліся заканамерныя адпаведнасці (табл. 10, 11).

*Табліца 10*

**Адпаведнасці галосных у канчатках цвёрдай і мяккай разнавіднасцей скланення**

| Разнавіднасць скланення | Галосны канчатка | | | |
|---|---|---|---|---|
| Цвёрдая | ъ | о | ы | ѣ |
| Мяккая | ь | є | ѣ | и |

Большасць склонавых канчаткаў зведала фанетычныя змены, звязаныя са стратай рэдукаваных ([ъ] > [о]/ø, [ь] > [е]/ø), дэфаналагізацыяй фанемы [ě] (яць), пераходам [е] > [о], аканнем. Парадыгма множнага ліку сфарміравалася па аналогіі з парадыгмай назоўнікаў з асновамі на *ā/*jā. Так ніверавалася адрозненні паміж цвёрдай і мяккай разнавіднасцямі ў скланенні назоўнікаў з асновамі на *ŏ/*jŏ.

У скланенні на *ā/*jā змены закранулі толькі формы роднага склону адзіночнага ліку і назоўнага склону множнага ліку. Тут па

аналогіі з канчаткам **-ы** цвёрдай разнавіднасці ў мяккай замест канчатка **-ѣ** пачаў ужывацца канчатак **-и**. У старабеларускім пісьменстве формы з канчаткам **-є** (на месцы **-ѣ**) вельмі рэдкія і сустракаюцца пераважна ў рэлігійных творах. Такім чынам, у беларускай мове ***ўплыў цвёрдай разнавіднасці на мяккую*** адбыўся толькі ў формах роднага склону адзіночнага ліку, а таксама назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку назоўнікаў II (жаночага) скланення.

*Табліца 11*

**Узоры цвёрдай і мяккай разнавіднасцей скланення назоўнікаў**[1]

| Склон | Тып скланення | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | на *ā | на *jā | на *ŏ | на *jŏ | на *ŏ | на *jŏ |
| | Адзіночны лік | | | | | |
| Н. | **трава** | **землꙗ** | **городъ** | **конь** | **село** | **полє** |
| Р. | **травы** | **землѣ** | **города** | **конꙗ** | **села** | **полꙗ** |
| Д. | **травѣ** | **земли** | **городꙋ** | **коню** | **селꙋ** | **полю** |
| В. | **травꙋ** | **землю** | **городъ** | **конъ** | **село** | **полє** |
| Т. | **травою** | **землєю** | **городомь** | **конємь** | **селомь** | **полємь** |
| М. | **травѣ** | **земли** | **городѣ** | **кони** | **селѣ** | **поли** |
| | Множны лік | | | | | |
| Н. | **травы** | **землѣ** | **городи** | **кони** | **села** | **полꙗ** |
| Р. | **травъ** | **земль** | **городъ** | **конь** | **селъ** | **поль** |
| Д. | **травамъ** | **землямъ** | **городомъ** | **конємъ** | **селомъ** | **полємъ** |
| В. | **травы** | **землѣ** | **городы** | **конѣ** | **села** | **полꙗ** |
| Т. | **травами** | **землꙗми** | **городы** | **кони** | **селы** | **поли** |
| М. | **травахъ** | **землꙗхъ** | **городѣхъ** | **конихъ** | **селѣхъ** | **полихъ** |

Асновы на зацвярдзелы зычны ў месным склоне адзіночнага ліку захавалі старажытны канчатак мяккай разнавіднасці (**-и** > **-ы**): (*на*) *мяж-ы*, (*да*) *куч-ы*, (*у*) *ка́ш-ы*, (*па*) *буквар-ы*, (*на*) *дождж-ы*, (*на*) *мор-ы*, (*у*) *вядр-ы*, (*па*) *сэрц-ы*.

У старабеларускім пісьменстве знаходзім факты непаслядоўнай перадачы фанетычных з'яў (зацвярдзення зычных): **мѣсто на <u>конци</u> тоє горы оубоудовали** (Валх., 65) – **тамъ же подлє воротъ ꙋ <u>концы</u> тоє**

[1]Формы клічнага склону і парадыгма парнага ліку будуць разгледжаны пазней (гл. тэму 5).

**клγни коморъка** (АВК, XIV, 202, 1580), а таксама ўзаемаўплыву розных тыпаў скланення: **в <u>концγ</u> тока верея новая лежитъ** (АВК, VIII, 418, 1586). Апошні прыклад ілюструе ўзаемадзеянне скланенняў на *jŏ пасля зацвярдзення [ц] і скланення на *ŭ.

Працэс фарміравання сістэмы іменнага скланення праходзіў доўга і складана. Узаемадзеянне цвёрдай і мяккай разнавіднасцей скланення часам прадстаўлена прыкладамі, якія супярэчаць агульнаму напрамку станаўлення граматычнай нормы: **на слꙋпѣ заⷭ томⷨ ѡбразⷥ преⷱⷭтои бⷣци** (Дыяр., 172б) – **казали ѡбразⷥ на єⷢ гробъ на стлꙋпи завѣстиⷮ** (Бельск., 12). Другі прыклад паказвае ў цэлым нехарактэрны ўплыў мяккай разнавіднасці на цвёрдую. Аднак такія формы існуюць у дыялектах.

Аналагічнае ўзаемадзеянне цвёрдай і мяккай разнавіднасцей скланення ў парадыгме множнага ліку назіраем у ранніх прыжыццёвых выданнях Якуба Коласа. Чытаем: *О край родны, край прыгожы, дзе барэ, лясэ гудуць* – назоўнікі *бор, лес* некалі мелі асновы на *ŏ, форма назоўнага склону множнага ліку ў іх была **бори, лѣси**; па аналогіі са скланеннем на *ā (як **воды, дѣвы**) стала *бары, лясы*; дыялектная форма накшталт *барэ, лясэ* ўзнікла па аналогіі з мяккай разнавіднасцю (*jā тыпу **землѣ, пѣснѣ**).

Фанетычныя працэсы і граматычныя аналогіі паўплывалі і на фарміраванне скланення назоўнікаў з ***асновамі на заднеязычныя* [г], [к], [х]**. Вядома, што першапачаткова заднеязычныя спалучаліся толькі з галоснымі непярэдняй зоны ўтварэння. Таму назоўнікі скланення на *ā ў родным склоне адзіночнага ліку і ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку мелі нязменную аснову перад канчаткам **-ы** (**ногы, рγкы, свахы**), гэта слушна і для назоўнікаў скланення на *ŏ ў форме вінавальнага склону множнага ліку (**плγгы, роботникы, пастγхы**). Толькі пасля другаснага памякчэння зычных з'явіліся спалучэнні [г'и], [к'и], [х'и]. Адбылося гэта ў назоўнікаў:

1) з асновамі на *ā ў формах: а) роднага склону адзіночнага ліку: **ногы́, рγкы́, стрєхы́** > **ноги́, рγки́, стрєхи́**; б) назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку: **нóгы, рγ́кы, стрє́хы** > **нóги, рγ́ки, стрє́хи**;

2) з асновамі на *ŏ ў формах вінавальнага склону множнага ліку: **плγгы, роботникы, пастγхы** > **плγги, роботники, пастγхи**.

У асновах на заднеязычныя ў становішчы перад галоснымі **-ѣ** і **-и**, якія з'яўляліся канчаткамі, узнікла II палаталізацыя – чаргаванні [г]//[з], [к]//[ц], [х]//[с] у формах назоўнікаў:

1) з асновамі на *ā ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку: **нозѣ, рγцѣ, свасѣ**;

2) з асновамі на *ŏ:

• у месным склоне адзіночнага ліку: **плѹзѣ, роботницѣ, пастѹсѣ**;

• назоўным склоне множнага ліку: **плѹзи, роботници, пастѹси**;

• месным склоне множнага ліку: **плѹзѣхъ, роботницѣхъ, пастѹсѣхъ**.

Назоўнікі жаночага роду захавалі ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку старажытныя канчаткі ([ě] > [э]): *руцэ, рацэ, муцэ́, назе, свасе.* Толькі назоўнікі з асновамі на [к] дапускаюць канчатак мяккай разнавіднасці, калі націск на аснове: (*у*) *ру́чцы,* (*на*) *рэ́чцы,* (*у*) *му́цы.*

Што ж да назоўнікаў мужчынскага роду, то ў іх адбывалася ўзаемадзеянне скланенняў на *ŏ і *ŭ. Таму неадушаўлёныя назоўнікі ў месным склоне адзіночнага ліку могуць захоўваць старажытныя канчаткі як варыянтныя: *на лузе* і *на лугу*, *у кажусе* і *ў кажуху*, *у гаросе* і *ў гароху* (канчатак -*е* паходзіць са скланення на *ŏ, канчатак -*у* спрадвечны для і.-е. асноў на *ŭ). Словы, што прыйшлі ў беларускую мову пазней, калі працэс перагрупоўкі тыпаў скланення завяршыўся, такіх варыянтаў не маюць: *на мітынгу*, *па парку*, *у цэху*, як і назвы гарадоў мужчынскага роду: (*у*) *Пецярбургу, Гамбургу, Квебеку, Цюрыху*.

Толькі з канчаткам -*у*(-*ю*) ужываюцца адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду з асновамі на заднеязычныя ((*пры*) *геолагу, супрацоўніку, пастуху*), мяккія ((*пры*) *кавалю, герою*) і зацвярдзелыя ((*пры*) *мужу, слесару*) зычныя.

Часам генетычна розныя канчаткі размяжоўваюць семантыку: *на рагу вуліцы – на розе каровы, салдат стаяў на пасту – дні праходзілі ў малітве і посце, на дварэ ідзе дождж – на двары скасілі траву*.

## Заданні

З а д а н н е 1. Якія з прыведзеных ніжэй назоўнікаў у старажытнасці скланяліся па мяккай разнавіднасці (*jā, *jŏ)?

Брат, вежа, вецер, град, гусь, даліна, дождж, доля, дуб, жонка, касец, каша, князь, край, куча, леў, ільвіца, ільвяня, меч, муж, мяжа, нож, студня, стужа, сястра, сястрыца, хваля.

З а д а н н е 2. Дапоўніце табліцу 11 (гл. с. 45) сучаснымі адпаведнікамі і прасачыце эвалюцыю канчаткаў у тыпах скланення на *ā/*jā, *ŏ/*jŏ. Адзначце, у канчатках якіх склонаў адбыліся: зацвярдзенне губных зычных, пераход [е]>[о], аканне.

З а д а н н е 3. Супастаўце канчаткі падкрэсленых назоўнікаў з традыцыйнымі і сучаснымі. Растлумачце фанетычныя і граматычныя змены ў іх.

1) было на конци тое оулице, где неколи стоѧл и был дом двдвъ (Валх., 43);

2) оттоль тою жъ дорогою мимо войта Матѣшского Миколая улицою, а того войта дворъ поправу (АСД, I, 19, 1536);

3) на тое сто трубили по улицы в рог (Бельск., 57);

4) выжабрал хлѣба на улици (Зб. 262, 149).

З а д а н н е 4. Сярод падкрэсленых формаў назоўнікаў выберыце тыя, якія маюць спрадвечныя (першасныя, архаічныя для старабеларускай мовы) канчаткі.

1) рижаном оу Полочку никакое малое торговле не торговати (Гр. 1407);

2) вышли проч из божнице (Пак. Хр., 33б);

3) пшеницы полъшанка[1], рахуючы по торговому за золотыхъ два (АВК, XVIII, 325, 1631);

4) погледи на чотыри священные патриярхи и пастыри истинные... яко... ани вѣры, ани сукцессіе[2] порядное не стратили (Пыт., 8);

5) видимо презрочистое водъ живыхъ жродло... з сухой и безводнои землѣ выникаючее (Каліст, іі, 208);

6) ѡни... бга хвалят и николи такой пѣсни не перестают (Пралог, 547);

7) Иуара... пустилсѧ в сторону незнаемую до астатнего франкеского границы (Зб. 82, 50б).

[1]полъшанка – 'палова шанка – старажытнай меры сыпкіх рэчываў' (ГСБМ. Вып. 26. С. 229).

[2]сукцессия – 'спадчына, пераемнасць' (Там жа. Вып. 33. С. 68).

З а д а н н е 5. Ахарактарызуйце форму падкрэсленага назоўніка і прасачыце яе гістарычны лёс.

Аще сѧ въвадить волкъ в овцѣ, то выносить все стадо, аще не оубьють его; тако и се, аще не оубьемъ его, то все ны погубить (Лаўр. лет., 14 адв.).

З а д а н н е 6. Формы назоўнага склону множнага ліку ў ніжэйпрыведзеных прыкладах размяркуйце на першасныя (спрадвечныя) і другасныя (новыя).

1) границы межи нами въ докончалныхъ грамотахъ записаны на обѣ сторонѣ (АЗР, і, 162, 1496);

2) оуси земле и королевства видевше таке дивы ѡстерегалисе (Валх., 39б);

3) ср҃дце чл҃чее мысли҃т путь его а гь направи҃т ступни его (Зб. 262, 101);

4) многіе письма и гисторыи, але тежъ ваши правила и каноны ясне и явнѣ описують и посвѣдчають (АЗР, IV, 86. 1595);

5) ꙗскинѣ и пропасти моимъ зданьемъбезпечнейшіе (Апокр., 84б);

6) спева҃л пото҃м двдъ жалобливые пѣсни ѡплакуючи сме҃рть саулову (Бельск., 102б);

7) бурѣ, ветры… розрухѡв чинити не переставаютъ (Каліст, 52б).

Заданне 7. Прааналізуйце падкрэсленыя назоўнікі: вызначыце пачатковую форму, тып скланення, род, лік, склон, першаснай ці другаснай з'яўляецца флексія.

1) какъ вихоръ страхъ вашь беда ваша как бурѧ пріидеть оу прииденііи[1] на васъ тузѣ и тошници[2] (Зб. 262, 93б);

2) имъ по тако҃ѕ розлуце волно будеть в ыншое малъженъство ѿдаватисе (Ст. 1588, 289);

3) оныхъ҃ѕ по правои руцѣ сажають котори҃х собѣ ровными быти знають (Будны, 148);

4) утекъ зъ Старынокъ до именья княжны Зофии Юрьевны Слуцкое, до Тоновское слободки (АВК, XVIII, 131, 1595);

5) треви҃к а҃лбо бо҃т знꙗл з ноги (Бельск., 77б);

6) книги всякие старого и нового закону такъ въ науце школной яко и церкви потребные… друковати позволяемо (СДГВ, 19б, 1615).

---

[1]приидение – 'прыход, з'яўленне' (ГСБМ. Вып. 28. С. 280).

[2]тошница – 'стан млоснасці, моташнасць' (Там жа. Вып. 33. С. 407).

Заданне 8. Запісаныя ў дужках словы пастаўце ў патрэбнай граматычнай форме.

1) Пре҃д снего҃м и перед иными грозными речами на тоую гороу (дорога) нет… (Валх., 80б);

2) винenъ ми осталъ камений воску (вага) Городенское (АВК, XVII, 62, 1539);

3) ежь роскрышивъ хлѣба во (юха) с масло҃м многи҃м изворивъ (Арыст., 20б);

4) на (ласка) его милости, если ми того не позволитъ, я тымъ ниякое перекaзы… чынити не буду (АВК, XX, 60, 1588);

5) Дивно есть всѣмъ… Потѣй епископъ, пишучи, крыеть свое имя… чому на (свешникъ[1]) не стоить, абы всѣ видели свѣтлость его (АЗР, IV, 225, 1600–1605);

6) **за маліоване образа Пресвятой Богородицы на (бляха) жести белой меской, пану Мирону Пигареивчу заплатила** (ИЮМ, X, 105, 1695);

7) **купили до бубна скурку и (палка) точоныя** (ИЮМ, XIII, 119, 1699).

[1]**свешникъ** – тут перан. ‘падсвечнік’ (ГСБМ. Вып. 31. С. 119).

З а д а н н е 9. Прааналізуйце формы вінавальнага склону множнага ліку падкрэсленых назоўнікаў і вызначыце, якая з іх першасная, якія змены адбыліся ў другасных формах.

1) **сопогы и набед$^{ѕ}$рне и наплечникъ возложилъ есть на него** (Скар. ІС, 72–72б);

2) **сапози имеите на ногахъ ваших$^{ѕ}$** (Скар. КІ, І, 23);

3) **зъзу$^{ѕ}$ сапоги з но$^{г}$ твои$^{х}$** (Зб. 261, 133б).

З а д а н н е 10. Прааналізуйце формы назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку назоўнікаў: вызначыце тып скланення, род, лік, склон, першаснай ці другаснай з’яўляецца флексія.

1) **друзи его по оныхъ шкодах и многих страстяах даровали по грошу** (Будны, 92);

2) **конь всталъ на задние ноги, а передние ноги положыл Бову на плечы** (Бава, 153);

3) **оные свѣтя$^{т}$ся якъ свѣтилници**[1] **кругѡ$^{в}$ небесны$^{х}$** (Каз. Кір., 144б);

4) **в$^{ѕ}$ пущахъ и в$^{ѕ}$ гора$^{х}$ волки, ме$^{д}$ведѣ, и львы, звѣръ есть барзо срокгій** (Каліст, ІІ, 192б);

5) **смѣхи и жарты з$^{ѕ}$ цркви выженемо**[2] (Каліст, ІІ, 321б);

6) **ланцужки сребреные..., серги, чепцы золотые и перстенки то все маеть зостать пры малжонце моей** (ИЮМ, XXI, 422, 1625);

7) **Сошлисья предне$^{ѕ}$шіи спѣвацы и музыкове...ку выспѣваню и выславяню звытязтвъ**[3] **и триумфо$^{в}$ твои$^{х}$** (Выкл., 131б);

8) **бѣгалъ играючи и смехы строечы спросные**[4] **песни спѣваючы** (Зб. 107, 124).

[1]**светилникъ** – ‘нябеснае свяціла’ (ГСБМ. Вып. 31. С. 96).

[2]**выженути** –‘выгнаць’ (Там жа. Вып. 5. С. 181).

[3]**звитязство** – ‘перамога’ (Там жа. Вып. 12. С. 95).

[4]**спросный** – ‘непрыстойны, ганебны’ (Там жа. Вып. 32. С. 249).

З а д а н н е 11. Назоўнікі ў дужках пастаўце ў першаснай форме месная склону множнага ліку.

1) **въстану и обыиду градъ, по (торгъ) по улицахъ гледати буду егоже милуеть душа моя** (Скар. ПП, 5);

2) **по потопѣ сам͛ б҃ъ далъ ноеви таину и всѣму его потомству се є͑ст дугу на (облако)** (Будны, 219б);

3) **въ (грѣхъ) роди мѧ мати моѧ** (Будны, 232б);

4) **да сотвориши ѡтмщеніє въ (ꙗзыкъ) невѣрныхъ и ѡбличеніє в͛ людех ѿступных и ра͑звраще͑ныхъ** (Дыяр., 169).

З а д а н н е 12. Прааналізуйце канчаткі меснага склону множнага ліку назоўнікаў у наступным сказе. Якія з іх першасныя, а якія – другасныя? Патлумачце паходжанне другасных канчаткаў.

**Мають мѣщане на свои потребы брати дерево около мѣста, въ нашихъ борѣхъ и лѣсѣхъ и дубровахъ и гаѣхъ...** (АЗР, III, 68, 1587).

З а д а н н е 13. Пракаменціруйце значэнні фразеалагізмаў *прытча ва **языцах***, *цямна вада ва **облацэх***, а таксама формы выдзеленых назоўнікаў. Пры неабходнасці звярніцеся да «Этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава (Мінск, 2004. С. 317, 406). Якое значэнне ў першым фразеалагізме мае назоўнік *язык*?

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэслены назоўнік выступае ў першаснай форме роднага склону ў сказе:

1) **урядники наши отробившися отъ пашни, въ осень и на веснѣ, ставы и сажавки подданными будовали мають** (АЗР, III, 78, 1557);

2) **абы... собѣ и конемъ своимъ за пенези торгомъ а не уставою живность куповали, кроме паши волное часу летнего на сеножатех и полꙗхъ простыхъ** (Ст. 1588, 51);

3) **ꙗкъ оумысел͛ ѡрача до пашнѣ, мысль мужа до жоны, а купца до гандлю** (Мак., 133);

4) **реки высхли и быдло пашы не мѣло** (Зб. 752, 344б).

**2.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

Падкрэсленая словаформа ў сказе... (1, 2, 3, 4) выступае ў форме... (а, б) ліку і ... (в, г, д, е) склону.

1) **мощны͛ ахилес съ своими корабли з мирмидоны к земли приплынули** (Троя, 27б);

2) **г͑дь богъ далъ имъ миръ на земли** (Скар. ІН, 39);

3) **пришла с конца земли слышеть мудрость саломонову** (Цяп., 16б);

4) кгрунты вси до того двора Деревенского належачіе... то есть за двором <u>земли</u> погною на трохъ мѣстцахъ (АВК, XIV, 346, 1586);

а) адзіночнага; в) назоўнага; д) давальнага;
б) множнага; г) роднага; е) меснага.

**3.** Адзначце правільны адказ.

Архаічная для старабеларускага пісьменства склонавая форма назоўніка *вежа* прадстаўлена ў сказе:

1) Стражъ иже былъ на <u>вежи</u> (Скар. ДЦ, 90б);

2) Учинили двѣ высокии <u>вежы</u> (Біблія, 21);

3) Поръ... маючы слони на которых были <u>вежи</u> деревяныи ку ношеню потребъ (Бельск., 175б–176);

4) онаѧ работа около вавилонскои <u>вежѣ</u> недокончона зостала (Стрыйк., 416б).

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэслены назоўнік выступае ў архаічнай для старабеларускага пісьменства склонавай форме ў сказе:

1) Мѣрла взялъ съ своее <u>руки</u> судьею пана Стецка Саковича, а Ѳедко – пана Михна Вышегородского (КСД, 23, 1510);

2) тепер зовут <u>присягы</u> вживати (Будны, 22б);

3) ... досвятчоного в цноте мужа, которому мают верит без <u>присеги</u> (Наб. тур., 23);

4) окупит тя ѿ смерти и в войнѣ ѿ <u>рукы</u> меча (Зб.262, 14);

5) на уголъ отъ п. Озарынского, што былъ обрушылъ се отъ <u>стрехи</u>, заплатили (ИЮМ, X, 161, 1695).

**5.** Адзначце правільны адказ.

вз духовномъ веселю и <u>оутѣсѣ</u> спеваючи (Карп., 1).

Падкрэсленае слова – гэта форма меснага склону адзіночнага ліку назоўніка:

1) оутесъ; 3) оутеха;
2) утица; 4) оутискъ.

**6.** Адзначце правільны адказ.

ꙗко перзворожензного тельца́ краса его, и ꙗко рогъ единороговз ______ его (Скар. ДЗ, 64б).

Замест пропуску ў сказе трэба паставіць наступную першасную (старажытную) форму множнага ліку назоўніка рогъ:

1) рога; 3) рогы;
2) рози; 4) роги.

**7.** Адзначце правільны адказ.

**ночꙋю$^{\text{чи}}$ ꙋ ры$^{\text{н}}$ко$^{\text{н}}$та$^{\text{х}}$ ________ мало бы$^{\text{ли}}$ не забили** (Еўл., 33).

---

**рынконты** – населены пункт з назвай *Рынконты*.

Замест пропуску ў сказе трэба паставіць наступную першасную (старажытную) форму множнага ліку назоўніка **розбо$^{\text{ѕ}}$никъ**:

1) **розбо$^{\text{ѕ}}$никы**; 2) **розбо$^{\text{ѕ}}$ники**; 3) **розбо$^{\text{ѕ}}$ници**.

**8.** Адзначце правільны адказ.

**... древѧнѧ же ѿ словѣнъ же • и нарекошасѧ древлѧне • радимичи бо и вѧтичи ѿ лѧховъ • бѧста бо •в҃• брата в <u>лѧсѣ$^{\text{х}}$</u> • радимъ • а дрꙋгомꙋ вѧ$^{\text{тко}}$...** (Лаўр. лет., 4 адв.).

Падкрэсленая ва ўрыўку з Лаўрэнцьеўскага летапісу словаформа (на асаблівасці арфаграфіі ўвагі не звяртайце) мае пачатковую форму:

1) **лѣсъ**; 2) **лось**; 3) **лꙗхъ**.

**9.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У падкрэсленай словаформе... (1, 2, 3, 4) канчатак... (а, б, в).

1) шклянка <u>вады</u>; 3) дамешкі ў <u>муцэ́</u>;
2) лісце <u>вішні</u>; 4) жылі ў <u>му́цы</u>;

а) спрадвечны;
б) узнік па аналогіі з цвёрдай разнавіднасцю скланення;
в) узнік па аналогіі з мяккай разнавіднасцю скланення.

**10.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сучаснай форме назоўніка... (1, 2, 3, 4) канчатак... (а, б, в).

1) у бары; 3) на моху;
2) у гаі; 4) на лузе;

а) спрадвечны;
б) узнік па аналогіі з асновамі на *jŏ;
в) узнік па аналогіі з асновамі на *ŭ.

## Тэма 5

# Развіццё катэгорыі адушаўлёнасці. Клічны склон у гісторыі мовы. Гісторыя парнага ліку

Патрэба ў размежаванні адушаўлёных/неадушаўлёных назоўнікаў вынікае з неабходнасці адрознення суб'екта і аб'екта (дзейніка і прамога дапаўнення). У старажытнабеларускі (агульнаўсходнеславянскі) перыяд у назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду формы назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку былі аманімічнымі: Н. склон прасл. *bogŏs, *sūnŭs, *hostĭs → *bogъ, *synъ, *hostь і В. склон прасл. *bogŏm, *sūnum, *hostĭm → *bogъ, *synъ, *hostь (напр.: **побѣди ꙗрославъ брꙗчиславъ** – толькі парадак слоў дазваляе вызначыць утваральніка дзеяння). У выніку адрознівальным сродкам адушаўлёнасці пры выражэнні прамога дапаўнення стала форма роднага склону адушаўлёнага назоўніка. Верагодна, у маўленчай практыцы перавагу гэта форма атрымала таму, што вінавальны і родны склоны ўжываліся ў аналагічных канструкцыях з дзеясловам і адмаўленнем (*есці хлеб/не есці хлеба*).

Канчатковае фарміраванне ***катэгорыі адушаўлёнасці*** назоўнікаў прыпадае на старабеларускі перыяд. Выкарыстанне формаў роднага склону ў значэнні вінавальнага распаўсюджвалася паступова: спачатку гэта былі толькі назоўнікі, якія абазначалі ўласныя імёны і назвы сацыяльна значных асоб мужчынскага полу (**Всеславъ, кънѧзь, отьць**), потым – назвы ўсіх асоб мужчынскага полу, і нарэшце – назвы звяроў, птушак і г. д., а таксама назвы асоб жаночага полу. Для назоўнікаў жаночага роду катэгорыя адушаўлёнасці фармалізавалася пазней таму, што яны ў адзіночным ліку мелі адрозныя формы назоўнага і вінавальнага склонаў (**кънѧгынꙗ – кънѧгыню**); для іх катэ-

горыя адушаўлёнасці выражана толькі ў множным ліку (**кънѧгынѣ – кънѧгынь**).

Формай ***клічнага склону*** назоўніка абазначаўся адрасат маўлення. На раннім этапе фарміравання мовы клічны склон, або вакатыў, быў абмежаваны ва ўтварэнні: у гэтай форме маглі выступаць толькі назоўнікі мужчынскага і жаночага роду адзіночнага ліку скланенняў на *ā/*jā, *ŏ/*jŏ, *ŭ, *ĭ (табл. 12). Не ўтвараліся вакатывы ні ад назоўнікаў ніякага роду, ні ў тыпах скланення на зычны і *ū, ні ў парным і множным ліках. Ва ўсіх гэтых выпадках зваротак перадаваўся формай назоўнага склону.

У асновах на заднеязычныя перад канчаткам **-є** адбывалася I палаталізацыя: **Боже!**, **роботниче!**, **пастуше!**, **кънѧже!**, **отче!**. Такое афармленне клічнага склону ўтварылася храналагічна раней, чым форма назоўнага склону набыла звыклы фанетычны воблік у выніку III палаталізацыі (тыпу *kъnęgъ > **кънѧзь**, *otьkъ > **отьць**).

*Табліца 12*

**Формы клічнага склону назоўнікаў**

| Тып скланення | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| на *ā | на *jā | на *ŏ | на *jŏ | на *ŭ | на *ĭ |
| **жено! дѣво!** | **кънѧгыне! судиє!** | **господине! брате!** | **коню! мужу!** | **сыну!** | **господи!** |

У пэўных кантэкстах у форме клічнага склону сустракаюцца не толькі асабовыя назоўнікі, але і неадушаўлёныя: **поиді к дшевному городоу. штожь дхомъ стымъ пр҇ркъ реклъ. преславнаѧ ре҇ч тсѧ ѡ тобѣ граде бжии** (Чэцця, 159).

Клічная форма для назоўнікаў скланення на *ĭ ў старабеларускім пісьменстве прадстаўлена толькі адным назоўнікам **господи!**. Відавочна, што яго захаванню спрыяла пашыранасць у рэлігійных тэкстах.

Агульнамоўныя працэсы перагрупоўкі сістэмы скланення закранулі і вакатывы, у якіх адзначаецца:

1) ужыванне з канчаткам іншага тыпу скланення пры супадзенні граматычнага роду: **пане намесникѹ на насъ перевозѹ ище**[ш] (КВЗС, 8б, 1533) – тут канчатак **-ѹ** са скланення на *ŭ, першапачаткова было **наместьниче**;

2) узаемадзеянне цвёрдай і мяккай разнавіднасцей: **спишъ дшо на ложъкѹ мене не шукаешъ** (Зб. 259, 635). Шыпячы [ш] у назоўніку **душа** быў спрадвечна мяккім, таму першасная форма клічнага склону – **душе!**.

У старабеларускі перыяд клічная форма пачала выходзіць з ужытку і замяняцца формай назоўнага склону: **зѕ высокости голосъ забрмѣлѕ, мовꙗчій ємꙋ: Макарій, приступи до баволицы, и пій молоко єи** (Мак., 16) (**Макарій** замест традыцыйнага **Макарію**).

У сучаснай беларускай мове клічныя формы захаваліся ў некаторых гаворках, найперш у паўднёва-заходніх[1]. З пэўнымі стылістычнымі мэтамі ўжываюцца такія формы і ў творах мастацкай літаратуры.

Верагодна, яшчэ ў праславянскай мове-аснове з'явілася разуменне множнасці як сукупнасці канкрэтных адзінак. Значэнне *парнага ліку* аказалася прыватным выпадкам множнага. Таму парадыгма парнага ліку ва ўсходнеславянскі перыяд была дэфектнай: толькі тры віды канчаткаў перадавалі шэсць склонавых значэнняў, прычым у формах ускосных склонаў нівеліраваліся адрозненні старажытных тыпаў скланення (табл. 13).

*Табліца 13*

**Скланенне назоўнікаў у парным ліку**

| Склон | Тып скланення | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | на *ā/*jā | на *ŏ/*jŏ | | на *ŭ | на *ĭ | на зычны |
| Н.-В. | **руцѣ**<br>**воли** | **стола**<br>**коня** | **селѣ**<br>**плечи** | **сыны** | **гости**<br>**ночи** | **имене** |
| Р.-М. | **руку**<br>**волю** | **столу**<br>**коню** | **селу**<br>**плечу** | **сынову** | **гостию**<br>**ночию** | **имену** |
| Д.-Т. | **рукама**<br>**волямa** | **столома**<br>**конема** | **селома**<br>**плечема** | **сынома** | **гостьма**<br>**ночьма** | **именьма** |

У большасці славянскіх моў парны лік знік (выключэнне складаюць славенская і лужыцкая мовы, якія захавалі формы назоўна-вінавальнага і родна-меснага склонаў).

Працэс страты парнага ліку супаў па часе з фарміраваннем старабеларускай літаратурнай мовы, таму выразна прасочваецца ў помніках. Першапачатковa страціліся формы, якія мелі менш адрозненняў: родна-меснага і давальна-творнага склонаў. У гэты ж час у назоўным і вінавальным склонах назоўнікі ніякага роду пачалі змяняцца як і назоўнікі мужчынскага роду, паступова яны аб'ядналіся ў адзін тып скланення: **дъвѣ селѣ** → **дъва села**, параўн.: **дъва стола**.

Паколькі працэс разбурэння парнага ліку быў даволі працяглым, можна прасачыць па пісьмовых крыніцах, як праходзіў адбор магчы-

[1]Гл.: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / АН Беларус. ССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа ; Р. І. Аванесаў [і інш.]. Мінск, 1963. Карты 93, 94.

мых формаў. Супадзенне семантыкі множнасці і парнасці прывяло да таго, што:

1) формы назоўна-вінавальнага склону пачалі ўжывацца і з лічэбнікамі *тры, чатыры, паўтара*, прычым паралельна маглі выкарыстоўвацца і формы множнага ліку: **три коня – тры кони; полтора ведра – полтора ведры; четыре дочцѣ – четыре дачки**; назоўнікі жаночага роду даўжэй захоўвалі формы парнага ліку;

2) ва ўскосных склонах у пераважнай большасці выпадкаў парны лік прадстаўлены двюма формамі назоўнікаў, якія скланяюцца ўжо без устаўкі *-ес-*: **очью, очима; ѹшью, ѹшима**.

Напамінам пра парны лік у сучаснай беларускай мове засталіся ў якасці дапушчальных варыянтаў формы меснага склону множнага ліку *у ваччу, у вушшу* (асноўны варыянт – *у вачах, у вушах*) і творнага склону множнага ліку *вачыма, вушыма, плячыма, дзвярыма, грашыма* (асноўны варыянт – *вачамі, вушамі, плячамі, дзвярамі, грашамі*).

У паўднёва-заходніх, а таксама ў некаторых цэнтральных беларускіх гаворках можна сустрэць формы назоўнага склону з канчаткам *-е*, які ўзыходзіць да былога канчатка парнага ліку -ѣ (яць): *дзве назе, абедзве руцэ, тры сястрэ, дзяўке, хустке*.

## ЗАДАННІ

Заданне 1. Прааналізуйце спосабы выражэння катэгорыі адушаўлёнасці ў падкрэсленых назоўніках (звярніце ўвагу, што прыклады размешчаны ў храналагічным парадку).

1) **люди твои... въ нашой земьли звѣръ бъють, а пьчолы дерѹть, а по рѣкамъ бобры бьють** (АЗР, I, 71, 1456);

2) **абы... бра[т] за брата ѡтецъ и матка за дочкѹ дочка за маткѹ, або ѿца... не бы[л] каранъ** (Ст. 1588, 24);

3) **тые имене... ни на кого иного спадывати не мают, только на дети мои...** (АВК, XXXII, 235, 1596);

4) **мещанъ боꙗръ, люде[ѕ] ȣчтивыхъ такъ мȣже[ѕ] ꙗко и жонъ дете[ѕ] малыхъ побили порѹбали попоганили** (Барк., 153б).

Заданне 2. Вядома, што катэгорыя адушаўлёнасці набыла граматычнае выражэнне не адразу для ўсіх назоўнікаў, якія абазначаюць асоб. Патлумачце, як яна выражана ў падкрэсленых словаформах у прыкладах з «Рускай праўды» 1282 г.

1) **аще кто оѹбиеть кнѧжа моѹжа въ разбои а головника**[1] **не ищють то вирьвноѹю платити...**;

2) боудеть ли сталъ на розбои без всѧкоıа свады[2] то за разбоиника людьıє не платѧть;

3) оже придеть кръвавъ моуже на дворъ или синь то видока ıємоу не искати...;

4) или не боудеть на немь знамениıа, то привести ıємоу видок. слово противу слова[3]...

---

[1]головникъ – ‘забойца’ (Хрэстаматыя... С. 464).

[2]свада – ‘спрэчка, сварка’ (Там жа. С. 498).

[3]слово противу слова – ‘сведчанні пацярпелага і сведкі павінны супадаць’ (Там жа. С. 71).

З а д а н н е 3. Вызначыце склонава-лікавую форму падкрэсленага назоўніка і растлумачце адметнасць яе ўжывання.

Рыбак быў дзядзька наш Антоні,
Як і работнік, адмысловы;
А Ўладзік пасвіў дзесь каровы,
Травіў чужыя сенажаці.

(*Я. Колас*. «Новая зямля»)

З а д а н н е 4. Патлумачце форму назоўніка ва ўстойлівых выразах *выходзіць у людзі, выбіцца ў начальнікі, ісці ў госці,* а таксама паходжанне прыслоўя *замуж.*

З а д а н н е 5. У прыкладах са старабеларускіх тэкстаў знайдзіце формы клічнага склону назоўнікаў, вызначыце пачатковую форму назоўнікаў і тып старажытнага скланення.

1) ра$^{д}$уисѧ... чистаıа д͠во, свеще невгасимаıа (Чэцця, 47б);

2) иные панны мовечи смеıали сѧ еи: ѡ глупаıа девко, ıакъ може не ѡбронившы вернути тот цудныи венецъ (Трыст., 122);

3) мовили та$^{к}$ мату$^{х}$но зезулю$^{х}$но уту$^{х}$но панюшко, сподарининѧ с͠лнце м$^{с}$цъ звездухно, да$^{ѕ}$ крошку хлеба (Барк., 165б);

4) мови$^{л}$ есми ıазыко$^{м}$ мои$^{м}$, скажи мнѣ г͠ди доко$^{н}$чене мое и ли$^{ч}$бу дне$^{ѕ}$ мои$^{х}$ (Пс. XVII, 11б–12);

5) Алеѯанде$^{р}$... радуючисѧ к нему рекъ пришо$^{л}$ еси не в ча$^{с}$ свитилниче мо$^{и}$, и казателю разуму моему филіозофе великій, всемудрыи Аристотелю (Алекс., 92б–93).

З а д а н н е 6. Словы ў дужках пастаўце ў традыцыйныя формы клічнага склону.

1) Рек король: (Дочка), если ты въсхочеш, ты будешъ ему жона (Трыст., 16);

2) Бово... нашол панъну Дружненну и рече еи: (Панна), твоего ѿца поимано (Бава, 140);

3) **прото чѣлядникъ тотъ, кланѧючисе ему мовилъ. (панъ), потерпи мне, а вс҃ѣ тобе ѿдамъ** (Цяп., 25б);

4) **ѡ бл҃гословеⷩныⷭ (учнь), которыⷭ есь на такого учытелꙗ трафилъ** (Зб. 752, 8б);

5) **рече ко ѿцу своему востани (ѿць) мой милый и станⷭ на горли врагу своему** (Алекс., 4б);

6) **дарій... взꙗⷧ цорку**[1] **свою роѯанну за руку... и рече ѡ (душа, свѣтъ) милый очій моихⷭ вⷭселюбезнаꙗ цоⷬка моꙗ роѯаⷩна** (Алекс., 51б).

---

[1] **цорка** – ‘дачка’ (ГСБМ. Вып. 36. С. 248).

З а д а н н е 7. Прааналізуйце формы клічнага склону ў прыкладах і вызначыце, першасная ці другасная ў іх флексія; калі другасная, то па аналогіі з чым узнік новы канчатак.

1) **исповедахуса ему гл҃юще ѻ҃че с҃не** (Чэцця, 9);

2) **раⷣуисѧ госпоже бце м҃рие** (Чэцця, 47б);

3) **Мерлин рекъ госпожо правду тобѣ поведам** (Трыст., 5);

4) **прошу тебе рыцеру поведаⷩ ми ѿкуль еси** (Трыст., 24);

5) **дщеро кнѧзева** (Скар. П҃П, 9);

6) **ѡстатнее мое мовене ѡ с҃ну до тебе чиню...** (Варл., 302б).

З а д а н н е 8. Прачытайце ўрыўкі з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» і скажыце, ці ўсе клічныя формы маюць канчаткі, адпаведныя першасным.

– Здалёк мы, пане гаспадару:
Чатыры мілі за Нясвіжам
(Міхал лічыў Нясвіж Парыжам,
Усім вядомым на ўсім свеце)...
<...>
Глядзіць прыветна, як на брата.
– Заходзьце ж, брацiку, да хаты...
Дык вы з канём? Дык заязджайце,
Вот тут пад клуняю стаўляйце...
(раздз. «Агляд зямлі»)

З а д а н н е 9. Прааналізуйце выражэнне зваротка ў сучасных прыкладах.

1) Дзе ты, хмелю, зіму зімаваў, што не развіваўся. Дзе ты, сынку, ночку начаваў, што не разуваўся? (нар.);

2) Гуслям, княжа, не пішуць законаў (*Я. Купала*);

3) Спявай ты, Беларусь, у радасці спявай (*Я. Купала*);

4) Ну, чалавеча, збірай манаткі і ў Парэчча за добры час перабірайся! (*Я. Колас*);

5) Хлопчык, родны ты мой, мілы! Як жа граеш ты, браток! (*Я. Колас*);

6) Дзень добры, суседзе, у новую хату (*М. Танк*);

7) Ты чаму, цымбаліст, сакалочку шэранькі, выцінаеш так, быццам не вячэраўшы (*М. Лужанін*).

З а д а н н е 10. У падкрэсленых прыкладах з помнікаў старажытнага пісьменства вызначыце склон назоўнікаў у формах парнага ліку.

1) **в лѣт · ҂ѕ·у· нд · ѡльга съ сыномъ своимъ стославомъ · собра вои много и храбры · и иде на дерьвьску землю · изидоша деревлꙗне противу · съмъшемъсꙗ ѡбѣма полкома на скупь ·** (Ап. мін. гадоў);

2) **или пьхнеть моужь моужа · любо к собѣ любо ѿ себе · любо по лицю оударить · или жердью оударить · а видока два выведоуть · то ·г· грвны продаже** (Руск. пр., 1282).

З а д а н н е 11. Вядома, што лічыльнае слова *съто* скланялася як назоўнікі ніякага роду з асновамі на *ŏ. Растлумачце ўтварэнне сучаснага лічэбніка *дзвесце*.

З а д а н н е 12. Прааналізуйце формы парнага ліку назоўнікаў у прыкладах са старабеларускіх тэкстаў.

1) **маеть старостѣ нашому заплатити два фунта перцу** (АЗР, I, 24, 1388);

2) **высвобо$^{д}$ мꙗ з рукоу непрꙗтели мои$^{х}$** (Пс. XVI, 31);

3) **напоминанья незвыклые до ушъю его кролевъское милости не прыходили** (КПД, 168, 1551);

4) **На правой руце на той же кости у плецу две ране стреленыхъ зъ лука** (АВК, XVII, 429, 1552);

5) **ѡнаꙗ марꙗ$^{м}$ка... чаровные поганские слова говорила, проклинала ѡбема рукама назадъ кидала** (Барк., 151б);

6) **пребыва$^{л}$ в часто$^{м}$ а густо$^{м}$ лѣсе, чловка жадного ѡчима не видѣлъ ани с ки$^{м}$ мови$^{л}$** (Біблія, 39); **нашли двѣ дорозѣ** (Алекс., 37);

7) **она другую три книзе спалила** (Рым., 79б);

8) **дали тры пустовщизны въ округѣ Ясвоньскомъ** (АЮЗР, I, 7, 1415);

9) **робота тяглымъ людемъ съ кождое волоки по два дни на неделю, а толоки чотыре лете** (КПД, 551, 1557);

10) **за три або чатыри стре$^{л}$бища наты$^{х}$ме$^{ст}$ прижену$^{т}$ князи и боꙗре** (Патр. К, 46б).

З а д а н н е 13. Адзначце выпадкі замены парнага ліку на множны ў словазлучэннях з лічэбнікамі **два, двѣ, оба, обѣ**:

1) **ѿ обою сторону бывають недостаткы велікыи** (Вісл., 28);

2) **а хто дву лѣт жеребꙗ забьеть то шесть гривенъ маеть платить** (Вісл., 36б);

3) **по великои дорозѣ по wбѣ стороны землѧ стго николы** (Гр. Сем.);

4) **привелся передъ мене Петръ... зъ лидцомъ – зъ двема ногами дикой свини** (АВК, XVII, 223, 1540);

5) **речи бы сѣдели тые дъва сыны мои, одинъ по правицы тебе, а одинъ полевицы тебе, в$^{s}$ королевъстве твоемъ** (Цяп., 27б–28);

6) **Прынесла имъ ести двѣ птицы, wдну печоную, а другую вароную** (Трыст., 120);

7) **тѣды обадва кнзи Олгердовичи, браты, пришли в Сѣверу** (Мам., 179);

8) **чл҃вкъ на выображен$^{s}$е Бж҃ее створеный двѣ оцѣ маеть, двѣ ноздрѣ, двѣ руки, двѣ ноги** (Мак., 298);

9) **а кони два з возо$^{м}$ з рѣчами на ки$^{л}$ка сут золоты$^{х}$ заграби$^{л}$** (Дыяр., 162б);

10) **голо$^{с}$ плакати мовечи увы мнѣ госпоже моѧ ижъ уже wбѣ свѣтилѣ ваши погасило е$^{ст}$ море** (Зб. 82, 350–351);

11) **наняли огняниковъ**[1] **двохъ Веремея и Артема** (ИЮМ, XI, 70, 1697).

---

[1]**огняникъ** – ‘пажарнік’ (ГСБМ. Вып. 21. С. 360).

З а д а н н е 14. Растлумачце паходжанне канчаткаў падкрэсленых словаформаў у сказах з твораў сучаснай беларускай мастацкай літаратуры. Чым абумоўлена іх варыянтнасць?

I. 1. У вёску, калі вярнуліся нашы, ён [Юрка] бег ужо з лесу сам, несучы за <u>плячыма</u> ў торбачцы разам з сухарамі і падарункі партызан – выразаныя з кары лодачкі, караблікі, скрыначкі... (*Б. Сачанка*).

2. А вось сяду на свайго службовага буланчыка ды паеду – нават <u>плячамі</u> адчуваю, што моцна сяджу! (М. *Ракітны*).

3. Так шчыра з ёю ўзяліся дарэчы мы;
Яна ўсё тчэ, а я сучу,
І ўкрадкаю любуюсь яе <u>плечамі</u>,
За белымі грудзьмі сачу.

(*Я. Купала*)

II. 1. Алена аднімае далонь ад вачэй і гарачымі бяссоннымі <u>вачыма</u> пазірае ў прарэз дзвярэй на заліты святлом месяца шчарбаты плот, на бярозу пры веснічках (*І. Мележ*).

2. Жоны заплакалі рускія ў жальбах нябылых:
«Ўжо нам ні мысляй памысліць мужоў сваіх мілых,
Ані падумаць думай, ні <u>вочмі</u> сваімі
Іх азіраць на пуховай пасцелі жывымі...»

(*Я. Купала*)

3. Чырвонае карзно-плашч, пераломленае складкамі, здавалася на Войшалку чорным манаскім уборам, глыбокія цені ляжалі пад вачамі – цяпер тужлівымі, пакутнымі, але адначасна і прыязнымі да яе (*В. Іпатава*).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

Катэгорыя адушаўлёнасці набыла граматычнае выражэнне спачатку ў назоўнікаў, якія абазначаюць сацыяльна значных асоб мужчынскага полу, потым у назоўнікаў, якія абазначаюць:

1) асоб жаночага полу;
2) усіх асоб мужчынскага полу;
3) звяроў, птушак, рыб.

**2.** Адзначце правільны адказ.

Формы вінавальнага склону супалі з формамі роднага склону найперш у назоўнікаў групы:

1) **бобръ, волъ, голубь;**
2) **сынъ, зять, дроугъ;**
3) **жєна, сєстра, дѣвица;**
4) **Вьсєславъ, кънѧзь, мужь;**
5) **холопъ, смєрдъ, тать.**

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У традыцыйнай форме клічнага склону выступаюць назоўнікі:

1) **врачє;**
2) **вѣтрє;**
3) **жєно;**
4) **Глѣбу;**
5) **домє;**
6) **дѣвицо;**
7) **ковалю;**
8) **Мариѥ;**
9) **молодьчє;**
10) **орлу.**

**4.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У прыкладзе... (1, 2, 3, 4, 5, 6) клічная форма назоўніка мае другасны канчатак, які ўзнік у выніку... (а, б).

1) **Бєда мнє... свєчо ѡчью моих** (Жыц. Ал., 99);
2) **Выслоухаи прошу тѧ с҃ну милыи** (Пак. Хр., 11б);
3) **Всѧ си красна подруго моѧ** (Зб. 262, 654б);
4) **пахо$^{л}$ку да$^{и}$ ми щы$^{т}$** (Трыст., 44);
5) **мои намилшии антиѡху** (Алекс., 40);
6) **ꙗ тєбє ѡ тот грѣх примушат нє буду ѡдно квєтє мо$^{ѕ}$ иди дому** (Зб. 82, 20);

а) узаемадзеянне са скланеннем на *ĭ;
б) аналогіі з цвёрдай разнавіднасцю.

**5.** Адзначце правільны адказ.

Граматычная катэгорыя ліку выражала значэнні адзінкавасці, парнасці і множнасці:

1) у індаеўрапейскай мове-аснове, праславянскай і агульнаўсходнеславянскай мовах;

2) праславянскай, агульнаўсходнеславянскай і старабеларускай мовах;

3) агульнаўсходнеславянскай, старабеларускай і сучаснай беларускай мовах.

**6.** Адзначце правільны адказ.

**ѡсадили те$^{ж}$ два <u>быки</u> ѡкрꙋтные, которы$^{м}$ те$^{ж}$ ѡго$^{н}$ з гꙋбы шо$^{л}$** (Бельск., 78).

У прапанаваным сказе падкрэслены назоўнік выступае ў форме:

1) адзіночнага ліку;

2) парнага ліку;

3) множнага ліку.

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Традыцыйная форма назоўна-вінавальнага склону парнага ліку прадстаўлена ў прыкладах:

1) **три дорозѣ**;
2) **обѣ рꙋки**;
3) **два раза**;
4) **два вола**;
5) **обадва браты**;
6) **двѣ звѣздѣ**;
7) **оба кънꙗзꙗ**.

**8.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У прыкладзе... (1, 2, 3, 4, 5, 6) прадстаўлена старабеларуская форма... (а, б) склону парнага ліку.

1) **не ѿдалѧи его ѿ свои$^{х}$ ѡчеи** (Арыст., 166);

2) **карали ѡбърезанемъ носа ꙋшꙋ и гꙋбы** (Ст. 1588, 550);

3) **поставил и столъ в наметѣ... спорꙗдивши на ѡчах хлѣбы** (Біблія, 157);

4) **забримит в ꙋшъю его** (Бельск., 133);

5) **ѡчꙋ не смелъ поднести вгорꙋ** (Зб. 255, 94б);

6) **стало$^{с}$ сее е$^{ст}$ дивно оꙋв о$^{ч}$ю ншї$^{х}$** (Пс. XVII, 118);

а) роднага;

б) меснага.

**9.** Адзначце ўсе традыцыйныя формы давальна-творнага склону парнага ліку.

| | |
|---|---|
| 1) **войсками**; | 6) **стрєльбама**; |
| 2) **волъма**; | 7) **сторонама**; |
| 3) **голꙋбьмь**; | 8) **сынами**; |
| 4) **звѣрьма**; | 9) **сыномъ**; |
| 5) **сєстрами**; | 10) **языкома**. |

**10.** Адзначце ўрывак, у якім падкрэсленая форма назоўніка паходзіць са старажытнай формы парнага ліку.

1. Астравок з дарослымі і дзецьмі падобны быў на Ноеў каўчэг: усялякай пачвары па пары – кошкі, сабакі, пеўні, куры (*В. Казько.* «Неруш»).

2. Але вось нейкае далёкае храбусценне, занадта яшчэ далёкае, каб быць небяспекай, насцярожыла ласіху. Вось яна стрыганула вушамі, вось наставіла прыгожую морду (*У. Караткевіч.* «Лясная гісторыя»).

3.
Не прыстаць,
Не здарожыцца,
Не звярнуць на пярэдых, спачын,
Не пакінуць абурана,
За сабою не ляпнуць дзвярыма, як векам.
Песня помніць:
Адступіся яна ад людское душы –
І ўжо не ўберагчы
Анічым
Чалавека.

(*Н. Мацяш.* «Песня»)

## Тэма 6

# Займеннік як часціна мовы. Скланенне асабовых і зваротнага займеннікаў. Утварэнне і скланенне займенніка трэцяй асобы

Асаблівасцю займенніка як часціны мовы з'яўляецца адсутнасць уласнага прадметна-лексічнага зместу, што забяспечыла гэтаму лексіка-граматычнаму класу слоў адносную ўстойлівасць на працягу гісторыі. Большасць трансфармацый, што адбыліся з ім, датычацца плана выражэння (фанетычнага і арфаграфічнага аблічча), аднак можна прывесці прыклады змен і ў плане зместу (семантыкі) асобных займеннікаў (напрыклад, указальных займеннікаў **онъ, она, оно**; **и, ꙗ, ѥ**). Некаторыя займеннікі цалкам выйшлі з ужытку і сучаснай беларускай мове невядомыя (напрыклад, **сей, овый, оный, вшисткий, жаденъ**, займеннікі з часткамі **леда-** і **-колвекъ**).

Займеннік як клас слоў з агульным указальным значэннем быў вядомы ўжо індаеўрапейскай мове-аснове. З часоў старажытнасці выразна проціпастаўляюцца дзве групы займеннікаў:

1) *асабовыя* (*першай і другой асобы*) і *зваротны займеннікі* набліжаліся да субстантываў: валодалі катэгорыямі ліку і склону (зваротны займеннік па ліках не змяняўся і ў форме назоўнага склону не існаваў), аднак не мелі катэгорыі роду; у выказванні выступалі як дзейнік або дапаўненне;

2) *неасабовыя займеннікі* розных разрадаў (указальныя, азначальныя, прыналежныя, пытальныя, адносныя, адмоўныя, няпэўныя) на-

бліжаліся да ад'ектываў: валодалі катэгорыямі склону, ліку і роду (выключэнне – пытальныя займеннікі къто, чьто, сколько і вытворныя ад іх); у выказванні выступалі пераважна як азначэнні, часам – як дзейнік або дапаўненне.

***Асабовыя займеннікі*** старажытнай пары ўтваралі спецыфічную сістэму, у якую ўваходзілі толькі формы першай і другой асобы. У цэлым, напрыклад, у праславянскай мове асабовыя займеннікі выкарыстоўваліся абмежавана, таму што функцыю ўказання на асобу выконвалі пераважна асабовыя формы дзеясловаў.

Для ўказання на першую асобу адзіночнага ліку ў назоўным склоне маглі выкарыстоўвацца займеннікі азъ, ꙗзъ, ꙗ (графічныя варыянты – ѧ, ѩ), выбар якіх быў абумоўлены жанрава-стылявой прыналежнасцю маўлення і з часам змяняўся. Найбольш старажытныя помнікі агульнаўсходнеславянскага пісьменства фіксуюць усе названыя формы.

Форма азъ з'яўляецца царкоўнаславянскай (г. зн. стараславянскай) па паходжанні і сустракаецца пераважна ў помніках рэлігійнага зместу, летапісах, афіцыйна-справавых тэкстах у складзе традыцыйных формул.

Пазней паралельна стала ўжывацца і форма ꙗзъ, адносна паходжання якой існуюць вельмі розныя погляды, згодна з найбольш папулярным варыянт ꙗзъ развіўся ў выніку кантамінацыі стараславянскага займенніка азъ і агульнаўсходнеславянскага ꙗ (*я*).

Форма ꙗ (ѧ, ѩ) пашырылася ва ўсходнеславянскай мове не пазней за XI–XII стст. і паступова стала адзінай ва ўсіх літаратурна-пісьмовых жанрах і ў жывой народнай гаворцы. Адносна яе паходжання таксама выказваліся розныя меркаванні: яе трактавалі то як зменены займеннік ꙗзъ, то як асобную праславянскую дыялектную форму.

Формы назоўнага склону іншых асабовых займеннікаў адзіночнага і множнага ліку (мы, ты, вы) захаваліся без змен (табл. 14).

Асабовыя займеннікі пры ўказанні на два аб'екты выступалі ў формах парнага ліку, пры гэтым склонавыя формы роднага і меснага, а таксама давальнага і творнага склонаў супадалі. Формы парнага ліку паступова аказаліся замененымі на формы множнага.

Пры скланенні асабовых займеннікаў першай і другой асобы праяўляўся суплетывізм асноў (г. зн. утварэнне склонавых формаў ад розных асноў: ꙗ – мен-, мън-; мы- – нас-, нам-; ты – теб-, тоб-; вы- – вас-, вам-), якія быў вядомы яшчэ з часоў і.-е. моўнага адзінства, пра што сведчыць пашыранасць гэтай адметнасці скланення ў славянскіх

і неславянскіх і.-е. мовах (параўн.: польск. *ja, mnie, mną,* (*o*) *mnie*; лац. *ego, mei, mihi, me*; ням. *ich, meiner, mir, mich* і г. д.).

*Табліца 14*

**Скланенне займеннікаў першай і другой асобы**

| Склон | Адзіночны лік | | Множны лік | | Парны лік | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-я асоба | 2-я асоба | 1-я асоба | 2-я асоба | 1-я асоба | 2-я асоба |
| Н. | ꙗ | ты | мы | вы | вѣ | ва |
| Р. | мене | тебе | насъ | васъ | наю | ваю |
| Д. | мънѣ<br>ми | тобѣ<br>ти | намъ<br>ны | вамъ<br>вы | нама | вама |
| В. | мене<br>мꙗ | тебе<br>тꙗ | насъ<br>ны | васъ<br>вы | на | ва |
| Т. | мъною | тобою | нами | вами | нама | вама |
| М. | мънѣ | тобѣ | насъ | васъ | наю | ваю |

Адметнасцю скланення асабовых займеннікаў старажытнай пары з'яўляецца наяўнасць у іх кароткіх формаў у давальным і вінавальным склонах адзіночнага і множнага ліку: Д. скл. – **ми, ти**; **ны, вы**; В. скл. – **мѧ, тѧ**; **ны, вы**. Такія аднаскладовыя формы супрацьпастаўлены двухскладовым поўным формам (**мъ-нѣ, ме-не** і інш.) і атрымалі назву энклітычных (грэч. *enklitikos* – 'які схіляецца назад'), таму што, не маючы ўласнага слоўнага націску, у маўленні яны далучаліся да папярэдняга націскнога слова, утвараючы разам з ім фанетычнае слова.

***Зваротны займеннік*** **себе** спрадвеку не валодаў катэгорыямі роду і ліку, а таксама не меў формы назоўнага склону; як і асабовыя займеннікі, мог выступаць у кароткіх формах: у давальным склоне – **си**, у вінавальным – **сѧ** (табл. 15). У сказе зваротны займеннік з'яўляўся дапаўненнем: **Вси речи себе дела самого соделалъ естъ господь** (Скар. ПС, 25б); **мужь да не надевает на сѧ одежи жен͛ское** (Скар. ДЗ, 42б).

*Табліца 15*

**Скланенне зваротнага займенніка**

| Склон | Р. | Д. | В. | Т. | М. |
|---|---|---|---|---|---|
| Форма | себе | собѣ, си | себе, сѧ | собою | собѣ |

Пытанне пра пашырэнне кароткіх, ці энклітычных, формаў займеннікаў у жывой народнай мове старажытнасці застаецца спрэчным, аднак у помніках пісьменства такія формы адзначаюцца дастаткова часта.

Паступова ўсе кароткія формы займеннікаў страціліся, за выключэннем формы вінавальнага склону зваротнага займенніка **сѧ** (**сꙗ**), якая мела свабоднае размяшчэнне ў выказванні і ў маўленні магла далучацца да любога папярэдняга слова: (*знятися, снятися* – ‘сысціся, сустрэцца’) **єщє сѧ воиска нє снѧли мєжы сєбє за тры або за чотыры стрєльбища** (Рач., 320); **они пановъ комисаровъ потыкали на границы, гдѣ сꙗ зъ Жомойтскою границою Литовская снꙗла** (АЗР, II, 387, 1542). З цягам часу склонавая форма займенніка **сѧ** замацавалася ў постпазіцыі да зваротнага дзеяслова ці дзеепрыслоўя і стала формаўтваральным постфіксам дзеяслоўнай формы: **коли снѧлисѧ конъми вмєсто, Гєꙋшъ полєтєлъ на ѡднꙋ сторонꙋ, а конь єго на другꙋю** (Трыст., 95).

***Займеннік трэцяй асобы*** сярод асабовых найбольш позні па часе ўтварэння. Першапачаткова для трэцяй асобы не існавала спецыяльнага займенніка, аднак у праславянскай мове працавала цэлая сістэма ўказальных займеннікаў: на самы блізкі да гаворачага ці толькі што згаданы прадмет гаворкі паказвалі формы **сь** (м. р.), **сꙗ** (ж. р.), **сѥ** (н. р.), на аддалены – **тъ, та, то**, на самы далёкі – **онъ, она, оно**. Для безадноснага ўказання на прадмет ці асобу ўжываліся формы ўказальнага займенніка **и, ꙗ, ѥ**, якія ва ўскосных склонах паступова сталі выконваць ролю займенніка трэцяй асобы. З-за невыразнасці, а таксама аманімічнасці са злучнікам **и** ўнутры парадыгмы самога займенніка формы назоўнага склону былі выцеснены формамі іншага семантычна блізкага ўказальнага займенніка **онъ, она, оно**, аднак ва ўскосных склонах захавалася былая аснова [j]: **онъ – ѥго, ѥмꙋ, ѥго, имь, ѥмь** і г. д. Так развіўся суплетывізм асноў займенніка трэцяй асобы, які менш старажытны, чым суплетывізм асноў займеннікаў першай і другой асобы. Узоры скланення займеннікаў **и, ꙗ, ѥ** і **онъ, она, оно** гл. у табл. 16.

Пазней формы займенніка **онъ, она, оно** зведалі фанетычныя змены: у назоўным склоне замацаваўся пратэтычны [j], які ўзнік для выраўноўвання асновы на ўзор ускосных склонаў: **онъ** – *ён* [јон], **она** – *яна* [јана], **оно** – *яно* [јано], **оны** – [јаны]; развілося аканне, адбыўся перанос націску (**óна, óно** – *яна́, яно́*); формы парнага ліку страціліся; з трох формаў назоўнага склону множнага ліку **они** (м. р.), **оны** (ж. р.), **она** (н. р.) захавалася адна – былога жаночага роду – *яны.*

*Табліца 16*

**Скланенне займеннікаў и, ꙗ, ѥ і онъ, она, оно**

| Склон | Адзіночны лік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. р. | н. р. | ж. р | м. р. | н. р. | ж. р. |
| Н. | и | ѥ | ꙗ | онъ | о́но | о́на |
| Р. | ѥго | | ѥѣ | оного | | оноѣ |
| Д. | ѥмꙋ | | ѥи | ономꙋ | | онои |
| В. | и | ѥ | ю | онъ | о́но | онꙋ |
| Т. | имь | | ѥю | онѣмь | | оною |
| М. | ѥмь | | ѥи | ономь | | онои |
| | Множны лік | | | | | |
| Н. | и | ꙗ | ѣ | о́ни | о́на | о́ны |
| Р. | ихъ | | | онѣхъ | | |
| Д. | имъ | | | онѣмъ | | |
| В. | и | ꙗ | ѣ | о́ни | о́на | о́ны |
| Т. | ими | | | онѣми | | |
| М. | ихъ | | | онѣхъ | | |
| | Парны лік | | | | | |
| Н.-В. | ꙗ | и | и | она | онѣ | онѣ |
| Р.-М. | ю | | | оною | | |
| Д.-Т. | има | | | онѣма | | |

Развіццё катэгоры і адушаўлёнасці паўплывала на формы вінавальнага склону займеннікаў трэцяй асобы: замест былой формы, аманімічнай форме назоўнага склону, стала выступаць форма, аднолькавая з формай роднага склону.

Формы займенніка трэцяй асобы ў становішчы пасля прыназоўнікаў набылі прыстаўны [н], які першапачаткова з'яўляўся канцавым гукам прыназоўнікаў *vъn, *kъn, *sъn. Па законе адкрытага склада [н] адышоў да займенніка: **вън ѥмь > въ нѥмь, кън + ѥмꙋ > къ нѥмꙋ, сън + имь > съ нимь** і інш. Прыстаўны гук [н] узнік і пры спалучэнні займенніка трэцяй асобы з прыназоўнікамі **до, за, на, ꙋ: до нѥго, за нимь, на нѥмь, ꙋ нѥго.** Нягледзячы на тое што ў агульнаўсход-

неславянскай і старабеларускай пісьмовых мовах формы з [н] былі пашыраны, у беларускай мове яны не замацаваліся.

Займеннік трэцяй асобы і ў сучаснай беларускай мове не з’яўляецца ўласна асабовым, бо можа замяняць у сказе не толькі асобу, але і прадмет. Напрыклад: *калі шануеш тую мову, якую продкі зберaглі, скажы на <u>ёй</u> такія словы, каб у вяках <u>яны</u> жылі* (Ю. Свірка). Падкрэсленыя формы займенніка трэцяй асобы ўжыты замест назваў *мова* і *словы.*

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Складзіце тры суадносныя пары: займеннік (1, 2, 3) – яго апісанне (а, б, в).

1) **ꙗ**; 2) **азъ**; 3) **ꙗзъ**;

а) гэтую форму займенніка першай асобы можна разглядаць як вынік кантамінацыі спрадвечнай усходнеславянскай і царкоўнаславянскай (стараславянскай) формаў займеннікаў. Ужывалася ў пісьмовай мове, не была ўласціва жывой народнай гаворцы;

б) дадзеная форма займенніка першай асобы можа лічыцца заканамерным вынікам развіцця адпаведнай індаеўрапейскай формы на ўсходнеславянскай моўнай глебе. Яна сведчыць аб агульнасці працэсаў станаўлення ўсходне- і заходнеславянскіх моў. Была пашырана як у жывой народнай гаворцы, так і ў пісьмовай мове;

в) гэта форма займенніка першай асобы трапіла да ўсходніх славян з першымі творамі пісьменства. Ужывалася пераважна ў рэлігійных тэкстах, летапісах, ва ўстойлівых выразах у справавых і юрыдычных помніках.

З а д а н н е 2. Ахарактарызуйце падкрэсленую форму асабовага займенніка – вызначыце граматычныя катэгорыі асобы, ліку, склону.

**да дасть г҃ь б҃ъ <u>вама</u> обрѣсти покой** (Астр. Бібл., 1).

З а д а н н е 3. Замест шматкроп’я ўстаўце займеннік першай асобы адзіночнага ліку ў энклітычнай форме. Вызначыце разрад, лік, склон гэтага займенніка. Якая поўная форма адпавядае ўстаўленай?

**и ты игоумене исаиѥ. и вы братиѣ. донѥлѣ же сѧ миръ състоить. молите б҃а за мѧ и за моѣ дѣти. кто сѧ изоѿстанеть въ манастыри. то вы тѣмь дължьни ѥсте молити за... б҃а и при животѣ и въ съмьрти** (Мсцісл. грам., 1130).

З а д а н н е 4. Вызначыце сінтаксічную ролю падкрэсленай формы займенніка. Ахарактарызуйце гэтую форму.

**сіѧ Слꙋжба не может$^{ъ}$ <u>сѧ</u> назвати Слꙋжбою совершенною, длѧ причины, котораѧ нижей положит$^{ъ}$сѧ** (Зб. вып., 27б).

З а д а н н е 5. Выпішыце з дадзенага ўрыўка ўсе энклітычныя формы і ахарактарызуйце іх.

**Король рече: Ꙗ ти повѣмъ: прышол Бово из Антонига, ѡтвелъ ми Дружненну и конѧ; а если ми их ты можеш прывести, Бова хочу повѣсити, а Дружненну зъжечы, а тебе хочу ѡсвободити и дамъ тобѣ четвертую часть Момбарда и тисечу конниковъ, абы тобе служыли, и хочу ти дати одну панъну за жону. И Пулканъ тому сѧ узрадовал** (Бава, 149–160).

З а д а н н е 6. Ахарактарызуйце падкрэсленую форму займенніка.

**по дн҃ѣ$^{х}$ тѣ$^{х}$ повелѣста <u>ю</u> крестити кр$^{с}$тиша <u>ю</u> во имѧ Ѿца и с҃на и ст҃го д҃ха** (Жыц. Ефрас., 1).

З а д а н н е 7. Дапоўніце выказванне так, каб яно было правільным.

Пратэтычны [j] у формах назоўнага склону адзіночнага і множнага ліку займеннікаў трэцяй асобы (*ён, яна, яно, яны*) узнік па аналогіі з пачатковым [j]... (1, 2):

1) займенніка першай асобы адзіночнага ліку назоўнага склону (параўн.: [онъ] – [jонъ] і інш., як і [азъ] – [jазъ]);

2) формаў указальных займеннікаў **и** [jь], **ꙗ**[ja], **ѥ** [jэ] (адзіночны лік), **и** [jь], **ѣ** [jьэ], **ꙗ**[ja] (множны лік).

З а д а н н е 8. Ахарактарызуйце падкрэсленую форму займенніка, раскажыце пра адметнасць яе ўтварэння.

**а длѧ ты$^{х}$ колодезе$^{в}$ ѡгоро$^{д}$ есть нерѧдне поставле$^{н}$ а не есть моурованыи а оу <u>не$^{м}$</u> росте$^{т}$ а плыве$^{т}$ балса$^{м}$ ка$^{к}$ бы с коуста** (Валхв., 59).

З а д а н н е 9. Якая з дзвюх падкрэсленых формаў займенніка трэцяй асобы множнага ліку ўзыходзіць да былой формы жаночага роду?

1) **на то ставилъ шапку до бояръ Репъницкихъ, хотечи с того справити и вывести, ижъ есть такъ добрый, яко и <u>оны</u>** (АВК, XXII, 149, 1565);

2) **мають <u>они</u> сторожю мѣти ... тамъ, гдѣ передъ тымъ стерегивали** (АЮЗР, II, 128, 1511).

З а д а н н е 10. Ахарактарызуйце падкрэсленыя формы займенніка. Якая з іх з’яўляецца найбольш старажытнай? Якая ўзнікла ў сувязі з развіццём катэгорыі адушаўлёнасці?

**По образу божию сътворилъ и, мужа и жену сⸯтворилъ ихъ И благослови ѥ[1] богъ и рече роститежъ и множитесѧ и наполⸯните землю и владеите ею...** (Скар. КБ, 10).

---

[1]Замест графемы ѣ тут ужыта є.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

Якога тыпу суплетывізм асноў займеннікаў больш старажытны?

1) **мы – насъ, намъ...**;

2) **они, оны, она – ихъ, имъ...** .

**2.** Адзначце ўсе граматычныя характарыстыкі падкрэсленай формы займенніка.

**Ꙗзъ прошу списка того дѣля, не иззабылъ бы государевыхъ рѣчей великого князя и сполна бы до господаря своего ихъ донесъ** (АЗР, II, 257, 1533–1538).

| *асоба*: | *лік*: | *склон*: | |
|---|---|---|---|
| 1) першая; | 4) адзіночны; | 7) назоўны; | 10) вінавальны; |
| 2) другая; | 5) множны; | 8) родны; | 11) творны; |
| 3) трэцяя; | 6) парны; | 9) давальны; | 12) месны. |

**3.** Адзначце правільны адказ.

У якім сказе падкрэслена спрадвечная форма адзіночнага ліку давальнага склону займенніка другой асобы?

1) **приказуемъ тобе ижъбы еси тые вси новины имъ отъложылъ и далъ бы еси имъ въ томъ спокой** (ИЮМ, II, 231, 1630);

2) **мы списокъ тоѣ грамоты, какъ была написана, къ тобѣ есмо послали** (АЗР, I, 139, 1494);

3) **ѡна рекла: ꙗ тобе не могу порадити, навчыть тебѣ тот, который небо и землю сотворыл** (Трыст., 22);

4) **на он час не могучы тебе спостигнуть, мимо себе то пустит мусел** (АВК, XXXI, 312, 1619).

**4.** Адзначце правільны адказ.

У якім сказе падкрэслена спрадвечная форма множнага ліку давальнага склону займенніка трэцяй асобы?

1) **браⷮꙗ зо всего именьꙗ мають имъ веселье справити** (КВС, 468, 1552);

2) ѡн$^{ж}$ъ спо$^{л}$чивь вои своꙗ. и поидѣ противоу имь (Увар., 91);

3) на которой дей я части земли посполу з нимъ ставокъ засыпалъ (АВК, XXI, 284, 1558);

4) самъ первеи наклонил его былъ собѣ и на воину сѧ з ним стоварышыл (Атыла, 187).

**5.** Адзначце ўсе граматычныя характарыстыкі падкрэсленага займенніка.

Ни единого послуха[1] ныне межи наю нету кроме бога он$^{ѕ}$же все видитъ (Скар. КБ, 59).

[1]послухъ – 'сведка' (ГСБМ. Вып. 27. С. 128).

| *асоба*: | *лік*: | *склон*: | |
|---|---|---|---|
| 1) першая; | 4) адзіночны; | 7) назоўны; | 10) вінавальны; |
| 2) другая; | 5) множны; | 8) родны; | 11) творны; |
| 3) трэцяя; | 6) парны; | 9) давальны; | 12) месны. |

**6.** Складзіце дзве суадносныя пары сказаў (напр., 1 – а, 2 – б), у якіх падкрэсленыя асабовыя займеннікі выступаюць у аднолькавай, але кароткай і поўнай граматычнай форме.

1) онъ... збилъ мя обухомъ безвиннѣ (АВК, XVII, 125, 1539–1540);

2) кнꙗзь дмитре$^{ѕ}$... казалъ ми в него ме$^{д}$ сто$^{р}$говати и до ко$^{р}$чмы дати (КВЗС, 67, 1538);

а) тот небощыкъ никому прычыны того постреленя не давал и на споведи передъ духовником вызнал и повѣдилъ, ижъ дей Богъ мне смерть такую дал (АВК, XXXVI, 161, 1582);

б) панъ Каръловичъ... ревно плачучы споминалъ, же дей мене певне маютъ забить (АВК, XVIII, 207, 1607).

**7.** Адзначце правільны адказ.

Зваротны займеннік падкрэслены ў сказе:

1) кто сѧ изоѡстанеть въ манастыри. то вы тѣмь дължьни ѥсте молити за ны б҃а и при животѣ и въ съмьрти (Мсцісл. грам., 1130);

2) даже кто запъртить или тоу дань и се блюдо. да соудить ѥмоу б҃ъ въ д҃нь пришьствиꙗ своѥго и т҃ъ ст҃ыи геѡргии (Мсцісл. грам., 1130).

**8.** Адзначце правільны адказ.

З трох агульнаўсходнеславянскіх формаў назоўнага склону множнага ліку займенніка трэцяй асобы (они, оны, она) у гісторыі беларускай мовы замацавалася ўніфікаваная форма:

1) мужчынскага роду;

2) жаночага роду;

3) ніякага роду.

**9.** Адзначце правільны адказ.

**ѡно мѣстце маеть моць. ижь ба^л^самъ оу <u>не^м^</u> ростє^т^. иже панна марїа ис свои^м^ дитѧтко^м^ се^м^ лѣтъ на то^м^ мѣстци мѣшкала** (Валхв., 60).

У падкрэсленай форме займенніка [н] па паходжанні з'яўляецца:

1) спрадвечным пачатковым гукам асновы займенніка, які ў беларускай мове пазней страціўся;

2) часткай папярэдняга прыназоўніка **вън**, якая прымкнула да наступнага займенніка.

**10.** Адзначце правільны адказ.

Самая «маладая» форма займенніка падкрэслена ў сказе:

1) **видѣхъ бани древены. и пережьгуть <u>є</u>**[1] **рамѧно. совлокуть сѧ и будуть нази** (Лаўр. лет., 3 адв.);

2) **въшедъ на горы сиꙗ бл҃ви <u>ꙗ</u>**[2]**. постави кр҃стъ и помолилъ сѧ б҃у** (Лаўр. лет., 3 адв.);

3) **и ре^ч^ блудъ ꙗрополку. видиши колько воин у бра^т^ тв^о^его. нама <u>ихъ</u> не переборити** (Лаўр. лет., 24 адв.);

4) **половци же, оузрѣвше полкъ володимерь, крѣпко идущь на <u>ни^х^</u>, побѣгоша, гонимі гнѣвомъ б҃жьимъ и ст҃ое б҃ци** (Лаўр. лет., 24 адв.).

---

[1]Замест графемы ѣ тут выкарыстана є.

[2]Замест графемы ѣ тут ужыта ꙗ.

Тэма 7

# Скланенне неасабовых займеннікаў. Змены ў займенным тыпе скланення

Неасабовыя займеннікі старажытнай пары паводле семантыкі размяркоўваліся на ўказальныя, азначальныя, прыналежныя, пытальныя, адносныя, няпэўныя, адмоўныя.

Паводле граматычных характарыстык большасць неасабовых займеннікаў набліжалася да ад'ектываў – яны валодалі катэгорыямі роду, ліку і склону, а ў выказванні выступалі як азначэнне. Некаторыя неасабовыя займеннікі (**къто**, **чьто** і вытворныя ад іх) былі падобнымі да субстантываў і ў сказе маглі выступаць як дзейнік або дапаўненне.

Скланенне неасабовых займеннікаў адбывалася па ***займенным*** тыпе, які пачаў фарміравацца яшчэ ў і.-е. мове-аснове. Падобным чынам скланяліся ўласна неасабовыя займеннікі, поўныя прыметнікі і дзеепрыметнікі, а таксама парадкавыя лічэбнікі. Аснова зменнага слова магла заканчвацца на цвёрды або мяккі зычны, у сувязі з чым вылучаліся ***цвёрды*** і ***мяккі варыянты*** займеннага скланення, канчаткі якіх адрозніваліся толькі першым галосным. Так, напрыклад, па цвёрдым варыянце скланяліся займеннікі: указальныя – **овъ** (**овыи**), **онъ** (**оныи**), **тъ** (**тотъ**), азначальныя – **инъ** (**инои**), **самъ** (**самыи**), **такъ** (**такыи**), пытальна-адносныя – **жаденъ** (**жадныи**), **къто**, **которъ** (**которыи**) і інш. Па мяккім варыянце змяняліся займеннікі: указальныя – **вьсь**, **сь** (**сеи**), пытальна-адносныя – **чьто**, **чьи**, прыналежныя – **мои**, **твои**, **нашь**, **вашь**, **свои** і інш. Многія займеннікі ўтварылі формы назоўнага склону шляхам словаскладання з указальным займеннікам **и** (**ꙗ**, **ѥ**):

**овъ + и = овыи**, **ова + ꙗ = оваꙗ**, **ово + ѥ = овоѥ**;
**такъ + и = такыи** і г. д.

У парадыгме неасабовых займеннікаў былі прадстаўлены формы адзіночнага, множнага і парнага лікаў, якія толькі ў назоўным і вінавальным склонах адрозніваліся па родах. Ва ўскосных склонах адзіночнага ліку формы мужчынскага і ніякага роду супадалі і былі проціпастаўлены формам жаночага роду. Формы парнага ліку паступова страціліся. Узор скланення неасабовых займеннікаў прадстаўлены ў табл. 17.

*Табліца 17*

**Скланенне неасабовых займеннікаў**

| Склон | Адзіночны лік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. р. | н. р. | ж. р | м. р. | н. р. | ж. р. |
| Н. | **тъ** | **то** | **та** | **мои** | **моѥ** | **моꙗ** |
| Р. | **того** | | **тоѣ** | **моѥго** | | **моѥѣ** |
| Д. | **томꙋ** | | **тои** | **моѥмꙋ** | | **моѥи** |
| В. | **тъ** | **то** | **тꙋ** | **мои** | **моѥ** | **мою** |
| Т. | **тѣмь** | | **тою** | **моимь** | | **моѥю** |
| М. | **томь** | | **тои** | **моѥмь** | | **моѥи** |
| | Множны лік | | | | | |
| Н. | **ти** | **та** | **ты** | **мои** | **моꙗ** | **моѣ** |
| Р. | **тѣхъ** | | | **моихъ** | | |
| Д. | **тѣмъ** | | | **моимъ** | | |
| В. | **ты** | **та** | **ты** | **моѣ** | **моꙗ** | **моѣ** |
| Т. | **тѣми** | | | **моими** | | |
| М. | **тѣхъ** | | | **моихъ** | | |
| | Парны лік | | | | | |
| Н.-В. | **та** | **тѣ** | **тѣ** | **моꙗ** | **мои** | **мои** |
| Р.-М. | **тою** | | | **моєю** | | |
| Д.-Т. | **тѣма** | | | **моима** | | |

Характэрнай асаблівасцю беларускай мовы з'яўляецца ўніфікацыя формаў творнага і меснага склонаў адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду ў займенным тыпе скланення. Калі агульнаўсходнеславянскай мове былі вядомы асобныя склонавыя формы: Т. скл. – **тѣмь**, **моимь**, М. скл. – **томь**, **моѥмь**, то ў старабеларускай для абодвух скло-

наў пачынаюць адзначацца ўніфікаваныя формы з канчаткам **-ымь** па аналогіі з канчаткам **-имь** творнага склону мяккага варыянта; у такіх уніфікаваных формах губны зычны на канцы зацвярдзеў: Т. і М. скл. – **тымъ, моимъ**. Гэта асаблівасць прадстаўлена не толькі ў парадыгме неасабовых займеннікаў, але і ўсіх іншых часцін мовы, што скланяюцца па займенным (ад'ектыўным) тыпе.

Фіналі склонавых формаў неасабовых займеннікаў жаночага роду ўтвараліся трыма гукамі: Н. скл. – **та(ıа), наша(ıа)**, Р. скл. – **тоѣ, нашеѣ**, В. скл. – **тую, нашую**, Т. скл. – **тою, нашею**, М. скл. – **тои, нашеи** і г. д. Пазней адбыліся рэдукцыя канцавога галоснага і іншыя фанетычныя змены, у выніку чаго ў беларускай мове такія формы набылі сучасны выгляд: Н. скл. – *тая, наша*, Р. скл. – *тое* і *той*, Д. скл. – *нашае* і *нашай*, В. скл. – *тую, нашу*, Т. скл. – *тою* і *той, нашаю* і *нашай*, М. скл. – *той, нашай* і г. д.

З трох былых формаў назоўнага склону множнага ліку неасабовых займеннікаў паступова замацавалася адна – былога жаночага роду, напрыклад: цвёрды варыянт – **ти** (м. р.), **та** (н. р.), **ты** (ж. р.); мяккі варыянт – **мои** (м. р.), **моıа** (н. р.), **моѣ** (ж. р.). Да ўніфікаванай формы **ты** ў старабеларускай мове далучыліся формы ўказальна-асабовага займенніка **и** (м. р.) і **ѣ** (ж. р.), у выніку чаго ўтварыліся двухскладовыя формы назоўнага склону **тыи** і **тыѣ**. У фанетычна змененым выглядзе ў беларускай мове замацавалася форма былога жаночага роду **тыѣ** → *тыя*.

У сувязі з разіццём катэгорыі адушаўлёнасці ў вінавальным склоне адзіночнага і множнага ліку сталі выкарыстоўвацца формы роднага склону (выключэннем былі формы займеннікаў жаночага роду адзіночнага ліку).

Формы іншых ускосных склонаў множнага ліку неасабовых займеннікаў уніфікаваліся па аналогіі з мяккім варыянтам скланення, напрыклад: Р. скл. – **тѣхъ, моихъ** → *тых, маіх*; Д. скл. – **тѣмъ, моимъ** → *тым, маім*; Т. скл. – **тѣми, моими** → *тымі, маімі*; М. скл. – **тѣхъ, моихъ** → *тых, маіх*. У формах цвёрдага варыянта гук [ы] на месцы **ѣ** (яць) узнік не фанетычным шляхам (як вядома, у беларускай мове рэфлексам **ѣ** выступае пераважна гук [э]), а з'явіўся як адпаведны гуку [і] канчаткаў мяккага варыянта скланення.

Па змешаным тыпе скланяўся займеннік **вьсь** (табл. 18), корань якога ўзыходзіць да і.-е. *vьx-(*vix-). Спрадвечна цвёрды заднеязычны *x у ім паводле III палаталізацыі чаргуецца з [с']. Наяўнасць у розныя часы то цвёрдага, то мяккага зычнага ў аснове займенніка абумовіла тое, што ў яго парадыгме ў адзіночным ліку выступаюць, як правіла, формы з канчаткамі мяккага варыянта, а ў множным –

з канчаткамі цвёрдага варыянта; формы парнага ліку таксама змешаныя. У той жа час на парадыгму множнага ліку аказаў уплыў і мяккі варыянт скланення, у выніку чаго канчаткі ўскосных склонаў набылі галосны *і* замест спрадвечнага ѣ (яць). У старабеларускай мове адзначаюцца формы гэтага займенніка з пачатковым ѵ, ȣ або оѵ, што адлюстроўвае пераход [вь] → [ў] пры адсутнасці спецыяльнай графемы для гука [ў] і захоўванні правапісных традыцый.

*Табліца 18*

**Скланенне займенніка вьсь**

| Склон | Адзіночны лік | | | Множны лік | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. р. | н. р. | ж. р | м. р. | н. р. | ж. р. |
| Н. | **вьсь** | **вьсе** | **вьсꙗ** | **вьси** | **вьсꙗ** | **вьсѣ** |
| Р. | **вьсего** | | **вьсеѣ** | **вьсѣхъ** | | |
| Д. | **вьсемѵ** | | **вьсеи** | **вьсѣмъ** | | |
| В. | **вьсь** | **вьсе** | **вьсю** | **вьсѣ** | **вьсꙗ** | **вьсѣ** |
| Т. | **вьсѣмь** | | **вьсею** | **вьсѣми** | | |
| М. | **вьсемь** | | **вьсеи** | **вьсѣхъ** | | |

Парадыгмы некаторых неасабовых займеннікаў вызначаліся пэўнай спецыфікай, абумоўленай пераважна фанетычнымі зменамі. Так, II палаталізацыя адбывалася ў займенных асновах на заднеязычны (**вьсь** < *vьх-, **вьсꙗкъ**, **къто**, **такъ**). Напрыклад, у формах займенніка **такъ**: адз. л. – Т. скл. **тацѣмь**; мн. л. – Р. скл. **тацѣхъ**, Д. скл. **тацѣмъ**, Т. скл. **тацѣми**, М. скл. **тацѣхъ**; парны л. – Н.-В. скл. (н. р., ж. р.): **тацѣ**, Д.-Т. скл. (м. р., н. р., ж. р.): **тацѣма** і інш. У далейшым у такіх формах адбылося выраўноўванне асноў і заднеязычны аднавіўся.

Займеннікі **къто** і **чьто**, а таксама вытворныя ад іх паводле ролі ў выказванні суадносіліся не з ад'ектывамі, як пераважная большасць неасабовых займеннікаў, а з субстантывамі, аднак яны не валодалі катэгорыямі роду і ліку. Па марфемнай будове займеннік **къто** падзяляўся на корань *kъ- і часціцу *to, якая ва ўскосных склонах адпадала, – і канчаткі далучаліся непасрэдна да займеннай асновы. У творным склоне заднеязычны [к] асновы палаталізаваўся: **цѣмь**. У агульнаўсходнеславянскай мове пад уплывам асноў ускосных склонаў заднеязычны ў гэтай форме аднавіўся (**кѣмь**), губны [м'] на канцы зацвярдзеў (**кѣмъ**), адбыўся пераход ѣ → [э] (*кемъ*). У гісторыі беларускай мовы пад уплывам мяккага варыян-

та скланення ў форме творнага склону стаў выступаць канчатак *-ім*: *кім*, а таксама адбылася ўніфікацыя формаў творнага і меснага склонаў: Т. скл. – *кім*, М. скл. – (*аб*) *кім*. У форме назоўнага склону займенніка **къто** быў страчаны слабы рэдукаваны галосны і здзейснілася дысіміляцыя ў групе зычных: [кто] → [хто].

Указальны займеннік **тъ** (м. р.) з-за невыразнасці ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку рэдуплікаваўся – стаў выступаць у падвоеным выглядзе: **тътъ**. Такая форма адзначаецца ў агульнаўсходнеславянскім і старабеларускім пісьменстве. Аднак разам з ёй ужывалася і іншая форма, якая і замацавалася ў беларускай мове, – да займенніка **тъ, та, то** далучыліся адпаведныя формы ўказальнага займенніка **и, ꙗ, ѥ**: **тои** (<**тъи**), **таꙗ**, **тоѥ**; у форме **тои** [тојь] адбылася рэдукцыя канцавога галоснага: *той*.

Формы іншага ўказальнага займенніка *гэты*, *гэтая*, *гэтае* ўзніклі ў выніку складання ўказальнай часціцы *гэ* < *he і формаў **тои, таꙗ, тоѥ**. У форме [гэтъјь] адбылася рэдукцыя канцавога галоснага, а на месцы спалучэння [ъј] развіўся рэдукаваны [$ы_р$], які стаў гукам поўнага ўтварэння – [ы]. Фанетычныя змены адбыліся і ў іншых формах дадзенага займенніка. Народна-гутарковай мове вядомы розныя формы ўказальных займеннікаў з былой часціцай *гэ*: *ге́ты*, *гэ́той*, *гэ́тат* (заходнія гаворкі), *гэ́ны* (паўночна-заходнія гаворкі), *гэ́дакі*, *гэ́дыкі*[1].

Большая частка неасабовых займеннікаў старажытнай пары, зведаўшы пэўныя марфаналагічныя змены, захавалася ў беларускай мове. Некаторыя ж займеннікі былі страчаны. Так, напрыклад, перасталі ўжывацца ўказальныя займеннікі **сь, сꙗ, сѥ**; **овъ, ова, ово**; **онъ, она, оно**; займеннікі з часткамі польскамоўнага паходжання **леда-** і **-колвекъ**, якія надавалі значэнне няпэўнасці: **ледакъто, ледачьто, кътоколвекъ, чьтоколвекъ** і іншыя ў розных графічных варыянтах; адмоўны займеннік **жаденъ, жадна(ꙗ), жадно(ѥ)** ‘ніхто, ніякі, ніводзін’.

## Заданні

З а д а н н е 1. Ахарактарызуйце падкрэсленыя займеннікі: вызначыце разрад, граматычныя катэгорыі, сінтаксічную ролю.

1) **солодⷭкости медꙋ нихто лепѣй не знаетъ, едно хто его скошⷭтовалъ** (Карп., 14б);

[1]Беларуская дыялекталогія ў табліцах і схемах : у 2 ч. / аўт.-склад.: І. А. Гапоненка, В. П. Трайкоўская. Мінск : БДУ, 2008. Ч. 2 : Марфалогія. С. 18.

2) король инш<u>ыхъ</u> панѧтъ на дворе своемъ не ставилъ ни за што напротивку ему (Трыст., 14);

3) всему посполству и иˣ подданыᵐ а тубыˡцомъ земль великого кнзьства нашоᵍ литоᵛского которого бы коˡвекъ стадла[1] а стану былѝ вси иˣ права и правиˡѧ... мети мають (Ст. 1529–Ф, 1).

---

[1]стадло – 'стан, становішча' (ГСБМ. Вып. 32. С. 307).

З а д а н н е 2. Патлумачце граматычныя адрозненні паміж формай указальнага займенніка онъ і формай асабовага займенніка трэцяй асобы онъ.

1) То естъ цудъ надъ цуды великий, ижъ... грецкий народъ онъ великий и страшливый, и мудрый, славныи и моцный, который (всему) свѣту пановалъ, за помъстою Боскою, отъ дикихъ людеи въ неволю пойманный естъ (Скарга, Сабор Бер., 48);

2) тыи судьи наши сказали мне на третий день съ пятма свѣтки моими присягнути на томъ, ижь тая земля моꙗ ѿᵗчиннаꙗ; и коли есми шолъ присягати, и ѡнъ мя, немши за груди, съсоромотилъ и змордовалъ, и не хотелъ ми дати присягати (КСД, 141, 1514).

З а д а н н е 3. Патлумачце існаванне варыянтных канчаткаў займенніка она(ꙗ) у адной і той жа граматычнай форме.

1) до оное славы і щасливости вѣчˢное, не иначей, еᵈно презъ крестъ и страданіе приходити каᶻдый маетъ (Карп., 11);

2) аѳанасиⁱ... вышол з оноⁱ темніцы, и подзеᵐного мешкаⁿꙗ, ѡᵗ паⁿны, і указаˡсꙗ спрудка людеᵐ в цр҃кви (Жыц. св., 106б).

З а д а н н е 4. Замест пропускаў устаўце патрэбныя граматычныя формы ўказальнага займенніка тъ, та, то.

1) вшедши дочка ___ Иродіады, и плѧсавши, сподобаласѧ Иродови и споˡседѧчимъ зˢ нимъ (Каліст, II, 328);

2) дали есмо ____ села... с озеры, з реками и с криницами, с потоки, ставы и со въсими пожитъки (Арх. ЮЗР, VIII-4, 1, 1407);

3) того лѣт҃ коли алъбрахтъ. влдка ризкии оумьрлъ. уздоумалъ кнѧзѣ смольнескыи. мьстиславъ. двдвъ снъ. прислалъ въ ригоу своѥго лоучьшего попа. ѥрьмеꙗ. и съ нимь оумьна моужа пантельꙗ. и своѥго горда смольнеска ___ два была послъмь оу ризѣ (Грам. 1229).

З а д а н н е 5. Якая з падкрэсленых формаў узнікла: а) у выніку рэдуплікацыі; б) спалучэння двух розных указальных займеннікаў; в) рэдукцыі канцавога галоснага?

1) тои Пилатъ былъ на онъ часъ игемономˢ, то естъ старостою Іерˢлимскимъ (Будны, 128б);

2) **<u>той</u> который оучꙋетъ близко стоѧчи грѣхъ... не повѣнѣн также нѣкомꙋ того грѣхꙋ выѧвлѧти** (Зб. вып., 44);

3) **маю <u>тотъ</u> городъ Лучоскъ держати веръно на короля его милость... а не маю его никому спускати** (КЗ, 371, 1484).

З а д а н н е 6. Ахарактарызуйце падкрэсленую форму займенніка. Вызначыце, з’яўляецца яна спрадвечнай ці новай. Патлумачце ўсе фанетычныя змены, што адбыліся ў гэтай форме займенніка.

**гостю торговати во Пьсковѣ, безъ пакости, по старой пошлинѣ, со <u>всꙗкимъ</u> гостемъ** (АЗР, I, 51, 1440).

З а д а н н е 7. Якая з трох падкрэсленых формаў займенніка **которъ** (**которъи**) узыходзіць да формы множнага ліку былога жаночага роду?

1) **<u>которыи</u> статки ихъ ꙋ дому его найдуть, то маеть тымъ людемъ ѡ$^{\text{т}}$дано быти** (КСД, 128, 1514);

2) **жаловалъ... панъ Миколай... и инъшые купцы... <u>которые</u> статки и витины свои маютъ на реце и порте реки Вельи** (АВК, XX, 173, 1601);

3) **сторожи <u>котории</u> за$^{\text{м}}$ку стерегли инꙗли его, и привели пере$^{\text{д}}$ птоломеꙗ** (Алекс., 39б).

З а д а н н е 8. У якіх сказах падкрэсленая форма творнага склону адзіночнага ліку займенніка **вьсь**: а) выступае са спрадвечным канчаткам; б) мае канчатак мяккага варыянта скланення; в) завяршаецца на зацвярдзелы губны; г) адлюстроўвае пераход [вь] → [ў]?

1) **Потомь въ тыхъ же уберахъ, и зъ онымъ <u>вси$^{\text{м}}$ъ</u> веръныхъ събраньемъ, пошли до костела Панъны Марии Латинъского Рымского, и тамъ... Богу Христу оную светую единость поручили** (Саб. Бер., 17 адв.);

2) **Иншіе тежъ цесари а потымъ зась папежове Римскіе, зо <u>всѣмъ</u> христіанствомъ, въ томъ календару отмѣны не чинили, окромѣ што свѧтамъ (праздникомъ) часы певные назначиваны бывали** (Апокр., 47 адв.);

3) **а ѡва папа лис$^{\tilde{\text{т}}}$ из роуки его оузѧ$^{\text{л}}$. а ѡнъ емоу на ты$^{\text{х}}$ мѣстъ поусти$^{\tilde{\text{л}}}$ и велѣлъ и росчести пре$^{\tilde{\text{д}}}$ <u>оуси$^{\tilde{\text{м}}}$</u> людо$^{\text{м}}$. и пре$^{\tilde{\text{д}}}$ ѿ$^{\tilde{\text{ц}}}$ем его** (Жыц. Ал., 98б);

4) **тымь оусемъ володети кн͠зю скирикгаилу брату н͠шму так жь волость свислочь и с данью и с землею и с людми и со <u>всѣмь</u> доходомъ** (Гр. кар. Уладзісл. кн. Скірг., 1387).

З а д а н н е 9. Вызначыце разрад падкрэсленага займенніка, падбярыце сучасныя адпаведнікі з тым жа лексічным значэннем. Перакладзіце сказы на сучасную беларускую мову.

1) **есмъ богатый, и маю всего досытъ, а <u>жадное</u> рѣчи недостатку не терплю** (Пасланне да лацін, 29);

2) жаден поцтивыѕ не хотѣл жон дат, аж есте их накрали и кгвалтом набрали (Бельск., 147б);

3) Жадного несть онъжебы всегда живъ былъ, и ни того онжебы в таковои речи недеждꙋ моглъ имети (Скар. Екл., 14).

Заданне 10. Суаднясіце старажытныя (1–12) і сучасныя (а–к) неасабовыя займеннікі розных разрадаў паводле іх лексічнага значэння.

| | |
|---|---|
| 1) оныи | а) гэты |
| 2) вьсь | б) той |
| 3) никъто | в) ніхто |
| 4) кътоколвекъ | г) нішто |
| 5) которыи | д) нехта |
| 6) нѣкъто | е) нешта |
| 7) ледачьто | ё) увесь |
| 8) овыи | ж) які |
| 9) сей | з) хто-небудзь |
| 10) жаденъ | і) што-небудзь |
| 11) нѣчьто | к) які-небудзь |
| 12) вшистокъ | |

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Па мяккай разнавіднасці скланяліся займеннікі:

| | |
|---|---|
| 1) которъ, котора, которо; | 6) чьто; |
| 2) вашь, вашꙗ, ваше; | 7) овъ, ова, ово; |
| 3) сь, сꙗ, се; | 8) и, ꙗ, ѥ; |
| 4) тъ, та, то; | 9) свои, своꙗ, своѥ; |
| 5) чьи, чьꙗ, чьѥ; | 10) онъ, она, оно. |

**2.** Адзначце правільны адказ.

Указальны займеннік падкрэслены ў сказе:

1) Въ день добрыи поживаи добрыхъ речеи, и ѿ злого днѧ выстерегаисѧ. Понѣже ꙗко тои день тако и онъ богъ сотворилъ естъ: Абы незнашолъ человѣкъ противъ емꙋ справедливых жалобъ (Скар. Екл., 11 адв.);

2) И возва гсдь богъ Адама и рече емꙋ игде есь. Ѡнѕже ѿвеща гласъ твои гсди слышахъ в раи и ꙋбоꙗхѕсѧ ꙗко нагъ есмъ и сѕкрихѕсѧ: (Скар. КБ, 12 адв.).

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

**потреба абы завше злоучены были тѣ двѣ цнотѣ** (Каліст, II, 29).

Падкрэсленая ў сказе форма:

1) выступае ў адзіночным ліку;
2) выступае ў множным ліку;
3) выступае ў парным ліку;
4) не мае катэгорыі ліку;
5) мае мужчынскі род;
6) мае жаночы род;
7) мае ніякі род;
8) не мае катэгорыі роду.

**4.** Адзначце правільны адказ.

**смотрете вгору, а о чомколвекъ хочете ведат, в сердъцах своих розмышляйте** (Алекс., 38);

**взглядомъ нарушенья сего листу фундацыйного, если бы якоекольвекъ отъ насъ дѣятися мѣло, закладаемъ на себе заруки копъ семъ сотъ грошей личбы литовской** (АЗР, IV, 523, 1631);

**Слыши, човече добрый хтожъкольвекъ! (Бо ижесь машкараю**[1] **лице свое закрылъ, трудно тебе познати)** (Пацей, Адказ клірыку Астр., 482).

[1]**машкара** – ‘маска’ (ГСБМ. Вып. 17. С. 292).

Падкрэсленыя займеннікі паводле разраду з’яўляюцца:

1) адмоўнымі;
2) адноснымі;
3) азначальнымі;
4) няпэўнымі;
5) прыналежнымі;
6) пытальнымі;
7) указальнымі.

**5.** Адзначце правільны адказ.

Толькі азначальныя займеннікі прадстаўлены ў групе:

1) **каждыи, овыи, свои;**
2) **вьсь, инъ, самъ, такъ;**
3) **вьсѩкъ, которъ, твои.**

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэсленыя займеннікі выступаюць з найбольш старажытнай флексіяй роднага склону адзіночнага ліку жаночага роду ў сказах:

1) **ведле... слоушности всѧкой** (Апокр., 58);

2) **да тые зверѧта их же такъ наимоую$^{\text{т}}$. знають оуси дороги. да частокра$^{\text{т}}$ сами врачаю$^{\text{т}}$ чере$^{\text{с}}$ далекую дорогоу. безъ оусѧкое напасти звере$^{\text{в}}$ злодее$^{\text{в}}$ альбо лотро$^{\text{в}}$** (Валхвы, р. 53–56);

3) **да на то$^{\text{м}}$ мѣстьци и$^{\text{ж}}$ было на конци тое оулице. кде неколи стоѧ$^{\text{л}}$ и бы$^{\text{л}}$ дом двдвъ ї исаи ѿтца его бы$^{\text{л}}$** (Валхвы, р. 22–24);

4) **то та$^{\text{к}}$ о порѧ$^{\text{д}}$ку и сумѣ тои першеи части ѿповѣди вкоротцѣ ткноу$^{\text{в}}$ши, до речи самои ю$^{\text{ж}}$ приступоую** (Апокр., 10 адв.).

**7.** Адзначце правільны адказ.

Спрадвечнай формай творнага склону адзіночнага ліку азначальнага займенніка мужчынскага роду вьсıакъ з'яўляецца:

| | | |
|---|---|---|
| 1) вьсıакемь; | 4) вьсıакѣмъ; | 7) вьсıацѣмь; |
| 2) вьсıакемъ; | 5) вьсıацемь; | 8) вьсıацѣмъ. |
| 3) вьсıакѣмь; | 6) вьсıацемъ; | |

**8.** Складзіце суадносныя пары: форма назоўнага склону множнага ліку займенніка инъ, ина, ино (1, 2, 3) – род, у якім выступае гэта форма (а, б, в).

| | |
|---|---|
| 1) инага; | а) жаночы род; |
| 2) иныѣ; | б) мужчынскі род; |
| 3) инии. | в) ніякі род. |

**9.** Адзначце правільны адказ.

Форма займенніка вьсь, што ўзнікла пад уплывам мяккага варыянта скланення, падкрэслена ў сказе:

1) Антони$^{\text{ѕ}}$... ба$^{\text{р}}$зо сıа людски$^{\text{м}}$, ро$^{\text{з}}$мовъным и лаго$^{\text{д}}$ны$^{\text{м}}$ вси$^{\text{м}}$ госте$^{\text{м}}$ стави$^{\text{л}}$ (Зб. 752, 487б);

2) Поглѣдьте иже есмъ самъ собѣ не трудился, но всемъ соглѣдающим$^{\text{ѕ}}$ наказаниѧ (Скар. ІС, 54);

3) Тако бо повелѣваеть гь гдѣ къ Ап$^{\text{с}}$лом се естъ всѣмъ ѹчителемъ рече, Вы есте соль земли, аще же соль обуıаеть чимъ осолится. ни в что же будеть к тому, точію да и ссыпана будеть вонъ и попираема члкы (Будны, 7б).

**10.** Адзначце правільны адказ.

Займеннік нашь выступае са спрадвечнай флексіяй у сказе:

1) абы тые писары наши, которые по дворомъ нашимъ объезжаютъ, споломъ зъ державцами, зъ гуменъ нашихъ ни то только збожья спродали, колько бы потреба вказывала на тые замки украинные (АЗР, II, 347, 1538);

2) хто держіть оу закладѣ деди$^{\text{ч}}$ство... прі нашемь соимѹ намне$^{\text{ѕ}}$ ро$^{\text{к}}$ ѡднова имаеть ѡсве$^{\text{т}}$ченіе оучини$^{\text{т}}$ (Вісл., 20б);

3) мы... въ безаконии нашемъ сотлѣли есмо (Скар. ПБ, 8).

## Тэма 8

# Прыметнік як часціна мовы. Утварэнне і скланенне кароткіх прыметнікаў

Прыметнікі як словы з атрыбутыўным значэннем вядомы яшчэ і.-е. мове-аснове. Спрадвеку яны называюць унутраную прымету прадмета – яго характарыстыку паводле ўласцівасці, прыналежнасці, колькасці, месцазнаходжання, формы і інш., у адпаведнасці з чым падзяляюцца на якасныя, адносныя і прыналежныя. У праславянскай мове вылучаліся кароткія формы якасных, адносных і прыналежных прыметнікаў, якія ў розных славянскіх мовах зведалі шэраг змен у сваім наступным развіцці.

Генетычна прыметнік – гэта былы назоўнік, што выступаў як азначэнне пры іншым назоўніку, ад якога залежалі катэгоры роду, ліку і склону будучага прыметніка. З цягам часу такія словы афарміліся ў асобны ад назоўнікаў лексіка-граматычны клас. Так утварыліся ***кароткія прыметнікі*** трох разрадаў – якасныя, адносныя і прыналежныя. Іх генетычнае падабенства з назоўнікамі праяўлялася ў тым, што ім было ўласціва іменнае (субстантыўнае) скланенне – кароткія прыметнікі мужчынскага і ніякага роду скланяліся як назоўнікі з былой асновай на *ŏ/*jŏ, а кароткія прыметнікі жаночага роду – як назоўнікі з былой асновай на *ā/*jā (табл. 19).

У сказе кароткія прыметнікі выступалі як азначэнні або як часткі састаўнога іменнага выказніка (прэдыката)[1].

[1]У сучаснай беларускай мове кароткі прыметнік у ролі выказніка ў безасабовым сказе з’яўляецца новай часцінай мовы – катэгорыяй стану, напрыклад: *Зірні, прыслухайся наўкола*: *Як ціхамірна, як вясёла* (*Я. Колас*).

*Табліца 19*

**Скланенне кароткіх прыметнікаў**

| Склон | Цвёрдая аснова | | | Мяккая аснова | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Адзіночны лік | | | | | |
| | м. р. | н. р. | ж. р | м. р. | н. р. | ж. р. |
| Н. | **добръ** | **добро** | **добра** | **синь** | **синє** | **синꙗ** |
| Р. | **добра** | | **добры** | **синꙗ** | | **синѣ** |
| Д. | **добрꙋ** | | **добрѣ** | **синю** | | **сини** |
| В. | **добръ** | **добро** | **добрꙋ** | **синь** | **синє** | **синю** |
| Т. | **добръмь** | | **доброю** | **синьмь** | | **синєю** |
| М. | **добрѣ** | | **добрѣ** | **сини** | | **сини** |
| | Множны лік | | | | | |
| Н. | **добри** | **добра** | **добры** | **сини** | **синꙗ** | **синѣ** |
| Р. | **добръ** | | **добръ** | **синь** | | **синь** |
| Д. | **добромъ** | | **добрамъ** | **синємъ** | | **синꙗмь** |
| В. | **добры** | **добра** | **добры** | **синѣ** | **синꙗ** | **синѣ** |
| Т. | **добры** | | **добрами** | **сини** | | **синꙗми** |
| М. | **добрѣхъ** | | **добрахъ** | **синихъ** | | **синꙗхъ** |
| | Парны лік | | | | | |
| Н.-В. | **добра** | **добрѣ** | **добрѣ** | **синꙗ** | **сини** | **сини** |
| Р.-М. | **добрꙋ** | | **добрꙋ** | **синю** | | **синю** |
| Д.-Т. | **доброма** | | **добрама** | **синєма** | | **синꙗма** |

Прыкладна з XIII–XIV стст. кароткія прыметнікі пачынаюць страчваць адметнасці ўласнага скланення і выцясняцца поўнымі[1]. Адносна трывала захоўваліся толькі формы назоўнага склону адзіночнага і множнага ліку ў прэдыкатыўнай функцыі: **(сꙗ) згода (єсть) добра, (си) мꙋжи (сꙋть) славни.**

Напамінам пра існаванне ў мінулым кароткіх формаў прыметнікаў у назоўным склоне выступаюць суфіксы адпрыметнікавых паводле паходжання прыслоўяў накшталт *далёка*, *лёгка*, *смешна* і інш., якія ўзыходзяць да формаў прыметнікаў адзіночнага ліку

[1]*Булыка А. М., Жураўскі А. І., Крамко І. І.* Гістарычная марфалогія беларускай мовы. Мінск : Навука і тэхніка, 1979. С. 139.

ніякага роду – **далеко, легко, смѣшно** і інш. Дзве гэтыя часціны мовы адрозніваюцца сінтаксічнай роляй у выказванні і сінтагматычнымі сувязямі: **мы хочемь… жебы сꙋдьꙗ свиде$^{ч}$ство и$^{х}$ прінѧ$^{л}$ а ихъ свиде$^{ч}$ство моцно** (Вісл., 20) – кароткі прыметнік у складзе састаўнога іменнага выказніка; **кто бꙋде$^{т}$ до ко$^{н}$ца терпливы$^{и}$ и моцно стоѧчи не поклони$^{т}$сѧ в таковы$^{х}$ бѣда$^{х}$** (Каз. Кір., 76б) – прыслоўе ў ролі акалічнасці.

У адпаведнасці з іменным тыпам скланення кароткія прыметнікі выступалі ў адзіночным, множным і парным ліках. Формы парнага ліку страціліся. Формы множнага ліку ў назоўным склоне ўніфікаваліся – замест трох асобных формаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду стала выступаць адзіная форма былога жаночага роду з канчаткам **-ы** для асноў на цвёрдыя зычныя: **добри** (м. р.), **добры** (ж. р.), **добра** (н. р.) → **добры**, канчатак **-и** для асноў на мяккія зычныя: **сини, хороши**.

Пры скланенні прыметнікаў, аснова якіх заканчвалася на [к], адбывалася чаргаванне заднеязычнага са свісцячым гукам: **высокъ** – (о) **высоцѣ, глꙋбокъ** – (о) **глꙋбоцѣ** і інш. Адпаведныя чаргаванні зведалі і прыметнікі з асновай на [г] і [х], якія сустракаліся радзей (**ꙋбогъ – ꙋбозѣ; лихъ – лисѣ**). Перажылі кароткія прыметнікі і іншыя фанетычныя змены.

Развіццём катэгорыі адушаўлёнасці абумоўлены змены ў перадачы формаў вінавальнага склону тых кароткіх прыметнікаў, якія адносіліся да адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду. Калі першапачаткова такія прыметнікі выступалі ў вінавальным склоне адзіночнага ліку ў форме, аднолькавай з формай назоўнага склону, то пазней яны сталі выступаць у форме, якая супадала з формай роднага склону: Н. скл.: **богатъ (гость)**; В. = Н. скл.: **богатъ (гость)** → В. = Р. скл. **богата (гостꙗ)**.

Якасныя кароткія прыметнікі валодалі катэгорыяй ступені параўнання – выступалі ў простай, вышэйшай і найвышэйшай формах: **красенъ, красна, красно – краснѣи, краснѣишꙗ, краснѣише – прекрасенъ, прекрасна, прекрасно** і інш.

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Размяркуйце кароткія прыметнікі па разрадах: 1) якасныя, 2) адносныя, 3) прыналежныя.

**Богатъ, владычьнъ, дꙋжь, заѧчь, красенъ, свѧтъ, сестринъ, сꙋхъ, хоробръ, шелкъвъ.**

З а д а н н е 2. Выпішыце з дадзенага ўрыўка ўсе кароткія прыметнікі і вызначыце, да якога разраду яны належаць.

**а протоⷤ стережисѧ всѧкого имѹщи ѡко зерко. а саⷨ презлишь беⷧ҃. а боудет ли еще к семѹ еще широкочеⷧ҃ и скоулобороⷣ, и влаⷭ҃ главы его гоустъ. стережисѧ его ꙗко скорпеевъ индеискыⷯ. забивающиⷯ позренїеⷨ своиⷨ҃** (Тайна тайных, α).

З а д а н н е 3. Вызначыце сінтаксічную ролю падкрэсленых прыметнікаў. Якія з іх выступаюць у кароткай форме, а якія – у поўнай? У форме якога ліку прадстаўлены прыметнік **свѣтлыма**?

**тѣломъ быⷭ҃ красенъ. оузрастомъ высокъ. кроуглымъ лицемъ. ѡчима свѣтлыма. брада мала. веселъ оумомъ млаⷣ оубо быⷭ҃. свѣтеⷧ҃ красотою. на ратехъ храбръ. оумомъ премудръ** (Чэцця 1489, 279–289).

З а д а н н е 4. Прасклaняйце наступныя агульнаўсходнеславянскія словазлучэнні: **ѹмьнъ сынъ, нова церкъвь, велико село**. Вызначыце, па якім тыпе скланяецца кожнае слова ў іх складзе.

З а д а н н е 5. Пастаўце агульнаўсходнеславянскае словазлучэнне **великъ кънѧзь** у абазначаныя ніжэй граматычныя пазіцыі. Запішыце атрыманыя словаформы, патлумачце фанетычныя змены ў іх складзе і далейшы лёс.

1) адзіночны лік, месны склон;
2) адзіночны лік, клічны склон;
3) множны лік, назоўны склон;
4) множны лік, месны склон.

З а д а н н е 6. Вызначыце, выступае падкрэслены кароткі прыметнік у спрадвечнай форме ці не? Знайдзіце ва ўрыўку поўныя прыметнікі, аднавіце іх кароткія формы ў адпаведных граматычных пазіцыях. Звярніце ўвагу на аманімічнасць некаторых з гэтых формаў.

**поклонъ и бл҃ословлѣнье ѿ ѧкова епискупа полотьского. бровстови**[1]**. намѣстьнику пискуплю и дѣтемъ моимъ ратманомъ**[2] **былъ есмь не дома. во отьца своего митрополита. а нынѣ есмь на своемь мѣстѣ. оу свѧтоѣ софьѣ. а нынѣ есмь оувѣдалъ любовь ваша праваѧ съ с҃номь моимь с витенемь. тако же дѣти была любовь ваша перваѧ с полочаны съ дѣтми моими** (Гр. полацк. еп. Якава, 1309 г.).

[1]**Бровстъ** – уласнае імя.

[2]**ратманъ** – ‘член магістрата ў Рызе ў XIII–XV стст.’ (ГСБМ. Вып. 30. С. 25).

З а д а н н е 7. Дапасуйце кароткі прыметнік да прыведзеных назоўнікаў у форме назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку: **зеленъ – джбъ, джбрава, вино** і **красьнъ – молодьць, дѣвицꙗ, сольньце**. Патлумачце, што стала з гэтымі формамі ў далейшым.

З а д а н н е 8. У якім сказе падкрэсленае слова з'яўляецца кароткім прыметнікам, назоўнікам? Чым тлумачыцца аманімічнасць гэтых словаформаў?

1) **тот витез не на <u>зло</u> создан, але ку вытежству**[1] **створен** (Трыст., 106);

2) **а <u>зъло</u> дрѣво плоды зълы творитъ** (Астр. Ев., Матф., 7:17);

3) **движима соуᵀ. ѡвенъ. Ракъ Ѥреᴹ. Козеироᴳ. а стоѧтелна соуᵀ. скорпіѧ. левъ. телець... лоуна... аще пребываеть на движимоᴹ зодеи**[2] **то єˢ добро, аще на стоѧтелноᴹ. то єˢ <u>зло</u>** (Неба, 78б–79).

[1]**вытежство – звытежство** – 'перамога, трыумф, поспех у спаборніцтве, у пераадольванні цяжкасцей, пачуццяў, жаданняў' (ГСБМ. Вып. 12. С. 119).

[2]**зодеи** – 'кожнае з сузор'яў задыяка, якое мае свой знак і назву' (Там жа. Вып. 13. С. 133).

З а д а н н е 9. Ахарактарызуйце падкрэсленую словаформу прыметніка: поўная ці кароткая форма, разрад, род, лік, склон, сінтаксічная роля.

1) **выпустиша печенѣзи мужь свои. бѣ бо превеликъ зѣло. и <u>страшенъ</u>** (Лаўр. лет., 42 адв.);

2) **въшьдъ же цр҃ь. видѣтъ възлежащиихъ видѣ тоу чл҃ка необлъчена въ одѣник брачьнок и гл҃а кмоу дрѫже како вънидє сѣмо. не имы одѣниꙗ <u>брачьна</u>** (Астр. Ев., 81 адв.);

3) **ѡбручили ємꙋ невѣстꙋ <u>црва</u> родꙋ** (Чэцця, 147б).

З а д а н н е 10. Ідэнтыфікуйце падкрэсленыя словаформы паводле часцінамоўнай прыналежнасці і вызначыце іх граматычныя характарыстыкі ў прапанаваных сказах.

1) **а се ꙗ всеволодъ далъ кесмь блюдо <u>серебрьно</u> въ л҃ гр҃внъ серебра** (Мсцісл. гр., 1130);

2) **чьстьнок дрѣво бесцѣньно кесть а кованьк его злото и <u>серебро</u> и камѣньк и жьнчюгъ въ р҃ гривнъ а да м҃ гривнъ** (Надпіс на кр. Ефр., 1161);

3) **Тогда сотрѣна суть посполу железо глина медь <u>сребро</u> и злато** (Скар. ДП, 8б);

4) **по тобѣ повстанеᵀ цаᴾство иᴺшое мнѣйшое ниᴶли ты <u>сребреное</u>, и третее цаᴾство иᴺшое мѣдѧное** (Біблія, 533).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

Па паходжанні кароткі прыметнік – гэта назоўнік у функцыі:

1) выказніка;
2) дзейніка;
3) азначэння;
4) дапаўнення;
5) акалічнасці.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Кароткія прыметнікі старажытнай пары скланяліся:

1) па іменным тыпе;
2) па займенным тыпе;
3) як назоўнікі з асновай на *ū і *ā/*jā;
4) як назоўнікі з асновай на зычны;
5) як назоўнікі з асновамі на *ŏ/*jŏ і *ā/*jā.

**3.** Адзначце правільны адказ.

**Не бысь ту брата Брячяслава, ни другаго Всеволода; единъ же изрони жемчюжну душу изъ храбра тѣла, чресъ злато ожереліе** (Слова, р. 147).

Падкрэслены кароткі прыметнік скланяўся як назоўнікі з асновай:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) на *jŏ; | 3) *jā; | 5) *ū; | 7) *ĭ; |
| 2) *ŏ; | 4) *ā; | 6) *ŭ; | 8) зычны. |

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Кароткія прыметнікі першапачаткова маглі выступаць у сказе ў сінтаксічнай ролі:

1) азначэння;
2) дапаўнення;
3) акалічнасці;
4) часткі дзейніка;
5) часткі выказніка.

**5.** Адзначце правільны адказ.

**и бы$^{с}$ буря велика и разби корабли руси. и княжь корабль разби вѣтръ** (Лаўр. лет., 52).

Падкрэслены кароткі прыметнік выконвае ў дадзеным сказе функцыю:

1) атрыбутыўную; 2) прэдыкатыўную.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Падкрэсленае слова з’яўляецца кароткім прыметнікам у сказе:

1) **вино вароное густое, едя$^{т}$, цукрованое и хлѣбъ те$^{ж}$ соло$^{д}$ко приправую$^{т}$** (Бельск., 410б);

2) **коли муку житную у хлебе спеку$^{т}$, то тесто печеное соло$^{д}$ко** (Барк., 164–164б).

**7.** Адзначце правільны адказ.

**А оже кто въсядеть на чюжь конь не прашавъ то г҃ гривны. аче кто конь погоубіть** (Руск. пр., 1282, 617 г.).

Падкрэслены кароткі прыметнік ужыты ў сказе са спрадвечнай флексіяй:

1) так; 2) не.

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У форме давальнага склону адзіночнага ліку адбываецца чаргаванне заднеязычных і свісцячых у кароткіх прыметніках:

| | | |
|---|---|---|
| 1) **глѹбокъ**; | 4) **нагъ**; | 7) **сѹхъ**; |
| 2) **глѹбока**; | 5) **нага**; | 8) **сѹха**; |
| 3) **глѹбоко**; | 6) **наго**; | 9) **сѹхо**. |

**9.** Складзіце суадносныя пары: форма назоўнага склону множнага ліку кароткага прыметніка (1, 2, 3) – назоўнік, да якога гэта форма дапасуецца (а, б, в).

| | |
|---|---|
| 1) **мѹдра**; | а) **речи**; |
| 2) **мѹдри**; | б) **ѹчителе**; |
| 3) **мѹдры**. | в) **словеса**. |

**10.** Адзначце ўсе граматычныя характарыстыкі падкрэсленага кароткага прыметніка.

**и възьрѣвъшѧ видешѧ. ꙗко отъваленъ бѣ камень бѣ бо великъ зѣло и вълѣзъшꙗ въ гробъ. видѣшѧ ѭношѫ сѣдѧщь одеснѫѭ ихъ. одѣнъ въ одеждѫ <u>бѣлѫ</u>. и ѹжасошѧсѧ** (Астрам. ев., 18).

| *разрад*: | *род*: | *лік*: | *склон*: |
|---|---|---|---|
| 1) якасны; | 4) мужчынскі; | 7) адзіночны; | 10) назоўны; |
| 2) адносны; | 5) жаночы; | 8) парны; | 11) родны; |
| 3) прыналежны; | 6) ніякі; | 9) множны; | 12) давальны; |
| | | | 13) вінавальны; |
| | | | 14) творны; |
| | | | 15) месны. |

Тэма 9

# Утварэнне і скланенне поўных прыметнікаў

Яшчэ ў праславянскай мове на базе кароткіх прыметнікаў пачалі складвацца поўныя формы, якія мелі на мэце паказваць на прымету пэўнага (вядомага, бачнага гаворачым, нядаўна згаданага і пад.) прадмета. У генетычных адносінах ***поўныя прыметнікі*** – гэта складаныя словы: да склонавых формаў кароткага прыметніка (называў прымету) далучаліся ў постпазіцыі склонавыя формы ўказальнага займенніка (надаваў значэнне пэўнасці, вядомасці) **и** (*jь), **ꙗ** (*ja), **ѥ** (*je) у трох ліках. У выніку кароткі прыметнік і ўказальны займеннік зліліся ў адно слова – поўны прыметнік, прычым на стыку двух слоў адбыліся фанетычныя і марфаналагічныя змены.

*Адзіночны лік*

Н. скл.: (м. р.) **добр-ъ** + **и** → **добръи** → **добрыи**
(н. р.) **добр-о** + **ѥ** → **доброѥ**
Р. скл.: **добр-а** + **ѥго** → **добраѥго** → **доброго**
Д. скл.: **добр-ꙋ** + **ѥмꙋ** → **добрꙋѥмꙋ** → **добромꙋ** і г. д.

Н. скл.: (ж. р.) **добр-а** + **ꙗ**→ **добраꙗ**
Р. скл.: **добр-ы** + **ѥѣ** → **добрыѥѣ** → **доброѣ**
Д. скл.: **добр-ѣ** + **ѥи** → **добрѣѥи** → **доброи** і г. д.

*Множны лік*

Н. скл.: (м. р.) **добр-и** + **и** → **добрии** → **добрыи**
(ж. р.) **добр-ы** + **ѣ** → **добрыѣ**
(н. р.) **добр-а** + **ꙗ**→ **добраꙗ**
Р. скл.: **добр-ъ** + **ихъ** → **добръихъ** → **добрыхъ**
Д. скл.: **добр-омъ** + **имъ** → **доброимъ** → **добрымъ** і г. д.

*Парны лік*

Н.-В. скл.: (м. р.) **добр-а + ꙗ→ добраꙗ**

(ж. р.) **добр-ѣ + и → добрѣи**

(н. р.) **добр-о + и → доброи**

Р.-М. скл.: **добр-ꙋ + ю → добрꙋю**

Д.-Т. скл.: **добр-ома + има → доброма** і г. д.

Указальны займеннік скланяўся па займенным тыпе, таму і поўныя прыметнікі, у складзе якіх ён ператварыўся ў канчатак, у адрозненне ад кароткіх, сталі змяняцца не па іменным, а па займенным тыпе. Яны выступалі з цвёрдай або мяккай асновай і перажылі ўсе тыя фанетычныя змены, што і іншыя часціны мовы займеннага тыпу скланення (табл. 20).

*Табліца 20*

**Скланенне поўных прыметнікаў**

| Склон | Цвёрдая аснова | | | Мяккая аснова | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Адзіночны лік | | | | | |
| | м. р. | н. р. | ж. р | м. р. | н. р. | ж. р. |
| Н. | **добрыи** | **доброѥ** | **добраꙗ** | **синии** | **синѥѥ** | **синꙗꙗ** |
| Р. | **доброго** | | **доброѣ** | **синѥго** | | **синѣѣ** |
| Д. | **добромꙋ** | | **доброи** | **синѥмꙋ** | | **синѥи** |
| В. | **добрыѥ** | **доброѥ** | **добрꙋю** | **синии** | **синѥѥ** | **синюю** |
| Т. | **добрымь** | | **доброю** | **синимь** | | **синѥю** |
| М. | **добромь** | | **доброи** | **синѥмь** | | **синѥи** |
| | Множны лік | | | | | |
| Н. | **добрии** | **добраꙗ** | **добрыѣ** | **синии** | **синꙗꙗ** | **синѣѣ** |
| Р. | **добрыхъ** | | | **синихъ** | | |
| Д. | **добрымъ** | | | **синимъ** | | |
| В. | **добрыѣ** | **добраꙗ** | **добрыѣ** | **синѣѣ** | **синꙗꙗ** | **синѣѣ** |
| Т. | **добрыми** | | | **синими** | | |
| М. | **добрыхъ** | | | **синихъ** | | |
| | Парны лік | | | | | |
| Н.-В. | **добраꙗ** | **добрѣи** | **добрѣи** | **синꙗꙗ** | **синии** | **синии** |
| Р.-М. | **добрꙋю** | | | **синюю** | | |
| Д.-Т. | **добрыма** | | | **синима** | | |

У сказе поўныя прыметнікі выконвалі сінтаксічную функцыю азначэння. У сувязі з выцясненнем імі формаў кароткіх прыметнікаў у назоўным склоне яны набылі магчымасць выступаць як часткі прэдыката: **сїа рєка єсть глубока** і (**сїа**) **рєка** (**єсть**) **глубокаꙗ**. Некаторыя поўныя прыметнікі субстантываваліся і перайшлі ў разрад назоўнікаў, параўн.: **хворыи чєловѣкъ – хворого лєчити**.

Адзначым некаторыя асаблівасці ў старажытнай тыпалогіі ***скланення поўных якасных*** і ***адносных*** прыметнікаў.

1. Поўныя прыметнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку ў форме назоўнага склону зведалі шэраг трансфармацый:

• цвёрдая аснова:

**добр-ъ** + **и** [jь] → **добр**-[ъjь] → **добр**-[$ы_р$jь] → **добрыи**;

• мяккая аснова:

**син-ь** + **и** [jь] → **син**-[ьjь] → **син**-[$и_р$jь] → **синии**.

У канчатках -**ыи**/-**ии** адбылася рэдукцыя канцавога галоснага, і ў выніку формы набылі сучасны выгляд: *добры, сіні* і інш.

2. У формах творнага і меснага склонаў поўных прыметнікаў адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду першапачаткова ўжываліся розныя канчаткі: у творным склоне -**ымь**/-**имь**, у месным – -**омь**/-**ємь**. У беларускай мове ў гэтых граматычных пазіцыях адбылася ўніфікацыя і пачала выкарыстоўвацца адзіная флексія -**ымь**/-**имь**. Пазней губны [м’] на канцы зацвярдзеў і флексія набыла сучасны выгляд *-ым/-ім*. Аналагічныя змены назіраліся ва ўсіх часцінах мовы займеннага тыпу скланення.

3. Самы старажытны канчатак поўных прыметнікаў жаночага роду ў граматычнай форме адзіночнага ліку роднага склону – -**оѣ**/-**єѣ**. У старабеларускай мове ён быў найбольш пашыраным у творах розных жанраў і стыляў. У зыходнай двухскладовай флексіі адбылася рэдукцыя канцавога галоснага [э]: -**оѣ** [оjэ] → -**ой** [оj]; -**єѣ** [jэjэ] → -**єй** [jэj]. Пачатак адлюстравання гэтай асаблівасці адносіцца да канца XV ст. Аднаскладовыя формы замацаваліся ў якасці асноўнай нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы; двухскладовыя формы таксама з’яўляюцца нарматыўнымі, аднак менш пашыраны і выкарыстоўваюцца пераважна ў мове мастацкай літаратуры. Архаічныя двухскладовыя канчаткі ў азначанай граматычнай пазіцыі вядомы паўднёва-заходнім беларускім гаворкам.

4. У флексіі творнага склону адзіночнага ліку поўных прыметнікаў жаночага роду -**ою**/-**єю** адбылася рэдукцыя канцавога галоснага [у]: -**ою** [оjу] → -**ой** [оj] – *-ой*; -**єю** [jэjу] → -**єй** [jэj] – *-ей*. У ста-

рабеларускім пісьменстве з-за традыцыйнасці правапісу засведчана толькі двухскладовая форма. У сучаснай беларускай літаратурнай мове і скарочаны варыянт *-ой/-ей*, і поўны *-ою/-ею* з'яўляюцца нарматыўнымі.

5. У залежнасці ад роду поўныя прыметнікі множнага ліку маглі выступаць у назоўным склоне з адным з трох канчаткаў: -**ии** (м. р.), -**ыѣ** (ж. р.), -**аꙗ** (н. р.). Аднак у сувязі з працэсам уніфікацыі ў гэтай граматычнай пазіцыі ў займенным тыпе скланення паступова замацоўваўся канчатак, што ўзыходзіў да формаў жаночага роду: -**ыє** для цвёрдага варыянта скланення, -**иє** – для мяккага. У беларускай мове з развіццём якання гэтыя флексіі набылі выгляд *-ыя/-ія*.

6. Уніфікацыя канчаткаў назоўнага склону множнага ліку адпаведным чынам адбілася і на формах вінавальнага склону, якія першапачаткова былі аднолькавымі з формамі назоўнага. Пры адушаўлёных назоўніках поўныя прыметнікі ў гэтай граматычнай пазіцыі сталі выступаць у форме, аднолькавай з формай роднага склону.

***Утварэнне і скланенне прыналежных прыметнікаў*** мелі свае асаблівасці ў параўнанні з утварэннем і скланеннем якасных і адносных. Прыналежныя прыметнікі паказвалі на тое, што прадмет, да якога яны адносяцца, некаму належыць. Верагодна, такая семантыка прыналежных прыметнікаў паспрыяла захаванню ў іх кароткіх формаў – указальны займеннік, што ўдзельнічаў ва ўтварэнні поўных формаў прыметнікаў, якраз і падкрэсліваў пэўнасць асобы.

Напачатку ад асноў адушаўлёных назоўнікаў утвараліся кароткія формы прыналежных прыметнікаў, якія пазней саступілі поўным формам. Пры гэтым словаўтваральнымі сродкамі выступалі суфіксы:

1) -**ов**-/-**єв**- – утваралі прыметнікі ад асноў назоўнікаў мужчынскага роду: **Иван-ъ – ивановъ, цар-ь – царєвъ**;

2) -**ин**- – ад асноў назоўнікаў жаночага роду і мужчынскага з канчаткам -**а**/-**ꙗ**: **кънѧгын-ꙗ** + -**ин**- → **кнѧгининъ**, **сєстр-а** + **ин** → **сєстринъ**, **Сапєг-а** + **ин**- → **сапєжинъ**;

3) [j] – ад асноў некаторых назоўнікаў: **кънѧз-ь** + [j] → **кънѧжь**. Назва горада *Заслаўе* паходзіць ад прыналежнага прыметніка **Изꙗславль**, утворанага ад асновы ўласнага імя **Изꙗславъ** пры дапамозе суфікса [j]; у спалучэнні губнога [в] асновы з ётам узнік эпентычны [л].

Першапачаткова прыналежныя прыметнікі выступалі ў кароткай форме і змяняліся па іменным (субстантыўным) тыпе скланення. Ва ўскосных склонах іх выціснулі поўныя, якія змяняліся па займенным тыпе. Кароткія формы прыналежных прыметнікаў захаваліся толь-

кі ў назоўным і вінавальным склонах (калі апошні супадае з назоўным) адзіночнага і множнага ліку: *Васілёў падручнік, бабуліна казка, братава дзіця*; *Васілёвы падручнікі, бабуліны казкі, братавы дзеці.*

Адметнасцю старабеларускай мовы з'яўляецца ўжыванне ў назоўным склоне поўных формаў субстантываваных прыналежных прыметнікаў жаночага роду, якія абазначалі жонак або дачок пэўных службовых асоб: **се ꙗ кнⷢинѧ ѡльгкирⷣоваꙗ** (Гр. 1377); **старостинаꙗ роскаꙗ** (КВЗС, 63б); **воєводинаꙗ новгороⷣскаꙗ** (КВС, 677б) і інш.

Разіццё формаў ускосных склонаў адзіночнага і множнага ліку прыналежных прыметнікаў, а таксама змены ў іх цалкам супадаюць з развіццём формаў іншых (якасных і адносных) поўных прыметнікаў. У сучаснай беларускай мове прыналежныя прыметнікі ўтвараюць асобны тып скланення – так званае змешанае скланенне.

Формы парнага ліку поўных прыметнікаў усіх трох лексіка-семантычных разрадаў – якасных, адносных і прыналежных – страціліся.

Акрамя кароткіх і поўных формаў прыметнікаў, у беларускай мове вядома яшчэ і ***сцягнутая*** (***усечаная***). Знешне яна падобна да кароткай формы, аднак прынцыпова адрозніваецца ад апошняй. Сцягнутыя формы прыметнікаў утвараюцца ў выніку сцяжэння канчаткаў у поўных формах прыметнікаў: **сьвѣтла + ꙗ** → **сьвѣтлаꙗ** → **сьвѣтлаа** → **сьвѣтла** – сцягнутая форма; **сьвѣтла́** – кароткая форма. Націск у сцягнутых формах прыпадае на той самы склад, што і ў поўных прыметніках. Такія формы могуць набываць якасныя і адносныя прыметнікі. Яны маюць месца толькі ў назоўным і вінавальным склонах жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку, а таксама ў гэтых жа склонах множнага ліку. У сказе сцягнутыя формы выконваюць ролю азначэння. Часцей за ўсё сустракаюцца ў гаворках, фальклоры або творах мастацкай літаратуры з моцным уплывам народнай творчасці: *Песню стварыці ясну, як неба* (Я. Купала).

## Заданні

З а д а н н е 1. З кароткіх утварыце формы поўных прыметнікаў трох родаў. Запішыце атрыманыя словаформы.

**Богатъ, владычьнъ, дꙋжь, заѧчь, красьнъ, свѧтъ, сестринъ, хоробръ, шєлкъвъ.**

З а д а н н е 2. Праскланяйце ў множным і парным ліках прапанаваныя словазлучэнні.

**Дѹжии молодьць, красьнаꙗ дѣвица, сѹхоѥ лѣто.**

З а д а н н е 3. Вызначыце сінтаксічную ролю падкрэсленых слоў. У якім сказе падкрэслены кароткі прыметнік? У якім сказе прыметнік выступае ў сінтаксічнай ролі азначэння, (часткі) выказніка, як субстантыў?

1) **в томъ ѡзери вода солодкаꙗ ꙗкъ саха$^{р}$** (Алекс., 63);

2) **древа оного кресного... листвіє зеленое и овощь солодкій бѹдеть родити** (АЮЗР, I, 283, 1598);

3) **ꙗко же ꙗблонь въ деревѣхъ лесных... а ѡвощь єго солодокъ невѣцꙋ моємꙋ** (Зб. 262, 83);

4) **бѣда вамъ, мовѧчим$^{ѕ}$ ꙁломꙋ доброє, а добромꙋ ꙁлоє, кладꙋч$^{и}$ горкоє в$^{ѕ}$ солодкоє, а солодкоє в$^{ѕ}$ горкоє** (Варл., 78);

5) **на єго рꙋки ꙁ неба роса падала, и напо$^{л}$нивши го$^{р}$сть єго, спекласє на соло$^{д}$ки$^{ѕ}$ мє$^{д}$** (Пралог, 676б);

6) **вино вароное гꙋстое єдꙗ$^{т}$ цꙋкрованоє хлебъ салодꙗ$^{т}$ насє$^{н}$є є$^{д}$ны$^{м}$ соло$^{д}$ки$^{м}$** (Наб. тур., 24).

З а д а н н е 4. Патлумачце адрозненне флексій у падкрэсленых словаформах.

1) **та$^{к}$же нѣмецкии кѹпець што прострѹпить оу полоцкѹ ино єго посла$^{т}$ к ризѣ ино єго тамъ ѡсѹдѧ$^{т}$ по ризькомѹ правѹ** (Дагавор Полацка з Рыгай, 1407, р. 23–25);

2) **ны$^{н}$ ж бы кнѧ$^{ꙁ}$ великыи витовтъ ѡсп҃дрь на$^{ш}$, а любо єго послѣдкове кто коли бѹде$^{т}$ ѡсп҃дарь полоцки оу полоцкѹ искла$^{д}$ вчинили, а любо мештерь задвиньскии в ризѣ, а тотъ искла$^{д}$ держѧ$^{т}$ на ѡбѣ сторонѣ** (Дагавор Полацка з Рыгай, 1407, р. 14–17).

З а д а н н е 5. Дапасуйце прыметнік, пададзены ў квадратных дужках, да падкрэсленага назоўніка. Запішыце атрыманую словаформу.

**Ꙗцко Ѵгольниковичъ... а шѹринъ єго Болтромей Черемшичъ ѣхали на день Светого Дѹха зъ ꙗрмаркѹ [Кѹзницкій, -аꙗ, -оє]** (АВАК, т. 17, с. 109).

З а д а н н е 6. Пастаўце ўсе словы падкрэсленага словазлучэння ў формы, якія адпавядаюць пісьмовай традыцыі X ст.

**продал за сто и пят грошей литовскихъ коня своего власного шерстью рыжого не прыскованого, грива в него на левую сторону лежит и волкоторжина[1] на левом стегне есть** (ИЮМ, XXXII, 64, 1578).

[1]**волкоторжина** – 'шрам ад укусу воўка' (ГСБМ. Вып. 4. С. 135).

З а д а н н е 7. Патлумачце, як узніклі варыянтныя канчаткі ў адной і той жа граматычнай пазіцыі падкрэсленага поўнага прыметніка.

1) **трєба нє завсєгды духовныхъ прєложоны$^{х}$ слүхати, алє в$^{ъ}$ тотъ часъ, кды правды** <u>**бжєй**</u> **оүча$^{т}$** (Апокр., 68);

2) **нє ихъ, алє** <u>**бжєє**</u> (навукі) **чєрє$^{з}$ моѵсєѧ даноє** (Апокр., 66 адв.).

З а д а н н е 8. Дапасуйце поўныя прыметнікі да назоўнікаў у форме назоўнага склону множнага ліку.

| | | |
|---|---|---|
| (широкий) дворы | (роднаꙗ) матєри | (синєѥ) морꙗ |
| (хороший) воловє | (правоꙗ) рүкы | (далєкоѥ) сєла |
| (дикий) гүси | (сүхаꙗ) трава | (малоѥ) тєлѧта |

З а д а н н е 9. Пастаўце падкрэслены прыметнік у спрадвечную форму назоўнага склону множнага ліку. Запішыце атрыманую словаформу і параўнайце з падкрэсленай. Патлумачце адрозненні.

**а потомъ на чєтвєрто$^{и}$ н$^{д}$ли по свꙗтє в ночи были нємилостивыє страхи** <u>**вєликиє**</u> **дожды кгвалтовныє домы по$^{д}$рывали, вє$^{р}$хи позносили, ꙗко чєрєзъ всю түю ночъ нє засыпали людє** (Баркалаб., р. 115–119).

З а д а н н е 10. Растлумачце паходжанне тапонімаў.

Барысаў, Браслаў, Койданава, Мар'іна Горка, Мсціслаўль, Петрыкаў, Рагачоў, Тураў.

З а д а н н е 11. Выявіце ўсе сцягнутыя формы прыметнікаў у радках з верша Кастуся Каліноўскага «Марыська чарнаброва, галубка мая...».

Марыська чарнаброва, галубка мая,
Дзе ж падзелася шчасце і ясна доля твая?
Усё прайшло, як бы не бывала,
Адна страшна горыч у грудзях застала.

З а д а н н е 12. Ахарактарызуйце прыметнікі ў сказах з фальклорных твораў.

1. Зялёна дуброва без ветру шуміць. 2. Ой, красна-ясна каліна ў лузе. 3. Ой, у полі бяроза, да ў полі кудрава. 4. Адбілася ад роду, як бел камень у воду. 5. Там жнуць жнейкі маладзенькі, у іх сярпочкі залаценькі.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Поўныя прыметнікі называюць займеннымі, таму што яны:

1) скланяліся па займенным тыпе;

2) утвараліся ад займенніка;

3) утвараліся пры дапамозе займенніка;

4) у выказванні выступалі толькі ў постпазіцыі – за імем (назоўнікам, займеннікам).

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Ва ўтварэнні формы поўнага прыметніка былі задзейнічаны:

1) азначальны займеннік;

2) указальны займеннік;

3) прыналежны займеннік;

4) кароткі прыметнік;

5) назоўнік.

**3.** Адзначце правільны адказ.

Падкрэсленае слова з’яўляецца поўным прыметнікам у атрыбутыўнай функцыі ў сказе:

1) **близъ стоⷧбы моее поставте емоу хижицоу <u>малоу</u>** (Чэцця, 149б);

2) **коли дѣтѧ <u>малое</u> кщаемъ, не очекиваемъ воли его, кгды жъ ѡное ничого не смыслить** (Навука, 9);

3) **<u>малого</u> и великого онъ створил, и однако о всѣхъ промышлѧетъ** (Каліст, 1, 48б).

**4.** Адзначце правільны адказ.

Рэдукцыю канцавога галоснага перадае прыметнік, падкрэслены ў сказе:

1) **Владисла б҃ье млⷭ҇ти. король полскии. <u>литовски</u> и рꙋски. иныⷯ земль гⷭ҇дарь** (Грам. кар. Уладзісл., 1387);

2) **а при томъ были чⷭ҇ные люди. панъ хⷬ҇щнъко <u>зегловьскии</u> и докторъ стⷪ҇славъ** (Грам. кар. Уладзісл., 1387).

**5.** Адзначце правільны адказ.

**Ꙋтекли вⷥ ночи дорогою брамы котораѧ есть межи <u>двоистымъ</u> мꙋромъ а ѡгородомъ <u>цръⷭкимъ</u>** (Хран., 351б).

Падкрэсленыя ў сказе прыметнікі выступаюць са спрадвечнай, фанетычна не зmененай, флексіяй творнага склону адзіночнага ліку:

1) так;

2) не.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Падкрэслены ў сказе прыметнік мае больш старажытны для дадзенай граматычнай пазіцыі канчатак у сказе:

1) **вывеⷧ ѡⷮци наши из земли <u>егоупетское</u>. и череⷭ здоровье цесарское теⷤ присѧгаеⷨ тобе...** (Пак. Хр., 18б);

2) реклъ есмъ вывести ва^с^ зъ бѣды зъ египе^т^скои до зе^м^ли ѡплываючои молоко^м^ и медо^м^ (Бібл., 110).

**7.** Адзначце правільны адказ.

**И обонѧ г͠сдь воню[1] _______ и рече Ноеви не приложу к тому проклинати земли, за дела человѣческаѧ** (Скар. КБ, 19 адв.).

---

[1] **воня** – ‘пах, духмянасць’ (ГСБМ. Вып. 4. С. 181).

Замест пропуску ў сказ трэба ўставіць наступную форму прыметніка **добрыи (-аѧ, -ое)**:

1) **добраѧ**; 3) **добрую**;
2) **доброѣ**; 4) **добрыи**.

**8.** Адзначце правільны адказ.

**старостове судовые гдѣ книги лежать, будуть мочи листы заручные подъ печатьми своими шлѧ^х^те давати** (Ст. 1588, 33).

Канчатак падкрэсленага ў сказе поўнага прыметніка множнага ліку назоўнага склону ўзыходзіць да былога канчатка:

1) мужчынскага роду;
2) жаночага роду;
3) ніякага роду.

**9.** Складзіце суадносныя пары: форма назоўнага склону множнага ліку поўнага прыметніка (1, 2, 3) – назоўнік (а, б, в), да якога гэта форма дапасуецца.

1) **мудрыѣ**; а) **учителе**;
2) **мудрии**; б) **словеса**;
3) **мудраѧ**; в) **речи**.

**10.** Складзіце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3) падкрэсленае слова – гэта... (а, б, в).

1. Як ты дорага мне, мая родная мова –
Песні-долі маёй векавая аснова!
(*Н. Гілевіч*)

2. За лепшу долю роднага краю,
За сваіх брацціў у святой барацьбе –
Гэтакай толькі смерці жадаю,
Памяткі гэткай чакаю сабе.
(*Я. Купала*)

3. А там – прапахлы лекамі апошні прыпынак чалавечае дарогі, якая са скрыжавання юнацтва бачыцца бясконцай і прывабна-таямнічай, і нельга нават падумаць, што калісьці давядзецца апынуцца на такім сумным прыпынку (*Л. Рублеўская*).

а) кароткі прыметнік;

б) сцягнутая форма прыметніка;

в) поўны прыметнік.

Тэма 10

# Ступені параўнання прыметнікаў

Граматычная катэгорыя ступеней параўнання прыметнікаў выражае меру якасці, уласцівую дадзенаму прадмету. Адрозніваюць звычайную, вышэйшую (кампаратыў) і найвышэйшую формы параўнання прыметнікаў. Звычайная форма выступае як базавая пры параўнанні і роўная зыходнай форме якаснага прыметніка.

У праславянскай мове існавалі формы толькі ***вышэйшай ступені параўнання*** прыметнікаў, якія супрацьпастаўляліся звычайным формам.

Паколькі генетычна кароткія формы прыметнікаў з'яўляюцца першаснымі, то напачатку функцыянавалі толькі кароткія формы вышэйшай ступені параўнання. Яны ўтвараліся шляхам далучэння да асновы прыметніка спецыяльных суфіксаў *-jьs- (-*jes-) ці *-ějьs- (-*ějes-).

Такія формы змяняліся па родах, ліках і склонах, як і кароткія прыметнікі, па іменным тыпе (таму іх часам называюць іменнымі формамі вышэйшай ступені параўнання). Пры скланенні канцавы асновы *s аказваўся перад *j, з якога пачыналася флексія, і таму на месцы іх спалучэння ўзнік гук *š'. Выключэннем сталі формы назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку кароткіх прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду, у якіх чаргаванне *sj//*š' не адбывалася, таму што канцавы *s у іх па законе адкрытага склада страціўся.

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *krasьn-ějes-[ø] – **красьнѣи** | *krasьn-ějes-ja – **красьнѣиша** |
| Р. | *krasьn-ějes-ja – **красьнѣиша** | *krasьn-ějes-jě – **красьнѣишѣ** |
| Д. | *krasьn-ějes-ju – **красьнѣишꙋ** | *krasьn-ějes-jь – **красьнѣиши** |
| В. | *krasьn-ějes-[ø] – **красьнѣи** | *krasьn-ějes-ju – **красьнѣишю** |
| Т. | *krasьn-ějes-jьmь – **красьнѣишьмь** | *krasьn-ějes-jьju – **красьнѣишеѭ** |
| М. | *krasьn-ějes-jь – **красьнѣиши** | *krasьn-ějes-jь – **красьнѣиши** |

Некаторыя прыметнікі ўтваралі суплетыўныя формы параўнання: **великъ – большѣи, малъ – меньшѣи, хорошь – лѣпшѣи** і інш.

Акрамя сінтэтычных формаў вышэйшай ступені параўнання кароткіх прыметнікаў, у якіх лексічнае і граматычнае значэнне выражаецца ў адной і той жа словаформе, яшчэ з часоў праславянскай мовы існуе апісальны спосаб перадачы значэння кампаратыву – свабодныя сінтаксічныя канструкцыі, у якіх лексічнае значэнне і граматычныя катэгорыі роду і ліку выражаюцца якасным прыметнікам у звычайнай форме, а значэнне кампаратыву перадаецца прыслоўем: **менѣе добръ, болѣе кривъ** і інш.

Лёс формаў вышэйшай ступені параўнання кароткіх прыметнікаў непасрэдна звязаны з лёсам саміх кароткіх прыметнікаў (паколькі апошнія былі заменены формамі поўных прыметнікаў, то, адпаведна, выйшлі з выкарыстання і кароткія формы вышэйшай ступені параўнання). Выключэннем сталі толькі формы назоўнага склону адзіночнага ліку ніякага роду тыпу **ѹмнѣе, добрѣе, краснѣе, сильнѣе**. Аднак яны змянілі сваю сінтаксічную функцыю і перасталі выступаць як азначэнні, паступова пераўтварыліся ў нязменныя формы вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў. У старабеларускай мове ў такіх формах адбылася рэдукцыя канцавога галоснага [э] і шэраг іншых фанетычных змен, у выніку чаго і ўзніклі сучасныя формы накшталт *вальней*, *мацней*, *хутчэй*, якія з'яўляюцца формамі кампаратыву прыслоўяў.

У агульнаўсходнеславянскай мове пераважалі поўныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, якія выступалі ў выказванні як азначэнні і ўтвараліся пры далучэнні да адпаведных кароткіх формаў указальных займеннікаў **и** (м. р.), **ꙗ** (ж. р.), **ѥ** (н. р.). Поўныя формы кампаратыву змяняліся па родах, ліках і склонах таксама, як і іншыя часціны мовы займеннага тыпу скланення (таму іх называюць займеннымі формамі). Такія формы зведалі тыя ж самыя фанетычныя і марфаналагічныя змены.

У старабеларускай мове найбольш пашыраным пры ўтварэнні займенных формаў кампаратыву быў суфікс **-ейш-**: **чии светъки бѹдѹть годнейшии** (КВЗС, 25).

Значна шырэй, чым у сучаснай беларускай мове, выкарыстоўвалася форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з суфіксам **-ш-**: **в глѹбшѹю пѹшъчѹ** (Зб. 259, 183). Гэты ж суфікс афармляў і суплетыўныя формы кампаратыву: **лѣпшии шаты** (Біблія, 57); **мѣньшіи бра**т (Вісл., 23).

Дадатковыя ўзмацняльныя адценні надаваліся кампаратыву ў складзе разнастайных свабодных сінтаксічных канструкцый:

• са словам єщє: єщє болшыи кривды... сталися (АЗР, I, 205, 1500 г.);

• з прыслоўямі мало, троха, трохи: два ланцухи троха большихъ (АВК, XXII, 155, 1565 г.);

• з прыслоўямі много, многимъ, многокроть: нынєшнєє [поколєниє] многокроть горшєє (РИБ, VII, 929, 1588 г.);

• з прыслоўем далєко (вельмі пашыраная канструкцыя): далєко значнєйшую честь (ССЖ, 346)[1].

У агульнаўсходнеславянскай мове існавалі сінтэтычныя формы ***найвышэйшай ступені*** параўнання прыметнікаў са стараславянскім прэфіксам прє-, які далучаўся да прыметніка ў форме звычайнай ступені: прєдивныи, прємудрыи, а таксама з агульнаславянскім па паходжанні прэфіксам наи-, які далучаўся да прыметніка ў форме кампаратыву: наимудрѣиши, наиславнѣиши.

У старабеларускай мове самым пашыраным прэфіксам пры ўтварэнні формаў найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з'яўляўся прэфікс най-, які ўзнік у выніку рэдукцыі другога галоснага ў прыстаўцы наи- [najь]: наймоцнѣиший, найкоштовнѣйший.

Пад уплывам польскай мовы пэўнае пашырэнне атрымаў і прэфікс на-: навышъший, намилѣйший.

Існаваў і апісальны спосаб для выражэння найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў пры дапамозе:

• займенніка самыи: прєзъ самую доскональую любовъ (Карп., 13б);

• займенніка вьсь: славнейший всєхъ (Скар. КБ, 12);

• прыслоўяў вельми, надто, надзвычаи, наибольш: сталсє вєлми вєлики$^5$ гнѣвъ (Кн. Мак., 49б);

• прыслоўяў мало, маленько, немного, намней: а тако дорога была маленко долга (Тры Валх., 13);

• азначальнага прыслоўя ꙗкъ: ꙗкъ набольшєє стараньє (Варл., 173);

• займенніка што: што лепшого конꙗ (АВАК, XVIII, 57, 1584 г.)[2].

Як паказваюць шматлікія прыклады з твораў старабеларускага пісьменства, для выражэння значэння найвышэйшай ступені параўнан-

---

[1]Паводле звестак з манаграфіі М. Г. Булахава «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы» (Ч. 2 : Сінтаксічны нарыс. Мінск : БДУ, 1971. С. 249–273).

[2]Там жа.

ня прыметнікаў існавалі і іншыя прыназоўнікавыя і беспрыназоўнікавыя свабодныя сінтаксічныя канструкцыі. Не ўсе яны захаваліся і вядомы ў сучаснай беларускай мове.

## Заданні

З а д а н н е 1. Утварыце ўсе магчымыя іменныя формы вышэйшай ступені параўнання прыведзеных прыметнікаў. Выкарыстоўваючы іх, складзіце тры словазлучэнні з назоўнікамі **плодъ, дѣло, дорога**. Праскланяце іх у трох ліках.

**Бедьнъ, горькъ, каменьнъ, кривъ, кругль, лихъ, молодъ, поздьнъ, полонъ, простыи, розумьнъ, светьлъ, солодъкъ, тверезъ, целъ.**

З а д а н н е 2. Дайце граматычную характарыстыку падкрэсленай словаформы.

**В си же времена бысть знаменье на западе: звезда <u>превелика</u>, луче имущи акы кровавы, въсходящи с вечера по заходе солнечнемь, и пребысть за з҃ дний** (Лаўр. лет., 55 адв.).

З а д а н н е 3. Вызначыце сінтаксічную ролю падкрэсленых словаформаў і патлумачце іх утварэнне.

**Въ любви пребывающе, <u>менши</u> и покаряющеся <u>старейшимъ</u>, и не смеюще пред ними глаголати, но все с покореньемь и с послушаньем великымъ. Тако же и <u>старейшии</u> имя[ху] любовь к <u>меншимъ</u>, наказаху, утешающе яко чада възлюбленая** (Лаўр. лет., 63 адв.).

З а д а н н е 4. Прачытайце ўрывак з Прамовы Льва Сапегі. Падкрэсленыя словаформы з'яўляюцца субстантываванымі прыметнікамі. Аднавіце формы звычайнай ступені параўнання гэтых прыметнікаў. Якім спосабам яны ўтварыліся і ад якіх асноў?

**абы се богачы права Ѿ кожъдого кгвалтꙋ, и збыткꙋ погамовалъ, а надъ <u>слабшимъ</u> и <u>худъшимъ</u> не паствильсе, и ꙋтискати его не могъ бо для того права сꙋть постановлены, абы можномꙋ и потꙋжномꙋ, не все было вольно чынити** (Ст. 1588, 1).

З а д а н н е 5. Знайдзіце ўсе сказы, у якіх ёсць прыметнікі ў форме найвышэйшай ступені параўнання.

1) **послалъ кн҃зь Андрѣй кь брату своему меншему родному Дмитрию буквицу** (Мам., 178);

2) **есмъ азъ... человѣкъ недужиы ви и краткаго времени, и малыи къ разумению судовъ и правовъ** (Скар. ПБ, 13б);

3) **в том мамка намнѣ҃шого сына его скрила а своег подкинула** (Бельск., 334б);

4) на пагубу сластолюбивымъ и невѣждамъ, възлюбившымъ сей прелестный погибающій вѣкъ (Аб адзінай веры, 8);

5) льстивіи же уловлены будуть льстями своими (Скар. ПС, 18б).

З а д а н н е 6. Патлумачце адрозненні ў формах прэфіксаў падкрэсленых прыметнікаў. Значэнне якой ступені параўнання яны выражаюць? Як утвораны падкрэсленыя словаформы?

1) Коль красна еси, и яко велми лѣпа есь наимилеишая въ кохаияхъ (Скар. ПП, 9б);

2) Єсли пущу Трыщана, будеть королю жаль Милиенца, если пущу Милиенца, тогда моему намилеишому Трыщану вмерети (Трышч., р. 286–288);

3) ѡ с҃ноу мой наймилейший оузнаи бедноую маткоу свою а выслѹхай молитвы моее (Пак. Хр., 11б);

4) мѹдрец поведаеть, иж живот человечы наддолжши естъ сто лѣтъ (Зб. 255, 424б).

З а д а н н е 7. Як трэба ідэнтыфікаваць падкрэсленую форму ступені параўнання? Патлумачце яе ўтварэнне.

выпустиша печенѣзи мужь свои. бѣ бо превеликъ зѣло. и страшенъ. и выступи мужь володимерь. и оузрѣ и печенѣзинъ и посмѣꙗсѧ. бѣ бо середнии тѣломь (Лаўр. лет., 42 адв.).

З а д а н н е 8. Вызначыце часцінамоўную прыналежнасць і сінтаксічную ролю падкрэсленых словаформаў. Ідэнтыфікуйце формы ступеней параўнання прыметнікаў (іменная, займенная, вышэйшай ступені, найвышэйшай ступені).

1) венець… важилъ естъ талантъ злата съ драгымъ камениемъ (Скар. ДЦ, 87б);

2) Дражшая естъ паче всехъ скарбовъ мудрость (Скар. ПС, 8б);

3) еси драго важилъ собѣ животъ мои предъ очима своима (Скар. ПЦ, 57б);

4) поучися разуму яко дражши естъ сребра (Скар. ПС, 26).

З а д а н н е 9. Знайдзіце ў сказах апісальныя канструкцыі са значэннем ступені параўнання. Як яны ўтвораны? Значэнне якой ступені выражаюць?

1) былъ моужь ѡныи болеи всих с҃новъ востѡчныхъ (Зб. 262, 12);

2) ꙗкъ оловъ естъ подлѣйшій надъ злото, такъ станъ кождого короля естъ подлѣйшій надъ станъ капланскій (Зб. вып., 52);

3) но и то за велми великую суету сужу (Скар. КЕ, 13 адв.);

4) панна Марїа была маленко велика (Тры Валх., 61);

5) всехъ зверовъ, птаховъ и бестїй, волковъ, гадовъ и вороновъ драпежнейшими будучи (ЕК, II, 66 адв.).

З а д а н н е 10. Ва ўрыўках з твора «Пакуты Хрыста» (канец XV ст.) знайдзіце прыметнікі ў формах усіх трох ступеней параўнання. Як выражана форма кампаратыву?

**то оужо коли оучоула пресмутная матка. бего^м^ ка^к^ болши^м^ могла до него плачоучи пришла** (Пак. Хр., с. 10);

**да ѡна види^т^ милостїве. преѡкроутными и преѡстрыми гвоздъми на кристе есть приби^т^. и с крижо^м^ о^т^ земле есть поднесонъ** (Пак. Хр., с. 10 адв.);

**прото^ж^ моуки которые милостїваꙗ матка премилого сна своего роджчи не чоула. а далеко большую моуку мѣла. на моукоу сна своего смотрѧчи** (Пак. Хр., с. 11).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Вядома, што ў старажытнасці ўсе іменныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараліся пры дапамозе суфікса **-ѣиш-** ці **-ьш-**. У назоўным склоне адзіночнага ліку [ш] адсутнічаў у формах:

1) мужчынскага роду;
2) ніякага роду;
3) жаночага роду.

**2.** Адзначце правільны адказ.

У беларускай мове форма вышэйшай ступені параўнання прыслоўя тыпу *грамчэй*, *цішэй* па паходжанні з'яўляецца застылай формай вышэйшай ступені параўнання кароткага прыметніка назоўнага склону:

1) адзіночнага ліку мужчынскага роду;
2) множнага ліку мужчынскага роду;
3) адзіночнага ліку жаночага роду;
4) множнага ліку жаночага роду;
5) адзіночнага ліку ніякага роду;
6) множнага ліку ніякага роду.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

**Многы же церкви созда по власти своей, ибо созда церковь <u>прекрасну</u> на дворе своем святаго мученика Дмитрия и украси ю дивно иконами и писаньем** (Лаўр. лет., 148 адв.).

Падкрэслены прыметнік валодае наступнымі граматычнымі характарыстыкамі:

*ступень параўнання*:
1) звычайная;
2) вышэйшая;
3) найвышэйшая;

*форма*:
4) іменная;
5) займенная;

*род*:
6) мужчынскі;
7) жаночы;
8) ніякі;

*лік*:
9) адзіночны;
10) множны;
11) парны;

*склон*:
12) назоўны;
13) родны;
14) давальны;
15) вінавальны;
16) творны;
17) месны.

**4.** Адзначце правільны адказ.

**кнꙗз Игор на древꙗны, дан... незноснꙋю взложил, болшꙋю ниж ѡлег ѡпекүн єго** (Стрыйк., 439б).

Падкрэсленае слова выступае ў форме вышэйшай ступені параўнання і суадносіцца з прыметнікам:

1) **великии**;
2) **дорогии**;
3) **многии**.

**5.** Адзначце правільны адказ.

**што сєє хꙋлы горшєє што сєє злости лютѣє, што сєго лиходѣ″ства горьшєє** (Чэцця, 41б).

Падкрэсленае слова выступае ў форме вышэйшай ступені параўнання і суадносіцца з прыметнікам:

1) **горькии**;
2) **зълыи**;
3) **плохъи**.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Падкрэсленае слова з'яўляецца прыметнікам у форме кампаратыву ў сказе:

1) **Лүчшеи абы каждый кто не хочеть згинүти иншого собѣ лекарства за часү искалъ, а таковымъ пастырѡмъ покои далъ** (Будны. Прадмова, 7б);

2) **Лꙋчшии єст овощъ мои нежели злато и камениє драгоє** (Скар. ПС, 15).

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Прыметнікі ў форме найвышэйшай ступені параўнання ёсць у сказах:

1) **влⷣко гⷭди преблагиѕ твоⷬче всѧкое твари не преⷥри соⷥданиꙗ своєго** (Зб. 752, 503б);

2) **а Пꙋлкан не спал с конѧ, и конь шол под ним ꙋ наигꙋщыи лꙋг и содралъ емꙋ всю парсꙋнꙋ и не мог скинꙋти...** (Трышч., р. 203–206);

3) **а рѣка ѡгнистаѧ течи бѹдет пробѹючи ч҃лкѡⷡ. если кто золотыи оꙋчиⷩки мает, свѣтлѣишїи бѹдѹт, а кто соломѧныи оꙋчиⷩки мѣти бѹдет и не трваючи, поймаⷩ бѹдет ѡгнем** (Казанне Кірыла, 152);

4) **се во истинноꙋ, наразѹмнѣишїи. что сотвориⷧ б҃гь сѧкого. или близка к семоꙋ ищи да бѫдешь поспешенъ** (Тайна тайных, ν);

5) **люⷣꙵ боꙋдоꙋⷮ носити ѡдежѹ предиⷡнѹ господоꙋ бгѹ невгоⷣнѹ** (Сівіла, 174б);

6) **надъ высокимъ еще естъ вышшии, и надъ тыми также еще сꙋть иные вышшие** (Скар. КЕ, 9).

**8.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе... (1, 2, 3) прэфікс у падкрэсленым слове... (а, б, в).

1) **Бо и лекаръство <u>найкоштовнейшее</u> одномꙋ [хоромꙋ] даетъ здоровье, а дрꙋгомꙋ... смерть приноситъ** (Адказ І. Пацея, 530);

2) **много тежъ з вашихъ рицерев <u>намоцнейшихъ</u> и <u>наславнейшихъ</u>... прилꙋчилисе кꙋ войскꙋ александровомꙋ** (Алекс., 16б);

3) **не даетѕ ли гласꙋ своего на высокыхъ и на <u>наивышшиⷯ</u> горахъ** (Скар. ПС, 14б);

а) мае агульнаславянскае паходжанне;

б) паходзіць з польскай мовы;

в) утвораны ў старабеларускай мове.

**9.** Адзначце правільны адказ.

<u>**Дражшая**</u> **естъ паче всехъ скарбовъ мꙋдрость** (Скар. ПС, 8б).

Падкрэсленая форма прыметніка выступае ў сінтаксічнай функцыі:

1) азначэння;

2) дапаўнення;

3) акалічнасці;

4) дзейніка;

5) (часткі) выказніка.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Значэнне найвышэйшай ступені параўнання перадаюць апісальныя канструкцыі ў сказах:

1) **Ты пакъ ꙋчинилъ еси злеи всихъ иже были сꙋть предъ тобою и наделалъ еси собѣ боговъ чꙋжихъ слитыхъ** (Скар. ТЦ, 160б);

2) **мне гⷭдь боⷢ ѡбꙗвил жеⷭ ты наⷣ мене подлеⷥшыⷥ не естъ** (Зб. 752, 581);

3) **свѣдѣцства знакомитшыхъ ꙋ Грековъ велми славныхъ отцовъ тꙋтъ выписалемъ** (Унія, 8 адв.);

4) **Змия же бе хитрейши всехъ зверей земли** (Скар. КБ, 12).

## Тэма 11

# Граматычныя катэгорыі дзеяслова. Асновы і класы дзеяслова. Тэматычнае і нетэматычнае спражэнне: формы цяперашне-будучага часу

Дзеяслоў ва ўсіх формах абазначае дзеянне або стан: *бегчы – бегаць – бягу – бяжы, стаміцца – стамляцца – стамляюся – стомлены.* Дзеянне і стан можа называць і імя (*бег, беганне, стома, стомленасць*), але дзеяслоў паказвае дзеянне як працэс, ахарактарызаваны адносна рэальнасці, часу і спосабу яго ажыццяўлення. Гэтыя характарыстыкі дзеяслова выяўляюцца праз спецыфічныя катэгорыі *ладу, часу* і *трывання.* Як граматычны цэнтр паведамлення дзеяслоў суадносіцца з прадметам выказвання, што забяспечваецца дапасавальнымі катэгорыямі *ліку* і *асобы,* якія звязаны з сінтаксічнымі асаблівасцямі дзеяслоўнай словаформы.

Лексіка-граматычнай з’яўляецца спецыфічная дзеяслоўная катэгорыя *стану*. Яна цесна звязана з семантыкай дзеяслоўнай лексемы, але афармляецца ў сінтаксічных сувязях дзеяслоўнай словаформы і толькі ў неспрагальных (іменных) формах (напрыклад, ***кіруемы*** *працэс* – дзеепрыметнік залежнага стану і *супрацоўнік,* ***кіруючы*** *працэсам,* – дзеепрыметнік незалежнага стану).

Усе пералічаныя катэгорыі спрадвеку ўласцівы славянскаму дзеяслову. Аднак формы іх выражэння, значнасць у сістэме дзеяслоўных катэгорый і формаў у старажытнасці былі іншымі.

Так, у сучаснай сістэме мовы ўказанне на спосаб працякання дзеяння забяспечвае ***катэгорыя трывання.*** Першапачаткова ж гэта

ўказанне заключалася ў семантыцы дзеясloўнай асновы. Пра і.-е. трывальныя проціпастаўленні ў славянскіх мовах нагадваюць пары аднакарэнных дзеясловаў аднолькавага трывання: *везці, сядзець* (самому) – *вазіць, садзіць* (каго- або што-небудзь); *несці, лезці* (аднойчы) – *насіць, лазіць* (шматкратна). Семантычныя адрозненні паводле спосабу працякання дзеяння прасочваюцца і ў ранніх усходнеславянскіх помніках. Напрыклад, у сказе з Лаўрэнцьеўскага летапісу: **а Двина ис того же лѣса потечет а идеть на полунощье и внидеть в море Варѧжское**[1] – паводле семантыкі першы і трэці дзеясловы называюць дзеянні, якія адбываюцца заўсёды: **потечеть** ‘выцякае, бярэ пачатак’ (а не **возьме**) і **внидеть** ‘упадае, канчаецца’ (а не **кончыцца**). Іх асновы маюць значэнне закончанага трывання (ёсць указанне на пачатак і канец). Дзеяслоў **идеть**, які называе дзеянне непарыўнае, безадноснае да часавага моманту, – незакончанага трывання. Аднак усе тры дзеясловы ўтвараюць рад аднародных выказнікаў, а паводле часавага плану **потечет а идеть и внидеть** аднесены да цяперашняга часу. Інакш кажучы, у семантыцы трывальныя адрозненні ёсць, а марфалагічнага проціпастаўлення дзеясловаў рознага трывання няма.

Развіццё сэнсавага боку катэгорыі трывання прывяло да проціпастаўленасці дзеяння ўвогуле («нейтральнага») і дзеяння з указаннем на спосаб працякання (пачатак: *спяваць – заспяваць*, завершанасць: *пісаць – напісаць, браць – узяць*, аднаразовасць: *крычаць – крыкнуць*, шматкратнасць: *прайсціся – прахаджвацца* і г. д.). Спосабы ўтварэння такіх трывальных пар стабілізаваліся толькі ў старабеларускі перыяд. Сярод іншых самым прадуктыўным аказаўся спосаб прэфіксацыі.

Паколькі першапачаткова не было замацаваных марфалагічных прыёмаў афармлення трывальных значэнняў, указанні на спосабы працякання дзеяння перадаваліся рознымі формамі часу. Менавіта формы часу адрознівалі:

- мінулыя дзеянні:
  - цэльныя або паэтапныя (аорыст і імперфект);
  - з вынікам ў момант гутаркі або папярэднія іншаму мінуламу дзеянню (перфект і плюсквамперфект);
- дзеянні, якія супадаюць з момантам гутаркі або пачнуцца пасля яго (цяперашні і будучы просты);
- будучыя дзеянні: абсалютныя і адносныя да іншага будучага дзеяння (будучы складаны I і будучы складаны II).

[1]Пераклад: Дзвіна з таго лесу выцякае (бярэ пачатак), ідзе на поўнач і ўпадае ў Балтыйскае мора.

З развіццём катэгорыі трывання адбывалася перабудова сістэмы часоў дзеяслова. Эвалюцыя ішла ў напрамку эканоміі граматычных сродкаў, пры гэтым павінна была захоўвацца дакладнасць перадачы значэння: скарачалася колькасць формаў часу, сталі выразна размяжоўвацца цяперашні і будучы простага, некаторыя семантычныя адценні пачалі перадавацца з дапамогай мадальнасці і сінтаксічных канструкцый.

Катэгорыі ***асобы*** і ***ліку*** звязаны з сінтаксічнай функцыяй дзеяслоўнай формы. *Катэгорыя асобы* ўласціва толькі спрагальным формам, якія функцыянуюць у якасці самастойнага выказніка або звязкі пры іменным выказніку. *Катэгорыя ліку* ахоплівае ўсе зменныя дзеяслоўныя формы (уключаючы іменныя) і забяспечвае іх сінтаксічную сувязь з імем (дзейнікам). З дапамогай гэтых катэгорый дзеянне суадносіцца з гаворачай асобай (аўтарам)/асобамі або субяседнікам/субяседнікамі; удзельнікам дыялогу проціпастаўлена 3-я асоба/асобы.

***Катэгорыя ладу*** характарызуе ўстаноўленыя аўтарам (гаворачым) адносіны дзеяння (стану) да рэчаіснасці. Супастаўляльны аналіз славянскіх моў паказвае, што зыходная сістэма праславянскай мовы мела больш складаны набор формаў для дэталёвага выражэння гэтых адносін.

Марфалагічная сістэма ўсходнеславянскіх моў паказвае двухступеньчатую градацыю сродкаў выражэння катэгорыі ладу: рэальнаму ладу (абвеснаму) проціпастаўлены ірэальныя (загадны і ўмоўны), кожны з якіх мае свае сродкі выражэння. Такім чынам, лад, як і час, з'яўляецца граматычным значэннем дзеяслоўнай формы.

*Абвесны лад* выражае рэальнае дзеянне, якое адбывалася, адбываецца ці будзе адбывацца. З марфалагічнага боку гэта ўсе формы часу дзеяслова.

*Загадны лад* абазначае пабуджэнне да дзеяння, а не рэальнае дзеянне. *Умоўны лад* перадае дзеянне, магчымае пры пэўных умовах. Ірэальныя лады формаў часу мець не могуць.

***Катэгорыя стану*** звязана з проціпастаўленнем дзеяння як актыўнай функцыі суб'екта (незалежны стан) і яго прыметы, што не выцякае з яго актыўнасці, або з'яўляецца вынікам знешняга ўздзеяння (залежны стан): *Студэнт <u>піша</u> канспект. – Канспект <u>пішацца</u> студэнтам.* Такім чынам, паняцце стану дзеяслова цесна звязана з яго семантыкай і выражаецца не толькі (і не заўсёды) марфалагічна, але і ў сінтаксічных адносінах. Таму стан з'яўляецца катэгорыяй лексіка-граматычнай.

На марфалагічным жа ўзроўні вылучаецца толькі апазіцыя незалежнага і залежнага станаў, дзе незалежны афармлены праз пераходнасць як адсутнасць залежнасці (інакш кажучы: усе пераходныя дзеясловы – незалежныя), а залежнасць рэгулярна выражаецца толькі ў форме залежнага дзеепрыметніка пры дапамозе пэўных фармаўтваральных суфіксаў (*напісаны*, *вымыты*, *высахлы*).

Асновы, ад якіх пры дапамозе розных марфалагічных сродкаў утвараюцца дзеяслоўныя формы, называюцца ***асновамі дзеяслова*** (не блытаць з асновамі слова!). Існуюць два віды асноў:

1) асновы інфінітыва – інфінітыў без фіналі **-ти**: **чита-ти, писа-ти, носи-ти, нєс-ти**;

2) асновы цяперашняга часу – асабовыя формы цяперашняга часу без канчатка: **чита(j)-єши, пиш-єши, нос-иши, нєс-єши**. Ад асновы цяперашняга часу ўтвараліся формы *цяперашне-будучага*[1] часу, загаднага ладу, дзеепрыметнікі цяперашняга часу; ад асновы інфінітыва – формы аорыста, імперфекта, перфекта, плюсквамперфекта, формы ўмоўнага ладу, дзеепрыметнікі прошлага часу. Акрамя таго, інфінітыў ужываўся пры ўтварэнні будучага складанага I.

Па спосабе далучэння канчатка ўсе дзеясловы падзяляліся на ***тэматычныя*** (канчатак далучаўся з дапамогай тэматычнай галоснай *-e-/*-o-, *-i-) і ***нетэматычныя*** (канчатак далучаўся непасрэдна да асновы). Тэматычная галосная асобнага марфемнага статусу не мае і з'яўляецца часткай канчатка або суфікса.

Паводле структурных асаблівасцей асноў цяперашняга часу будуецца класіфікацыя, якая паказвае заканамернасці арганізацыі і функцыянавання сістэмы праславянскага дзеяслова.

I клас – аснова на *-e-/*-o-:

1-я асоба адз. л.: *mogǫ (mog-**o**-m), *nesǫ,*pekǫ (pek-**o**-m);

2-я асоба адз. л.: *mož-**e**-ši, *nes-**e**-ši, *peč-**e**-ši;

II клас – аснова на *-ne-/*-no-:

1-я асоба адз. л.: *kinǫ (kid-**no**-m), *stanǫ (sta-**no**-m);

2-я асоба адз. л.: *ki-**ne**-ši, *sta-**ne**-ši;

III клас – аснова на *-je-/*-jo-:

1-я асоба адз. л.: *myjǫ (my-**jo**-m), *xočǫ (xot-**jo**-m);

2-я асоба адз. л.: *my-**je**-ši, *xoč-**je**-ši;

---

[1]Формы цяперашняга і будучага простага часу разглядаюцца разам, паколькі мелі аднолькавыя канчаткі.

IV клас – аснова на *-i-:

1-я асоба адз. л.: *vid-**i**-om > vidjom > *vidžǫ, *xval-**i**-om > *xvaljǫ;

2-я асоба адз. л.: *vid-**i**-ši, *xval-**i**-ši;

V клас – нетэматычныя дзеясловы: *byti, *dadti, *ědti, *vědeti, *imati – **быти, дати, ѣсти, вѣдєти, имати**.

Пакуль катэгорыя трывання не набыла выразнага марфалагічнага выражэння, формы цяперашняга і будучага простага часу не адрозніваліся (табл. 21, 22).

*Табліца 21*

**Спражэнне нетэматычных дзеясловаў у цяперашнім часе**

| Дзеяслоў / Асоба | **быти** | **дати** | **ѣсти** | **вѣдєти** | **имати** |
|---|---|---|---|---|---|
| | Адзіночны лік | | | | |
| 1-я | **єсмь** | **дамь** | **ѣмь** | **вѣмь** | **имамь** |
| 2-я | **єси** | **даси** | **ѣси** | **вѣси** | **имаши** |
| 3-я | **єсть** | **дасть** | **ѣсть** | **вѣсть** | **имать** |
| | Множны лік | | | | |
| 1-я | **єсмъ** | **дамъ** | **ѣмъ** | **вѣмъ** | **имамъ** |
| 2-я | **єстє** | **дастє** | **ѣстє** | **вѣстє** | **иматє** |
| 3-я | **сѹть** | **дадѧть** | **ѣдѧть** | **вѣдѧть** | **имѹть** |
| | Парны лік | | | | |
| 1-я | **єсвѣ** | **давѣ** | **ѣсвѣ** | **вѣвѣ** | **имавѣ** |
| 2–3-я | **єста** | **даста** | **ѣста** | **вѣста** | **имата** |

У працэсе развіцця сістэмы спражэння ад дзеяслова **быти** засталася толькі форма трэцяй асобы адзіночнага ліку – **єсть** > *ёсць*, якая стала выконваць функцыю ўніверсальнай звязкі.

Дзеясловы **дати** і **ѣсти** сталі рознаспрагальнымі, таму што ў першай асобе множнага ліку набылі аналагічныя II спражэнню формы *дадзім, ядзім*, а ў трэцяй асобе множнага ліку – аналагічныя I спражэнню *дадуць, ядуць*.

Дзеясловы **вѣдєти** і **имати** вельмі рана былі заменены блізкімі па значэнні тэматычнымі дзеясловамі **вєдати** і **имєти**.

*Табліца 22*

**Спражэнне тэматычных дзеясловаў у цяперашнім часе**

| Асоба \ Дзеяслоў | нести | печи | читати | ходити |
|---|---|---|---|---|
| | Адзіночны лік | | | |
| 1-я | **несꙋ** | **пекꙋ** | **читаю** | **хожꙋ** |
| 2-я | **несеши** | **печеши** | **читаеши** | **ходиши** |
| 3-я | **несе(ть)** | **пече(ть)** | **читае(ть)** | **ходи(ть)** |
| Асоба \ Дзеяслоў | **нести** | **печи** | **читати** | **ходити** |
| | Множны лік | | | |
| 2-я | **несете** | **печете** | **читаете** | **ходите** |
| 3-я | **несꙋть** | **пекꙋть** | **читають** | **ходять** |
| | Парны лік | | | |
| 1-я | **несевѣ** | **печевѣ** | **читаевѣ** | **ходивѣ** |
| 2–3-я | **несета** | **печета** | **читаета** | **ходита** |

Акрамя заканамерных фанетычных змен, формы цяперашняга часу зведалі скарачэнне апошняга галоснага ў другой асобе адзіночнага ліку: **несеши** > *нясеш*. Формы трэцяй асобы адзіночнага ліку з канцавым **-ть** [ц'] і без яго адпавядаюць асаблівасцям вымаўлення гэтай формы ў розных гаворках. Гутарковага паходжання былі і варыянты першай асобы множнага ліку тыпу **несемо, ходимо**.

У старабеларускім пісьменстве адзначаны марфалагічныя варыянты, выкліканыя іншамоўнымі ўплывамі: польскім – тыпу **вере** 'веру', **се бое** 'баюся', **несемы** 'нясём' і інш.; царкоўнаславянскім – **несетъ** 'нясе', **ходитъ** 'ходзіць'. Акрамя таго, адзначаюцца яшчэ і шматлікія арфаграфічныя варыянты, тыпу **несѫ, читаѭ, несешы, несешъ, несе$^{т}$**.

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Прачытайце ўрывак з Віленскага летапісу. Вызначыце трыванне дзеясловаў і спосабы яго выражэння.

**зъжаливсѧ великыи кн$^{з}$ь скир$^{ѕ}$гаило. поиде[1] з бра$^{т}$ею своею с великы$^{м}$ кнѧземь витовтомъ. и с костѧ$^{н}$тиномъ корбутомъ. и съ се-**

мено$^{м}$. и съ локвене$^{м}$ и помѧну[1] слово божїе. иже рече в ню же мѣру мѣрите ѿмѣри$^{т}$сѧ в немъ[2], а што сѣете то и пожнете.

[1]поиде, помѧнꙋ – формы аорыста перадаюць цэльнае дзеянне, закончанае ў мінулым.

[2]в немъ – апіска, замест вамъ.

З а д а н н е 2. Прачытайце ўрывак з Граматы палачан у Рыгу (1465). Прааналізуйце формы асобы, ліку і ладу.

**А нн҃ѣ оужe да$^{л}$ бг҃ъ тое повѣ҃трие[1] оунѧлосѧ ѿ бж҃ьѧ нароженьѧ и до си$^{х}$ мѣстъ оу на$^{с}$ того нет бг҃ъ помилова$^{л}$ • прото$^{ж}$ што бы ваша мл$^{с}$тъ• наши$^{х}$ полочанъ къ собѣ пускали быхмо проме$^{ж}$ себе торговали, ка$^{к}$ прежь было и сусѣдьство и приꙗзнь мѣли**

[1] повєтриє – 'пошасць, мор, эпідэмія' (ГСБМ. Вып. 25. С. 40).

З а д а н н е 3. Запішыце рэканструяваныя праславянскія формы наступных інфінітываў і назавіце гістарычныя фанетычныя чаргаванні, якія адбыліся ў іх.

**Бегчы, берегчи, вести, дышати, глꙗдети, красти, могчи, мочити, прꙗсти, печи, слушати, тиснути.**

З а д а н н е 4. Супастаўце дзеяслоўныя формы *маю* і *займею*. Вызначыце іх марфалагічную будову і ўтваральныя асновы.

З а д а н н е 5. Адзначце тэматычныя галосныя (дзе яны ёсць) у дзеяслоўных асабовых формах.

**Бросаємъ, бросиши, водимъ, глянеть, говоритє, гониши, дамъ, двинємъ, дѣлаємъ, єси, желаємъ, зритє, имамь, кидаєть, можетє, мокнємъ, просиши, шиєть, ѣстє.**

З а д а н н е 6. Для прапанаваных дзеясловаў вызначыце асновы інфінітыва і цяперашняга часу. Ці заўсёды гэтыя асновы супадаюць?

**Бьрати, везти, нести, носити, давати, дунути, дути, исти, класти, лезти, мести, расти, садити, сажати, ходити, хотети.**

З а д а н н е 7. Вызначыце клас паводле асновы цяперашняга часу прыведзеных дзеясловаў.

**Бегати, бити, быти, важити, видети, водити, вѣдати, вѣдети, в'язати, глянути, давати, дати, имати, имети, лити, крикнути, кричати, мокнути, носити.**

З а д а н н е 8. Прааналізуйце падкрэсленыя формы нетэматычных дзеясловаў у прыкладах са старабеларускіх помнікаў:

1) **ты <u>вєси</u> стєзю и$^{х}$** (Чэцця, 187б);

2) **у пеленкахъ оускормленъ <u>єсмъ</u>, и въ <u>печалехъ</u> великихъ** (Скар. ПБ, 11);

3) єстъли суть правы слова єго (Скар. ПБ, 4б);

4) не вѣмы для которыхъ причинъ то теперъ обводять (АСД, I, 113, 1546);

5) кто вѣсть вѣрѫ твою и дръжить ѡбычаи закона твоего (Арыст., 159);

6) Што прото учинить панъ винницы, приидеть и погубить ратаи и дасьть винницу инымъ (Цяп., 60б);

7) который дей с того постреленя не вем, если жив буде (АВК, XXXVI, 59, 1582);

8) кто щепитъ винницу, а з$^{ѕ}$ овоцу єи не ꙗсть (Апокр., 201б);

9) по$^{т}$равы[1] и$^{х}$ соло$^{д}$ко чинꙗ$^{т}$ а посполите холо$^{д}$ное єдꙗ$^{т}$ (Наб. тур., 24);

10) всю землю которую видишь тобѣ да$^{м}$ и насѣню твоему навѣки (Біблія, 35);

11) Мешо$^{к}$ без гроше$^{ѕ}$ ничого не є$^{ст}$, але дото$^{л}$ єго ховаю$^{т}$ поки в ни$^{м}$ гроши су$^{т}$ (Зб. 261, 205);

12) части естественныи кождого Сакраменту сут$^{ѕ}$ двѣ; то есть: матерыѧ и форма (Зб. вып., 3).

[1]потрава – 'страва' (ГСБМ. Вып. 27. С. 311).

З а д а н н е 9. Перакладзіце на сучасную мову. Растлумачце асаблівасці ўтварэння падкрэсленай дзеяслоўнай формы.

въставъ. идѫ къ оцоу моѥмоу. и рекѫ ѥмоу оче. съгрѣшихъ на нбо и прѣдъ тобоѭ. оуже нѣсмь достоинъ нарештисѧ сынъ твои. (Астр. Ев., л. 118).

З а д а н н е 10. У наступных прыкладах прааналізуйце падкрэсленыя формы і размяжуйце дзеясловы дати і давати.

1) маєтъ мыто платити черезъ вси мыта положоныє, какъ и иншыє дають мыто (АЗР, I, 24, 1388);

2) не зара$^{з}$ єдꙗ$^{т}$ ꙗ$^{к}$ даду$^{т}$, ажъ въсѣ$^{м}$ роздаду$^{т}$ (Зб. 261, 91б);

3) На томъ камени збудую церковъ мою, и ворота пекельныє не здолеють єє. И дамъ тобє ключи королевства небесного (Цяп., 22б);

4) ѡчи всѣх на тѧ уповают и ты даєшь пищу им во блго врема (Зб. 261, 97б);

5) єсли онъ даєтъ: хто$^{ж}$ им$^{ѕ}$ ѿнѧти єє можеть (Карп., 27б);

6) хтоколвекъ дасть напитисѧ ѡдному з$^{ѕ}$ тыхъ менших кубо$^{к}$ зимнои воды, толко по$^{д}$ имѣн$^{ѕ}$ем оученика, не згубитъ заплаты своеи (Варл., 73).

З а д а н н е 11. Прааналізуйце старабеларускія формы дзеясловаў цяперашняга і будучага простага часу і адзначце змены ў афармленні іх канчаткаў; па магчымасці растлумачце з'яўленне варыянтаў.

1) **О всемъ о томъ хочомъ помыслити съ паны радою нашою и своимъ посломъ откажомъ** (КЗ, 344, 1480);

2) **внегда ѿидеш^s ѿтуду и далей пойдешъ и придеш^s къ дубу** (Скар. ПЦ, 20б);

3) **Которому Атыла ѿказалъ: ꙗ естэмъ король угорскии** (Атыла, 199);

4) **А тую вольность которю се тешимо в целости нам заховати** (Ст. 1588, прадм.);

5) **простый а чистый живот ведемы, грѣхов не полнимо, ани хочемы их назбыт мѣти** (Бельск., 178);

6) **коли даемо, тогды прiймꙋемо, а коли роздаемо, тогды збираемо** (Калiст, 160б).

З а д а н н е 12. У наступных прыкладах са старабеларускіх пісьмовых помнікаў прааналізуйце дзеясловы: вызначыце пачатковую форму, трыванне, лад, час, асобу, лік.

1) **берутъ въ то^s пущы Сверженьско^s и за Немномъ... лубъе, лыка, вязье на потребу** (КСД, 853, 1514);

2) **видишь сучок^s, котории въ оце брата твоего, а бервена которое е^ст въ оку твоемъ не чуешъ** (Цяп., 8б);

3) **по доброй воли своей, улюбивши початокъ справы доброе... симъ нашимъ... листомъ записуемъ** (АВК, XI, 56, 1594);

4) **алеѯанде^р коли хоче с ки^м валчи^т, не шле пано^в ани кнꙗжа^т свои^х, але самъ ѡбличне приступуе ку битвѣ** (Алекс., 13б);

5) **коли языкъ мовитъ то, што хочетъ, не къ дѣлу, то тежъ уши мусять услышати то, што имъ невдячно и нелюбо бываетъ** (АЗР, V, 32, 1637).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

Адносіны дзеяння да спосабу працякання ў часе паказвае граматычныя катэгорыя:

1) часу;
2) ладу;
3) стану;
4) трывання;
5) асобы.

**2.** Адзначце правільны адказ.

Адносіны дзеяння або стану да рэчаіснасці паказвае граматычная катэгорыя:

1) часу;
2) ладу;
3) стану;
4) трывання;
5) асобы.

**3.** Адзначце правільны адказ.

Удзельнікам дыялогу проціпастаўлена дзеяслоўная форма адзіночнага і множнага ліку:

1) першай асобы;
2) другой асобы;
3) трэцяй асобы.

**4.** Адзначце правільны адказ.

Проціпастаўленне актыўнай функцыі суб'екта і яго прыметы, якая з'яўляецца вынікам знешняга ўздзеяння, выражае дзеяслоўная катэгорыя:

1) часу;
2) ладу;
3) стану;
4) трывання;
5) асобы.

**5.** Адзначце ўсе нетэматычныя дзеясловы.

1) **вєзти**;
2) **ѣсти**;
3) **рєчи**;
4) **дати**;
5) **бити**;
6) **быти**;
7) **имати**;
8) **имєти**;
9) **вѣдати**;
10) **вѣдѣти**.

**6.** Адзначце ўсе дзеясловы, у якіх аснова інфінітыва і аснова цяперашняга часу супадаюць.

1) **дѹнѹти**;
2) **идти**;
3) **мыти**;
4) **лѣзти**;
5) **бьрати**.

**7.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У прыведзеным прыкладзе дзеяслову (1) адпавядае інфінітыў... (а, б, в), а дзеяслову (2) – інфінітыў... (г, д, е).

**онъ жє рєчє. нє плачитєсѧ. ну҃ѣстъ** (1) **оумрьла дв҃ца нъ съпить** (2) (Астр. Ев., л. 111 адв.).

а) **нєсти**;
б) **быти**;
в) **ѣсти**;
г) **сопєти**;
д) **съпити**;
е) **съпати**.

**8.** Адзначце правільны адказ.

*Ямо хлеб траякі*: *чорны, белы і ніякі* (нар.).

Падкрэслены граматычны дыялектызм паходзіць са старажытнай формы:

1) **ѣмъ**; 4) **имамъ**;
2) **ѣмь**; 5) **маємъ**.
3) **ѣдимъ**;

**9.** Адзначце правільны адказ.

Маю, маю сто рублёў грошы.
Недзе размяніць (нар.).

Падкрэсленая форма першай асобы адзіночнага ліку ўтворана ад старажытнага дзеяслова:

1) **маяти**; 4) **снимати**;
2) **имати**; 5) **манити**.
3) **мяти**;

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Дзеяслоў **имати** ўжыты ў першаснай (традыцыйнай) форме (як нетэматычны) у сказах:

1) **Рукоесть, где рукою имаємо и держимо** (Бяр., 141);

2) **Которого то сунклита ни wгон ани желѣзо нє имаєт** (Кн. Мак., 46);

3) **Главизна ·а҃· имать врата четвєра** (Арыст., 140);

4) **Того зелиа чего имаєшь поживати** (Арыст., 151);

5) **ѿ устъ твоихъ жадноє слово порожноє нє вы$^{ш}$ло, котороє има$^{м}$ заховати** (Зб. 752, 13б).

Тэма 12

# Сістэма формаў прошлага часу і яе гісторыя

Паколькі ў старажытнасці не было дакладнага фармальнага выражэння катэгорыі трывання, формы часу дзеяслова паказвалі не толькі на суаднесенасць дзеяння з момантам гутаркі (апавядання), але і на спосабы яго працякання. У прыватнасці, прошлы час выражаўся чатырма формамі. Кожная з іх паказвала на дзеянне, якое папярэднічала моманту гутаркі, але адрознівалася спецыфічнымі адценнямі значэння і мела свае спосабы выражэння. Паводле ўтварэння формы прошлага часу падзяляліся на *простыя* (аорыст, імперфект) і *складаныя* (перфект, плюсквамперфект). Складаныя формы ў сваёй структуры мелі дапаможны дзеяслоў.

Самай распаўсюджанай формай прошлага часу быў ***аорыст*** (ад грэч. αοριςτος – ‘няпэўны, неабмежаваны’). Як вядома, у старaславянскай мове існавалі сігматычны і несігматычны аорысты (з суфіксам *-s- і без яго). Ва ўсходнеславянскіх старажытных пісьмовых помніках адлюстраваны толькі сігматычны аорыст, аднак ад простага (несігматычнага) ён узяў формы другой і трэцяй асобы адзіночнага ліку.

Утвараўся аорыст ад праславянскай асновы інфінітыва: *pek-ti > **пекохъ**, *beg-ti > **бегохъ**.

Дзеяслоў **быти** меў два варыянты: адзін паходзіў ад асновы інфінітыва (**быхъ, бы, быхомъ**...), другі – ад асновы імперфекта **бѣ**- (**бѣхъ, бѣ, бѣхомъ**...). Апошні варыянт удзельнічаў ва ўтварэнні складаных формаў часу. Яшчэ ў праславянскі перыяд у пэўных формах узніклі чаргаванні суфікса *-s-/*-x-/*-š-. Узоры спражэння нетэматычнага і тэматычнага дзеясловаў прадстаўлены ў табл. 23.

*Табліца 23*

**Спражэнне ў аорысце дзеясловаў**
**быти і нести**

<table>
<tr><th>Асоба</th><th>Адзіночны лік</th><th>Множны лік</th><th>Парны лік</th></tr>
<tr><td>1-я</td><td>быхъ<br>несохъ</td><td>быхомъ<br>несохомъ</td><td>быховѣ<br>несоховѣ</td></tr>
<tr><td>2-я</td><td rowspan="2">бѣ, бы<br>несе</td><td>быстe несостe</td><td rowspan="2">быста<br>несоста</td></tr>
<tr><td>3-я</td><td>быша несоша</td></tr>
</table>

Тэматычныя дзеясловы ў аорысце адрозніваліся наяўнасцю тэматычнага галоснага: **пекохъ, читахъ, ходихъ; пече, чита, ходи; пекохомъ, читахомъ, ходихомъ** і г. д.

***Імперфект*** (ад лац. *imperfectum* – 'незакончаны') утвараўся ад асновы інфінітыва з дапамогай суфікса *-ěах-. У праславянскі перыяд у ім узнікла чаргаванне *х//*š. Ва ўсходнеславянскіх помніках адлюстраваліся сцягнутыя формы суфікса імперфекта: **-ѣахъ-** (асіміляцыя) > **-аахъ-** (сцяжэнне) > **-ахъ-**. Асабова-лікавая парадыгма імперфекта прадстаўлена ў табл. 24.

*Табліца 24*

**Спражэнне ў імперфекце дзеясловаў**
**быти і нести**

<table>
<tr><th>Асоба</th><th>Адзіночны лік</th><th>Множны лік</th><th>Парны лік</th></tr>
<tr><td>1-я</td><td>бꙗхъ<br>несахъ</td><td>бꙗхомъ<br>несахомъ</td><td>бꙗховѣ<br>несаховѣ</td></tr>
<tr><td>2-я</td><td rowspan="2">бꙗше<br>несаше</td><td>бꙗсте<br>несасте</td><td rowspan="2">бꙗста<br>несаста</td></tr>
<tr><td>3-я</td><td>бꙗхꙋ(ть)<br>несахꙋ(ть)</td></tr>
</table>

Перад суфіксальным [ě] (яць) (> [а]) адбывалася I палаталізацыя: **печахъ, бежахъ.**

Праяўленнем кніжна-славянскай традыцыі ў старабеларускім пісьменстве з'яўляюцца варыянты тыпу **несѣахъ** і **несаахъ.**

І аорыст, і імперфект абазначалі дзеянне, здзейсненае ў мінулым. Адрозніваліся гэтыя формы характарыстыкай працякання дзеяння:

1) ***аорыст*** называў цэльнае непарыўнае дзеянне, якое мыслілася як адзін акт: **Дроуцкыи кнзи стретоша его и оудариша емоу челомъ оу слоужбоу** (Увар., 94) – 'аднойчы сустрэлі... і пакляліся служыць';

2) ***імперфект*** перадаваў дзеянне складанае, працяглае, паўтаральнае, паэтапнае: **ємѹ мл$^{с}$тни <u>давахѹ</u> людиє и ѡнъ то всє нищи$^{м}$ <u>раздавашє</u>** (Чэцця, 148) – ‘шмат разоў давалі і ён заўсёды раздаваў’.

Аорыст і імперфект паступова перасталі выкарыстоўвацца. Найчасцей яны сустракаліся ў рэлігійных і летапісных помніках.

Працэс выхаду з ужытку аорыста адзначыўся цікавымі фактамі ў пазнейшых спісах беларускіх летапісаў: **кнѧ$^{з}$ великыи ѧгаило <u>поведє$^{т}$</u> єго оѵ ве$^{л}$ми высокы$^{х}$ и <u>дасть</u> за него сестрѹ свою** (Віл., 439) – тут паводле значэння – прошлы час, а паводле формы – цяперашне-будучы (параўн. аорысты **поведє**, **да**). Падабенства з гутарковымі *павядзе*, *нясе* падштурхнула перапісчыка дапісаць ім **-ть**, каб было падобна на літаратурны канчатак. Такія змененыя формы сустракаюцца толькі ў трэцяй асобе адзіночнага ліку, дзе аорыст заканчваўся на галосны.

У сучаснай мове напамінкам пра аорыст з’яўляецца формаўтваральная часціца *бы* (раней умоўны лад утвараўся з дапаможным дзеясловам **быти** ў форме аорыста). Рускі лінгвіст А. А. Шахматаў звязваў з аорыстам аддзеяслоўныя выклічнікі, якія выступаюць у ролі выказніка (*бац*, *гоп*, *плюх*, *скок*, *хлоп*, *шмыг*).

Імперфект не пакінуў ніякіх слядоў у сучаснай беларускай мове.

У складаных формах прошлага часу асноўнае лексічнае значэнне перадаваў дзеепрыметнік з суфіксам **-л-** (элавы дзеепрыметнік), ён жа паказваў на род і лік. Дзеяслоўныя катэгорыі асобы і ліку выражаліся праз дапаможны деяслоў **быти**.

***Перфект*** абазначаў мінулае дзеянне, звязанае з цяперашнім момантам (дзеянне, якое закончылася ў момант гутаркі), дапаможны дзеяслоў пры гэтым стаяў у форме цяперашняга часу (табл. 25). Адпаведна дзеяслоў **быти** ў перфекце меў формы: **єсмь былъ, -а, -о**; **єси былъ, -а, -о** і г. д.

*Табліца 25*

**Спражэнне дзеяслова несті ў перфекце**

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік | Парны лік |
|---|---|---|---|
| 1-я | **єсмь неслъ, -а, -о** | **єсмъ несли** | **єсвѣ несла, -ѣ** |
| 2-я | **єси неслъ, -а, -о** | **єстє несли** | **єста несла, -ѣ** |
| 3-я | **єсть неслъ, -а, -о** | **сѹть несли** | |

***Плюсквамперфект*** паказваў мінулае дзеянне, якое папярэднічала іншаму мінуламу дзеянню. Ён утвараўся аналагічна перфекту, толькі дапаможны дзеяслоў ставіўся ў форме прошлага часу. Гісто-

рыя ведае два віды плюсквамперфекта: ранейшы і пазнейшы. У ранейшым плюсквамперфекце дапаможны дзеяслоў стаяў у форме аднаго з простых прошлых часоў: аорысце (**бѣ неслъ, -а, -о** і г. д.) або імперфекце (**бꙗхъ неслъ, -а, -о** і г. д.). Пазнейшы плюсквамперфект утварыўся ў той час, калі аорыст і імперфект выйшлі з ужытку і былі замененены перфектам. Такім чынам, пазнейшы плюсквамперфект – трохчленны: **есмь былъ неслъ, еси былъ неслъ, есть былъ неслъ, есмъ были несли** і г. д. Двучленны плюсквамперфект ў старабеларускім пісьменстве не сустракаецца.

Наступнае змяненне ў формах перфекта і плюсквамперфекта аднолькавае – спрашчэнне формы цяперашняга часу дапаможнага дзеясловае. Самым раннім пацвярджэннем гэтаму з’яўляецца надпіс на Тмутараканскім камені 1068 г.: **Глѣбъ кнѧзь мѣрилъ море по леду ѿ тъмуторокана до кърчева ·҂і· и ·҂д· саже** (нъ) – звязкі **есть** пры элавым дзеепрыметніку **мѣрилъ** няма, на асобу паказваць не трэба, бо яна ў сказе названа – гэта дзейнік **Глѣбъ кнѧзь.** У далейшым страта звязкі прывяла да павышэння частотнасці ўжывання асабовых займеннікаў.

Адпаведна спрашчаецца звязка і ў плюсквамперфекце: **кнѧз великыи ѧгаило** **<u>даⷧ҇ былъ</u>** **полтескъ брату своему кнѧзю скирикгаилоу** (Віл., 439) – традыцыйная форма выказніка была б тут **есть былъ далъ.**

Фанетычныя змены адлюстраваны ў формах элавага дзеепрыметніка: у старажытных усходнеславянскіх гаворках спрасціліся *d, *t на канцы асноў перад суфіксам *-l- (*šedlъ > **шелъ**, *pletlъ > **плелъ**); пасля страты рэдукаваных у асновах на зычны спрасціўся -**л**- (**неслъ** > *нёс*, **везлъ** > *вёз*), у асновах на галосны ўтварыўся [ў] (**носилъ** > *насіў*, **ходилъ** > *хадзіў*).

Развіццё формаў *прошлага часу* ў старабеларускай мове мае свае асаблівасці:

1) пад уплывам гутарковай мовы змянілася форма звязкі: для першай асобы адзіночнага ліку – **есмь** > **есми**; множнага ліку – **есмъ** > **есмы, есмо**; для другой асобы адзіночнга ліку – **еси** > **естесь** (параўн. польск. *jesteś*) і скарочаная **есь**;

2) звязка магла зліваццa з дзеепрыметнікам, утвараючы так званую сінтэтычную форму: **еси читалъ** > **читалесь, есмо видели** > **виделисмо**;

3) звязка магла далучацца як постфікс да любога (часцей першага) знамянальнага слова фразы, у якой гаварылася пра мінулае дзеянне: **Ледво<u>смы</u> <u>ушли</u> рукъ неприꙗтельскихъ** (Алекс., 23б).

Старабеларускія кніжнікі выпрацоўвалі і свае індывідуальныя граматычныя прыёмы. Так, у Скарыны адзначаны кантамінаваныя

(гібрыдныя) формы аорыста і перфекта: **Истинна суть словеса еже** <u>**слышалахъ**</u> **в земли моей** (Скар. ТЦ, 149б) – ‘праўдзівыя словы, якія я чула ў зямлі маёй’ (**слышалахъ** < перфект **есмь слышала** і аорыст **азъ слышахъ**).

На працягу гістарычнага развіцця перфект і плюсквамперфект відазмяніліся. У граматыках сучаснай беларускай мовы прынята называць перфект прошлым часам, а плюсквамперфект – складанай формай прошлага часу. Пры гэтым адзначаецца, што складаныя формы прошлага часу з’яўляюцца рэдкаўжывальнымі з-за спецыфічнасці кантэкстаў, дзе яны да месца.

## ЗАДАННІ

Заданне 1. Выкарыстоўваючы прапанаваныя дзеясловы, утварыце адпаведныя формы аорыста і імперфекта, праспрагайце іх.

**Дѣлати, вести, водити, коупити, мочи, почати, речи.**

Заданне 2. Прачытайце прыклад з Бібліі ў перакладзе Фрацыска Скарыны. Вызначыце пачатковую форму, час, асобу і лік дзеясловаў у сказах. Патлумачце адрозненні ў семантыцы формаў аорыста і імперфекта.

1) **Взявъ же давыдъ ризы своя раз͛дра е на собѣ** (ДЦ, 66б–67);
2) **моисея нароженого хранячу родители его** (КВ, 12б);
3) **вси слузи цареви тешиху его** (КЕ, 23б);
4) **Царь не можаше спати** (КЕ, 11б);
5) **Азъ видехъ безумнаго** (КІ, 9);
6) **Не молвисте предо мною правды** (Кі, 50б);
7) **иже**[1] **бѣ шостыи по цари Навходоносоре** (КЮ, 1);
8) **И живяху ту летъ десеть • И умроста оба Маалонъ и Хелионъ** (КР, 1б);
9) **дщери его ядаху и пияху вино** (КІ, 5).

[1]**иже** – ‘які, каторы’ (ГСМБ. Вып. 14. С. 22).

Заданне 3. Прааналізуйце спрагальныя формы дзеясловаў ва ўрыўку з Супрасльскага летапісу XV ст.

**придоша послы изь города Москвы ѿ великого кнзя Василия Дмитриевича. прося дьщери кнзя Витовтовы за великого кнзя Василия Дмитриевича. кнзь великыи Витовтъ дасть дщеръ свою кнжьню Софию, ѿпоусти ея из Марина города. а с нею посла кнзя Ивана Олигимонтовича. из град Данска. и поидоша к граду Псковоу. они же великы чти воздаша имь. и проводиша их со честию до град Москвы к великомоу Василию Дмитриевичь** (Хрэстам. С. 125–126).

З а д а н н е 4. Прааналізуйце простыя формы прошлага часу ва ўрыўку з Жыція Ефрасінні Полацкай па спісе XV ст.

**бы$^{с}$ кн$^{ѕѕ}$ь в поло$^{т}$сцѣ гр҃адѣ • имене$^{м}$ всеславъ и тъи имѣѧше с҃ны мн҃огы • и бѣаше ꙋ него с҃нъ именем геѡргїи • ѿ него же родисѧ си бл҃жнаꙗ ѡтроковица • ро$^{ди}$т҃елѧ же еѧ возрадоваста сѧ ѡ рж$^{с}$твѣ еѧ • со всѣ$^{м}$ домо$^{м}$ с҃вои$^{м}$ • по д҃нѣ$^{х}$ тѣ$^{х}$ повелѣста ю крестити кр$^{с}$тиша ю в҃о имѧ ѿца и с҃на и с҃тго д҃ха и питома бѣаше доилицею[1] своею д҃нь ѿ д҃ни • р҃астѧше ѡтроковица • тѣло млеко$^{м}$ питаемо растѧше • а д҃ша с҃тго д҃ха наполнѧшесѧ** (Хрэстам. С. 72).

---

[1]**доилица** – ‘карміцелька’ (ГСБМ. Вып. 8. С. 212).

З а д а н н е 5. Вядома, што ў летапісах апісваюцца мінулыя падзеі. Растлумачце ўтварэнне формаў часу ў прыведзеным урыўку з Віленскага спісу летапісу.

**кнѧ$^{з}$ великыи пакъ кестꙋтеи • събрав$^{с}$ъ съ всими вои своими • и вженеть[1] оꙋ вилню • и иметь[2] велико$^{г}$ кнѧзѧ ѩгаила • и с матерью его и҃ зъ братьею, и грамоты наидеть, што с нѣмъци записалисѧ[3] • къ с҃ноꙋ своемоꙋ гонца пошлеть•**

---

[1]**вженꙋти** – ‘увагнаць; уварвацца’ (ГСБМ. Вып. 3. С. 173).

[2]**имети** – тут у значэнні ‘ўзяць, паланіць’.

[3]**записатися** –‘даць пісьмовае абавязацельства, заключыць дамову’ (Там жа. Вып. 11. С. 78–79).

З а д а н н е 6. Растлумачце паходжанне формы дзеяслова ў прыведзеным фразеалагізме.

Адным махам семярых пабівахам (нар.).

З а д а н н е 7. Утварыце формы перфекта і плюсквамперфекта ад прапанаваных дзеясловаў.

**Дѣлати, вести, водити, коупити, мочи, почати, речи.**

З а д а н н е 8. Евангелле Васіля Цяпінскага мае паралельныя тэксты: царкоўнаславянскі і старабеларускі. Супастаўце ў прыведзеных урыўках ужыванне формаў прошлага часу.

| Царкоўнаславянскі тэкст | Старабеларускі тэкст |
|---|---|
| **Человекъ некий бѣ домовить. Иже насади виноградъ, и оплотомъ огради его. И ископа в нѣмъ точило; и созъда столъпъ. и въдасьть его делателемъ, и ѿиде** | **ч҃лвекъ некотории былъ домовыи. котории насадилъ винницꙋ. и огородилъ ее. и выкопалъ в неи тискъ[1]. и збꙋдовалъ свиренъ. и порꙋчїлъ его роботникомъ и отышолъ** |

---

[1]**тискъ** – ‘прыстасаванне для выціскання соку з вінаграду’ (ГСБМ. Вып. 33. С. 38).

З а д а н н е 9. Дайце тлумачэнні формам перфекта ва ўрыўку з «Дыярыуша» Афанасія Філіповіча. Звярніце ўвагу на абазначэнне ўтваральніка дзеяння.

**А гды взышло солнце, заразъ за солнцемъ, обачилемъ на небѣ крестъ, и въ немъ образъ Пречистои Богородици зъ Дитяткомъ, на кшталтъ Купятицкого, променями слонечными выритый и обточоный. И гдымъ на него не мало смотрѣлъ здумѣваючися, хотѣлемъ указати тотъ чудъ Божїй и послушникови моему Онисиму. Онъ, зо сну порвавшися, почалъ коня бити, а въ томъ образъ на небѣ невидимъ зосталъ...** (Хрэстам. С. 423).

З а д а н н е 10. У прыкладах з пісьмовых помнікаў прааналізуйце формы перфекта (адзначце пачатковую форму, асобу, род, лік) і патлумачце асаблівасці ў іх выкарыстанні, характэрныя для старабеларускага перыяду.

1) **те вси речи... розсказали есмо по торгомъ и мѣстамъ нашимъ явнѣ выволати** (СДГВ, 68, 1539);

2) **добылъ еси зе$^{\text{м}}$ли подольское** (Рач., 130);

3) **Ѿповѣдаючи Симонъ реклъ ему, оучителю, цалую ночъ працовавши нѣчогосмо не уловили** (Каліст, ii, 103б);

4) **Быле$^{\text{м}}$ в$^{ѕ}$ ѡковахъ пре$^{\text{з}}$ ро$^{\text{к}}$ и болшъ** (Дыяр., 158б);

5) **слышалесь, што ми баламут$^{ѕ}$ тотъ прави$^{\text{л}}$, хотѧчи мѧ хитрым$^{\text{и}}$ словами своими оуловити** (Варл., 181);

6) **дитꙗ ѡное нѣмо было и не моглъ мови$^{\text{т}}$ през лѣтъ є҃. А пото$^{\text{мъ}}$ мовило мама, мама** (Зб. 752, 6).

З а д а н н е 11. У прыведзеных прыкладах знайдзіце формы плюсквамперфекта, вызначыце, ад якога дзеяслова яны ўтвораны.

1) **ажъ говорити не могъла... заню$^{\text{ж}}$ ꙗзы$^{\text{к}}$ пред силною жалостїю оуже бы$^{\text{л}}$ страти$^{\text{л}}$ оусю силоу говоренїа** (Пак. Хр., 11);

2) **было тое, и$^{\text{ж}}$ е$^{\text{с}}$ми в тебе тыи три копы грош$^{\text{ей}}$ былъ позычилъ, але есми тобе ихъ заплатилъ** (КВЗС, 47б);

3) **оусе што ис собою бы$^{\text{л}}$ принеслъ оубоги$^{\text{м}}$ розда$^{\text{л}}$** (Жыц. Ал., 97б);

4) **сам$^{ѕ}$ впалъ в тую ꙗму, которую был$^{ѕ}$ выкопал$^{ѕ}$ и в сѣть оувѧзъ, которую былъ скрите наготовалъ** (Варл., 234).

З а д а н н е 12. Прааналізуйце формы прошлага часу ва ўрыўках з летапісу другой паловы XVI ст. па спісу Сангушкаў з Вавельскага архіва.

1. **Пе$^{\text{т}}$рь Кгашто$^{\text{лт}}$ приве$^{\text{л}}$ иншы$^{\text{х}}$ мнихо$^{\text{в}}$[1] фра$^{\text{н}}$цышко$^{\text{в}}$, и не сме$^{\text{л}}$ вже на то$^{\text{м}}$ ме$^{\text{ст}}$цы кляштора и$^{\text{м}}$ будовати, где пе$^{\text{р}}$ве$^{\text{н}}$ покажено[2], и $^{\text{в}}$чини$^{\text{л}}$ и$^{\text{м}}$ кляшто$^{\text{р}}$[3] на то$^{\text{м}}$ ме$^{\text{ст}}$цы, где бы$^{\text{л}}$ собе до$^{\text{м}}$ збудова$^{\text{л}}$ на песко$^{\text{х}}$ на$^{\text{д}}$ Вин$^{\text{к}}$ром, где тепе$^{\text{р}}$ кляшто$^{\text{р}}$ Ма$^{\text{т}}$ки Бо$^{\text{з}}$скии стои$^{\text{т}}$, и Ѿ ты$^{\text{х}}$ ча-**

**со$^{в}$ ста$^{л}$ пє$^{р}$ши$^{и}$ кляшто$^{р}$ хрє$^{с}$тия$^{н}$ски$^{и}$ ры$^{м}$ского закону у Ви$^{л}$ни мниши Ма$^{т}$ки Бо$^{ж}$ски$^{и}$...** (С. 299).

---

[1]**мнихъ францышекъ** – тут у значэнні ‘манах-францысканец’.

[2]**показити** – ‘знішчыць, папсаваць’; тут – ‘скалечыць’ (ГСБМ. Вып. 26. С. 42).

[3]**кляштор** – ‘манастыр (звычайна каталіцкі)’ (Там жа. Вып. 15. С. 137).

2. **кнзь велик$^{и}$ Ꙗкго$^{и}$ло дꙗдю своєго, кнзꙗ велико$^{г}$ Кє$^{с}$тутꙗ, ѡкова$^{в}$ши к Крєву посла$^{л}$ и всади$^{л}$ у вежу, а кнзꙗ великого Вито$^{л}$та ѡ$^{с}$тави$^{л}$ бы$^{л}$ єще у Ви$^{л}$ни, и та$^{м}$ пꙗтоє ночи у Крєвє великого кнзя Кєсту$^{т}$ꙗ удавили комо$^{р}$ники[1] кнзя великого Ꙗкго$^{и}$ловы, на $^{и}$мꙗ Про$^{к}$ша, што воду єму дава$^{л}$, а были иныє: Мосто$^{л}$ брат, а Кучу$^{к}$, а Лисица жибє$^{н}$тꙗ$^{и}$[2]. Тако$^{в}$ конє$^{ц}$ ста$^{л}$сꙗ великому кнзю Кє$^{с}$ту$^{т}$ю** (С. 313–314).

---

[1]**каморникъ** – ‘княжацкі пакаёвы слуга’ (ГСБМ. Вып. 15. С. 245).

[2]**жибєнтꙗй** – ‘асоба, якая забяспечвала двор палівам і асвятленнем’ (Там жа. Вып. 10. С. 11).

З а д а н н е 13. Растлумачце ўтварэнне падкрэсленай формы прошлага часу.

**До желѣза <u>прировнялихмо</u> ср$^{д}$це длꙗ невѣдомости речій** (Мак., 320).

З а д а н н е 14. Ахарактарызуйце формы дзеясловаў прошлага часу ў вершы Кандрата Крапівы.

Хто сустрэўся быў са мною,
Дакрануўся раз ці два,
Дык той ведае ўжо, хто я:
Я – пякучка-крапіва.

З а д а н н е 15. Многія народныя казкі пачынаюцца словамі *жылі-былі*. Як утварыўся гэты выраз?

## ТЭСТ

**1.** Складзіце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

Форма прошлага часу – ... (1, 2, 3, 4) – па структуры... (а, б) і абазначае дзеянне... (в, г, д, е).

| | |
|---|---|
| 1) аорыст; | а) простая; |
| 2) імперфект; | б) складаная; |
| 3) перфект; | в) мінулае паэтапнае; |
| 4) плюсквамперфект; | г) папярэднемінулае; |
| | д) мінулае цэльнае, непарыўнае; |
| | е) мінулае з вынікам у сучасным. |

**2.** Складзіце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні пра лёс розных формаў прошлага часу.

... (1, 2, 3, 4) у сучаснай беларускай мове... (а, б, в, г).

1) аорыст;
2) імперфект;
3) перфект;
4) плюсквамперфект;

а) не пакінуў ніякіх слядоў;
б) стаў абазначаць мінулае ўвогуле дзеянне;
в) рэдкаўжывальны з-за спецыфічнасці кантэкстаў;
г) утварае формы аднаго з ірэальных ладоў.

**3.** Адзначце правільны адказ.

**Ходихомъ по пꙋтехъ тѧжких, пꙋтѧ же гcдньнѧ не познахомъ** (Скар. ПБ, 8).

У прыведзеным сказе дзеясловы ўжыты ў форме:

1) інфінітыва;
2) аорыста;
3) імперфекта;
4) перфекта;
5) плюсквамперфекта.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

**Гдѣ сокрыю множество грѣховъ моихъ и што преѡбретоша ѿ҃ца моіѥго братьꙗ. и н҃нѣ о҃ць мои гдѣ єсть** (Чэцця, 238б).

У прыведзеным тэксце ўжыты дзеяслоўныя формы:

1) цяперашне-будучага часу;
2) аорыста;
3) імперфекта;
4) перфекта;
5) плюсквамперфекта.

**5.** Складзіце адпаведнасці так, каб атрымалася правільнае выказванне.

**И посъла рабы своѩ призъвати зъваныя на бракъ • и не хотѧахѫ прити** (Астр. Ев., л. 80 адв.).

У прыведзеным сказе ў форме імперфекта ўжыты дзеяслоў... (1, 2, 3, 4, 5). Гэта форма імперфекта з’яўляецца... (а, б, в).

| | |
|---|---|
| 1) **посълати**; | а) размоўнай; |
| 2) **призъвати**; | б) кніжна-славянскай; |
| 3) **звати**; | в) старабеларускай. |
| 4) **хотѣти**; | |
| 5) **прити**; | |

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Перфект выступае ў традыцыйнай форме ў сказах:

1) **Во многѣхъ же времѧнѣх • сѣли суть словени по Дунаеви** (Лаўр. лет., л. 2 адв.);

2) **Того лет коли альбрахтъ влдка ризскии оумьрлъ** (Гр. 1229);

3) **А се ıа всеволодъ далъ ıесмь блюдо серебрьно** (Гр. 1300);

4) **Горожанинъ фредерикъ продалъ члвку мехъ соли** (Гр. 1300);

5) **И ныне пришли предъ насъ наши горожане и то намъ поведали** (Гр. 1300).

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Дапаможны дзеяслоў у форме перфекта паказвае на першую асобу ў сказах:

1) **Та два была послъмъ оу ризѣ** (Гр. 1229);

2) **Вѣдомо буди какъ миръ есмы створили** (Гр. 1264);

3) **ныне новую правду ставишь • как то есме не чювали ѿ штчичовъ • ни ѿ дѣдовъ • ни ѿ прадѣдовъ** (Гр. 1300);

4) **богъ вѣ ни с кимъ сѧ есми не радилъ** (Трыст., 11);

5) **быдло... забралъ еси на пашы** (АВК, XXXI, 378, 1669).

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Формы перфекта ўжыты ў прыкладах:

1) **Никакъ собе инакъ въ мысли не мысльте** (КЗ, 339, 1481);

2) **ни ѡдное речи ıазыкъ не может вымолвити** (Пак. Хр., 11);

3) **Умывах следы мои маслом и скала иже со мною ѡбливаласѧ реками ѡленными** (Зб. 262, 24);

4) **былъ голод в земли** (Зб. 262, 31);

5) **муку пшеничную, олѣй, медъ ѣла еси** (Мак., 126).

**9.** Адзначце правільны адказ.

**Понеже грады их казилъ и храмы боговъ их роскопалъ. ıако же былъ приказалъ ему Навходоносоръ Царь...** (Скар. КЮ, 6).

У прыведзеным прыкладзе выступае плюсквамперфект дзеяслова, які мае форму інфінітыва:

1) **казити;**

2) **роскопати;**

3) **быти;**

4) **приказати.**

**10.** Адзначце правільны адказ.

Я нават спусціўся быў уніз прыступак на пятнаццаць, але дзверы за спінаю жаласна заспявалі, я пабег да іх і якраз своечасова паспеў прытрымаць іх нагою, каб яны не захлопнуліся (*У. Караткевіч.* «Дзікае паляванне караля Стаха»).

У прыведзеным сказе ўжыта адпаведная плюсквамперфекту форма дзеяслова:

| | | |
|---|---|---|
| 1) спусціцца; | 3) пабегчы; | 5) прытрымаць; |
| 2) заспяваць | 4) паспець; | 6) захлопнуцца. |

## Тэма 13

# Формы будучага часу. Ірэальныя лады

***Будучы просты*** ў плане выражэння не адрозніваўся ад цяперашняга: меў тыя ж самыя канчаткі. Сёння аднесенасць дзеяння да будучага часу абумоўлена наяўнасцю ў дзеяслова закончанага трывання. Марфалагічнае выражэнне трыванне набыло параўнальна позна, але ўжо к XIV–XV стст. усе прыставачныя дзеясловы набылі значэнне дзеяння, якое адбудзецца. Параўн.: **тои стоить за стеною смотрить про окно** (Скар. ПП, 4б); **слышꙋ, ижь ѡнъ того чл҃вка вывелъ на границꙋ** (КСД. 7, 1510) – дзеясловы беспрыставачныя, маюць значэнне цяперашняга часу; **чинимъ знаменто сімъ наши$^{м}$ листомъ, хто на нь посмотри$^{т}$ или чтꙋчи ꙋслыши$^{т}$** (Судз. Каз. 1468) – прыставачныя дзеясловы, абазначаюць будучы час. У старабеларускім пісьменстве пры выражэнні будучага часу дзеясловы набывалі тыя ж варыянтныя канчаткі, што выкарыстоўваліся ў формах цяперашняга часу: для другой асобы адзіночнага ліку – **-ши/-шь/-шъ**, першай асобы множнага ліку – **-мъ/-мо/-мы**, трэцяй асобы множнага ліку – **-ꙋть(-ють)/-ꙋтъ(-ютъ)** і г. д.

Дзеясловы незакончанага трывання ўтваралі *аналітычныя* формы будучага часу – ***будучага складанага I*** (або ***будучага абсалютнага***) – шляхам спалучэння формы цяперашне-будучага часу дапаможнага дзеяслова з інфінітывам асноўнага дзеяслова. Пры гэтым у старажытны перыяд шэраг дапаможных дзеясловаў быў даўжэйшы за сучасны: **бꙋдꙋ, имамь (имꙋ), хочꙋ, начьнꙋ, ꙋчьнꙋ, почьнꙋ, зачьнꙋ** і інш. Дапаможныя дзеясловы мелі дадатковае мадальнае адценне. Напрыклад: **азъ хочю инъ законъ приꙗти единъ, а дрꙋжина семꙋ смѣꙗтисѧ начнꙋть** (Лаўр. лет., 19б) – *хочу* ‘волевыяўленне’, *начнуть*

‘пачатак дзеяння’. Да таго ж спалучаліся яны як з дзеясловамі незакончанага, так і закончанага трывання. У адрозненне ад састаўнога дзеяслоўнага выказніка мадальная семантыка ў дапаможных дзеясловаў будучага складанага І паслаблена. Напрыклад: **иж дей я, панє возный, тꙋю сꙋмꙋ пенязей высказанꙋю хочꙋ платити** (АВК, XXXVI, 208, 1582) – тут **хочꙋ** абазначае не ‘жадаю’, а ‘буду, маю намер’. У старабеларускі перыяд будучы складаны І часцей за ўсё ўжываўся з дапаможнымі дзеясловамі **бꙋдꙋ** і **имꙋ** (ад **ѧти**), **имамь** (ад **имати**). Форма **имамъ** з цягам часу зведала фанетыка-марфалагічныя змены і стала вымаўляцца як *маю*.

У старабеларускіх помніках зафіксавана яшчэ адна цікавая форма будучага складанага І – сінтэтычная: **єсли дей нє позычишъ мнє грошей, я дей тєбє битимꙋ** (АЗР, 1556) – дапаможны дзеяслоў далучаецца да інфінітыва (< *иму бити*); пры спражэнні мяняецца далучаная частка: **битимєшь, битимє(ть), битимємъ, битиметє, битимꙋть.** Формы такога тыпу існуюць і сёння ў гаворках поўдня Беларусі.

***Будучы складаны ІІ* (*адносны будучы*)**, у адрозненне ад будучага складанага І, мае асноўны дзеяслоў у форме элавага дзеепрыметніка і дапаможны **бꙋдꙋ**. Абазначае папярэднебудучае дзеянне – дзеянне, якое адбудзецца раней за іншае будучае дзеянне. Напрыклад: **Бꙋдєть ли сталъ на розбои бєз всѧкоꙗ свады, то за розбоиника людьє нє платѧть** (Руск. пр., 1282, 616) – ‘калі паб’ецца з кім-небудзь без прычыны, то за яго абшчына штраф не павінна плаціць (сам за сябе будзе адказваць)’. Такое спецыфічнае значэнне рабіла будучы складаны ІІ рэдкаўжывальным: гэта форма выкарыстоўвалася пераважна ў складаных сказах з даданымі акалічнаснымі ўмовы, дапаўняльнымі, азначальнымі.

Аналіз ужывання формаў будучага складанага ІІ у помніках старабеларускага пісьменства выявіў шэраг асаблівасцей, а менавіта ўжыванне замест іншых формаў часу:

1) у значэнні, блізкім да плюсквамперфекта: **ꙗ того нє вєдаю, єстьли бꙋдєть мꙋж мой в нєє того конꙗ бралъ** (КВЗС) – ‘я не ведаю, ці браў мой муж у яе таго каня’ (перадача мінулага дзеяння ў даданым дапаўняльным сказе);

2) у значэнні будучага абсалютнага ў простым сказе ці галоўнай частцы складанага сказа: **какоє потєшєнє потом боꙋдоꙋ моглъ имєти** (Жыц. Ал., 90) – ‘якую ўцеху потым змагу мець’ (‘буду магчы’ (< польск. *będę mogł*)).

Паланізацыя беларускай мовы ў XVII ст. праявілася, апроч іншага, і ў пашырэнні формаў будучага складанага ІІ у значэнні будучага складанага І.

**Ірэальныя лады** (ад лац. *irrealis* – 'нерэальны') выражаюць дзеянні, якія ў часе не працякаюць, а толькі ўсведамляюцца як пажаданыя або магчымыя пры пэўных умовах. Ірэальныя лады – загадны і ўмоўны – не мелі часавых формаў і ўтваралі свае адметныя асабова-лікавыя парадыгмы.

***Загадны лад*** абазначае пабуджэнне да дзеяння, просьбу або прапанову выконваць дзеянне, г. зн. ён паводле значэння мадальны і аднесены ў план будучага. Формы загаднага ладу ўтвараліся ад асноў цяперашняга часу далучэннем суфіксаў -**ѣ**- (для асноў I і II класаў) і -**і**- (для асноў III і IV класаў).

Форма другой асобы адзіночнага ліку для ўсіх тэматычных дзеясловаў утваралася далучэннем канчатка -**и** да асновы цяперашняга часу: **неси, пии, буди** (ад **быти**). Прычым канчатак гэты быў дыфтангічнага паходжання – у асновах на заднеязычны адбывалася II палаталізацыя (*beg- – **бѣзи**, *pek- – **пеци**). Нетэматычныя дзеясловы (**дати, ѣсти** і **вѣдѣти**) у старажытны перыяд утваралі своеасаблівыя формы: **дати – дажь** (*dadjĭs), **ѣсти – ѣжь** (< *ĕdjĭs), **вѣдѣти – вѣжь** (< *vĕdjĭs).

Старажытная форма трэцяй асобы адзіночнага ліку першапачаткова супадала з формай другой асобы адзіночнага ліку: **а тємь кто на после приидуть. тѣмь вѣдомо <u>буди</u> какъ миръ єсмы створи^** (Гр. Гердэня, 1264).

Як відаць з табл. 26, формы множнага і парнага ліку мелі тыя ж канчаткі пасля формаўтваральнага суфікса (-**ѣ**-, -**и**-), што і ў цяперашне-будучым часе.

*Табліца 26*

**Старажытнае спражэнне дзеясловаў у загадным ладзе**

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік | Парны лік |
|---|---|---|---|
| 1-я | – | **несѣмъ, крикнѣмъ, мыимъ, хвалимъ, будѣмъ, дадимъ** | **несѣвѣ, крикнѣвѣ, мыивѣ, хваливѣ, будѣвѣ, дадивѣ** |
| 2-я | **неси, крикни, мыи, хвали, буди, дажь** | **несѣте, крикнѣте, мыите, хвалите, будѣте, дадите** | **несѣта, крикнѣта, мыита, хвалита, будѣта, дадита** |

Па фанетычных прычынах змены адбыліся:

1) у формах 2-й асобы адзіночнага ліку з націскам на аснове – скарачэнне канчатка (**стани** > *стань,* **буди** > *будзь,* **читаи** > *чытай*);

2) у асновах з [$и_р$] – сцяжэнне галоснага (**бии** > *би,* **лии** > *ли*); з [$ы_р$] – рэдукцыя канчатка (**мыи** > *мый,* **рыи** > *рый*);

3) у формах множнага ліку на месцы [ě] (яць) стала вымаўляцца [э] (*нясем, крыкнем, ідзем, бярэм*).

Марфалагічнымі прычынамі тлумачыцца:

1) выраўноўванне асноў па аналогіі з формамі цяперашне-будучага часу (**бєзи** > *бяжы*, **пєци** > *пячы*);

2) замена формы **дажь** на ўтвораную ад асновы незакончанага трывання (**давати, да-єши: даи** >*дай*);

3) уніфікацыя формаў 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў I, II і III, IV класаў (**нєсѣтє** > *нясіце*, **крикнѣтє** > *крыкніце*).

У старабеларускім пісьменстве адзначаны варыянты: **нєсѣмъ – нєсѣмо, нєсѣмы**; **бꙋдѣмъ** – *будьмо*; **нєсѣтє** – *несите*. Аднак і сёння ў паўднёва-заходніх гаворках формы на *-еце* (< **-ѣтє**) з'яўляюцца асноўным варыянтам: *несеце, вазьмеце, баранеце, ідзеце*.

Формы трэцяй асобы адзіночнага і множнага ліку ўтвараліся шляхам далучэння часціц **да, дажь, ать**: **да бꙋдєть отлꙋчєнъ от цєрквє** (Лаўр. лет., 22); **дажь поговорят про вѣрꙋ** (Лаўр. лет., 18); **ать Всєслава блюдꙋть** (Лаўр. лет., 18).

Ужыванне часціцы **нєхай** адзначаецца толькі з XIV ст.: **нєхай онъ тыи вси вышєписаныи зємли... дєржитъ** (УГ XIV, 25).

***Умоўны лад*** у старажытных помніках прадстаўлены спалучэннем элавага дзеепрыметніка асноўнага дзеяслова і дапаможнага дзеяслова **быти** ў форме аорыста. Канчаткі дзеепрыметніка першапачаткова паказвалі на род не толькі ў адзіночным, але і ў множным ліку (табл. 27).

*Табліца 27*

**Спражэнне дзеяслова нєсти ва ўмоўным ладзе**

<table>
<tr><th>Асоба</th><th>Адзіночны лік</th><th>Множны лік</th></tr>
<tr><td>1-я</td><td>нєслъ (-а, -о) быхъ</td><td>нєсли (-ы, -а) быхомъ</td></tr>
<tr><td>2-я</td><td rowspan="2">нєслъ (-а, -о) бы</td><td>нєсли (-ы, -а) бысте</td></tr>
<tr><td>3-я</td><td>нєсли (-ы, -а) быша</td></tr>
</table>

Далейшыя змены ў формах умоўнага ладу супадаюць з іншымі зменамі ў гісторыіі марфалагічнай сістэмы:

1) элавы дзеепрыметнік мяняўся так, як і ў формах прошлага часу (**нєслъ** > нёс, **носилъ** > насіў);

2) з выхадам з ужытку аорыста ва ўсіх асабова-лікавых формах умоўнага ладу стала ўжывацца звязка 2–3-й асобы адз. л. (*бы*); з дапаможнага дзеяслова яна пераўтвараецца ў формаўтваральную часціцу.

У XV–XVI стст. звязка ў форме аорыста сустракаецца пераважна ў рэлігійных тэкстах: што хочешъ, быхъ учинилъ тобе (Цяп., 59).

У старабеларускіх помніках адзначана зліццё дзеяслоўнай звязкі са злучнікам а – абыхъ, абы, абыхомъ (абыхмо), абысте: хочеть абыхмо о его законе иначеи розумели (Будны, 102б); аналагічныя спалучэнні са злучнікамі же і што: што[ж] хочешъ жебы[х] тобѣ учини[л] (Біблія, 461); на свѣ[т] пришо[л] есми штобы[х] волю ѿца моего оучини[л] (Пак. Хр., 2б).

Часціца бы не паказвае на асобу. Паколькі перфект спрацiўся пазней, чым знік аорыст, то ў формах умоўнага ладу элавы дзеепрыметнік пачынае ўжывацца з асабовымі формамі цяперашняга часу дзеяслова быти, якія выконваюць функцыю ўказання на асобу: поведа[л] бы еси на[м] оца свое[г] (Чэцця, 3б) – другая асоба адзіночнага ліку; коли бы есмо молъчали гре[х] бы есмо имели (Пак. Хр., 3б) – першая асоба множнага ліку. Акрамя таго, пад уплывам польскай мовы ўзніклі кантамінаваныя спалучэнні часціцы бы з часткай звязкі цяперашняга часу: бымъ (бы + есмь), бысь (бы + есь), бысмо (бы + есмо) і г. д.

Разам з тым спрашчэнне дапаможных дзеясловаў, якія паказвалі на асобу ў складаных формах, прывяло да пашырэння ўжывання займеннікаў: вчинилъ бысь мир межы вами (Трыст., 20) 'ты б наладзіў мір паміж вамі' – ты бы приехалъ до брата своего (Патр. К., 47).

## Заданні

Заданне 1. Размяжуйце формы цяперашняга і будучага простага часу. Адзначце традыцыйныя канчаткі і варыянты, якія ўтварыліся пад уплывам жывога маўлення.

1) велми далеко живемы ѿ васъ (Скар. ІН, 20б);

2) г[с]дь... возметь щитъ непобѣдимыи правду (Скар. ПБ, 9);

3) внегда ѿидеш[ь] ѿтуду и далей пойдешъ и придеш[ь] къ дубу (Скар. ПЦ, 20б);

4) напасти и голодоу посмѣессѧ и ѿ звѣрѧ земского не оубоиссѧ (Зб. 262, 14);

5) терпливость оубогы[х] не загыне навекы (Пс. XVI, 13);

6) не учинишь никакова дѣла ни ты, ни сынъ твои, ни дочъка твоѧ, ни паробокъ твои, ни неволница твоѧ (Будны, 2б–3);

7) крадуть ремесники если непобожне свою роботу продають (Будны, 90);

8) напервеи лупъ[1] непрыѧтельскии намъ сѧ достане, к тому тэж королевство французское велми богатое и ѡбфитное[2] нам прыбудеть (Атыла, 193);

9) цырымонеи и ѡбрадки церкви светое восточное нашое вцале и ни в чомъ ненаруше$^{н}$не зостанутъ (Унія, 6б);

10) та$^{к}$ мно$^{г}$ не$^{н}$дзныи боги хвали$^{ш}$... а не дапущаешъ люде$^{м}$ жити въ их свобо$^{д}$ности (Бельск., 179б);

11) смыслу чл҃вчому неналежныи речи справуемо (Каліст, I, 152б);

12) до враду замкового, яко неналежного собе права, не повинни и не хочемъ до признанья и свядецтва ити (ИЮМ, VIII, 392, 1623);

13) некогда преткнеши ѡ каме$^{н}$ ноги твоеꙗ (Дыяр., 174).

---

[1]лупъ – 'ваенны трафей' (ГСБМ. Вып. 17. С. 141).

[2]обфитный – 'багаты, шчодры; у вялікай колькасці' (Там жа. Вып. 21. С. 197).

З а д а н н е 2. У тэме 6 («<...> Утварэнне і скланенне займеннікаў трэцяй асобы») ішла гаворка пра першасныя прыназоўнікі тыпу сън, кън, вън (скланавыя формы: съ нимь, къ нему, въ немь). Многія прыстаўкі і прыназоўнікі маюць адно паходжанне. Супастаўце іфінітывы вънꙗти, донꙗти, занꙗти, обънꙗти, перенꙗти, подънꙗти, принꙗти, сънꙗти, унꙗти з іх формамі будучага простага часу і скажыце, дзе гук [н] узнік паводле аналогіі. Ад якога беспрыставачнага дзеяслова ўтвораны гэты рад аднакарэнных? Што можна сказаць адносна трывання і формаў часу гэтых дзеясловаў?

З а д а н н е 3. Ахарактарызуйце падкрэслены дзеяслоў: вызначыце яго зыходную форму – інфінітыў, трыванне, лад, час, асобу, лік, а таксама высветліце марфалагічную будову і паходжанне.

злыи дх҃ве... теперъ ѡпѧ$^{т}$ на по$^{ве}$тре воздоимоуть (Пак. Хр., 25).

З а д а н н е 4. Прааналізуйце ўтварэнне формаў будучага часу ў прапанаваных сказах.

1) что ся не по тому ваше дѣло почнеть дѣлати, а мне того жаль (АЗР, I, 161, 1496);

2) потомъ боудешь се радовати и веселитисе (Пак. Хр., 3б);

3) Полонея... мешкаючи[1] вдовою а приймича за мужа собѣ на тое именье для утраты дому и того именья приймовати не маетъ (АВК, XXI, 7, 1563);

4) Свещенникъ за то въ церкви имѣти маеть вино, ладонъ, просфури и свѣчи (АВК, III, 19, 1586);

5) В мамърамехъ[2] дата то есть, рокъ и месеци и день, коли ихъ хто береть маеть быти написаны$^{ѕ}$ (Ст. 1588, 149);

6) если же сам не розуметимешь и не умеешъ ꙗко до того прийти пытай же се старшыхъ (Унія, 27б);

7) потомъ по мало$^{ѕ}$ хвиле прислали их мило$^{ст}$, же сами хочутъ быти у кнꙗжати (Барк., 148б);

8) **коли кольвекъ хворый потребоватиметъ, и безъ єпископа священницы то могуть отправовати** (Гарм., 209);

9) **которая кровь новая съ того во христіянствѣ учнеть литися, и тоѣ крови богъ зыщеть на васъ** (АЗР, IV, 435, 1615).

[1]**мешкати** – 'існаваць' (ГСБМ. Вып. 18. С. 30).

[2]**мамърамъ** – 'дакумент на пергаменце' (Там жа. Вып. 17. С. 319).

З а д а н н е 5. Прааналізуйце кантэксты ў прыведзеных прыкладах і вызначыце, які план дзеяння перадае ў іх форма будучага складанага II.

1) **привести юмоу видо҃къ**[1] **слово противоу слова. а кто боудеть началъ. томмоу платити •ꙁ҃• коунъ. аче же и кръвавъ придетъ. или боудеть самъ почалъ. а высоупѧть послуси**[2]**. то то юмоу за платежь ѡже и били** (Руск. пр., 1282, 617–617б);

2) **Мы приказали Стѣцку, абы тому сыну своему Станиславу велелъ передъ нами въ четвергъ стати: мы хочомъ ѿ него выслухати, што ѡнъ къ тому будеть хотелъ мовити** (КСД, 14, 1510);

3) **не ведаю если будеть ему кнга**[3] **тыи пенези заплатилъ** (КВЗС, 67);

4) **Мають мѣщане на свои потребы брати дерево около мѣста, въ нашихъ борѣхъ и лѣсѣхъ и дубровахъ и гаѣхъ, гдѣ здавна будуть бирали** (АЗР, III, 68, 1587);

5) **же**^с **сынови своему единому не препусти**^л[3] **длга мене, буду тобѣ добре речи**^л[4]**, ро**^з**множу рожа**^ѕ **тво**^ѕ **гако звѣзды на небѣ** (Бельск., 19);

6) **если бы и хотелъ дати не будешъ моглъ** (Зб. 81, 203).

[1]**видокъ** – 'відавочца, сведка' (Хрестоматия... С. 448).

[2]**послухъ** – 'сведка' (ГСБМ. Вып. 27. С. 128).

[3]**препустити** – 'зрабіць выключэнне; дараваць' (Там жа. Вып. 28. С. 109–110).

[4]**добре речити** – 'ухваляць, падтрымліваць' (Там жа. Вып. 30. С. 89).

З а д а н н е 6. Растлумачце граматычнае значэнне і ўтварэнне падкрэсленых дзеяслоўных формаў.

1) Прыйдзе лета – та да жніва седжма <u>сядзецьмеш</u> (*Ц. Гартны.* «Сокі цаліны»);

2) Многа нітак спрадзецца, вёснаў шмат разаўецца, – усё ж <u>чакаціме</u> дружка мілага дзеўкі вернае сэрца (*Л. Геніюш.* «Было свята»);

3) – Будзеш, дзеўчына, будзеш паняю, са мной <u>жыцьмеш</u> у месце каменным... (*Л. Геніюш.* «Дзяўчына»).

З а д а н н е 7. Прааналізуйце формы загаднага ладу ў прыкладах і вызначыце, ад якіх дзеясловаў яны ўтвораны, у якой асабова-лікавай форме ўжыты.

1) **г҃и по**^м**зи рабу своему борисоу** (Надпіс на камені);

2) **да не буди юмоу помощьникъ чьстныи кр҃стъ** (Надпіс на крыжы Ефр. Пол.);

3) **да падоу$^{т}$ идоли ваши на землю** (Чэцця, 64б);

4) **плачте со мною оуси** (Жыц. Ал., 99);

5) **и завповѣдалъ боазъ молодцомъ свои$^{м}$ рекучи тѣжь межи снопы нехаи збираеть а не соромотите ее** (Зб. 262, 32);

6) **пане не заби трышчана але заби мене** (Трыст., 17);

7) **длѧ покоры на то$^{м}$ мѣймо досы$^{т}$** (Каз. Кір., 140б);

8) **не чинѣте неправости в суде** (Навука, 108);

9) **не розли крови** (Зб. 82, 46б).

З а д а н н е 8. Ва ўрыўку са «Слова на вербніцу» Кірылы Тураўскага (XII ст.) знайдзіце і ахарактарызуйце ўсе формы загаднага ладу.

**Тѣмже, братиѥ, подобаеть намъ, ꙗко Бжиимъ суще людемъ, възлюбившаго насъ Х$^{с}$а прославити. Прідѣте, поклонимсѧ ѥму; припадѣмъ ѥму, ꙗко блудница, мысльно прч$^{с}$тѣи того лобызающе нозѣ; ѡстанѣмсѧ, ꙗко же и ѡна, ѿ злыхъ дѣлъ; излѣимы, ꙗко мюро[1], на главу ѥго вѣру и любовь нашю; изидемъ с любовью, ꙗко и народи, въ стрѣтениѥ ему; сломимъ гнѣводержаниѥ, ꙗко и вѣтви; постелемъ ѥму, ꙗко и ризы добродѣтели, въскликнемъ млтвами и безлобиѥмъ, ꙗко младенци, преидемъ мл$^{с}$тими къ нищимъ; въслѣдуимъ смирениѥмь, постомъ и млтвою, бдѣниѥмъ, бж$^{с}$тимь[2] покаꙗниѥмь и не погубимъ поста четверодесѧтнаго, в нѧже подвизахомсѧ, ѡчистимсѧ ѿ всѧкыхъ скверныхъ дѣлъ, да в нашь Иѥр$^{с}$лмь внидеть Х$^{с}$ъ.**

[1] **мюро** – тое, што і **миро**, ‘раслінны алей, які ўжываецца ў царкоўных абрадах’ (ГСБМ. Вып. 18. С. 61).

[2] **божьстии** – тое, што і **божьскии**.

З а д а н н е 9. Ад дзеясловаў **вѣдати, двигати, двинути, ѣсти, исти, лити, резати, речи, стеречи, течи, ходити** ўтварыце старажытныя формы другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу, супастаўце з сучаснымі і раскажыце, якія змены адбыліся ў іх.

З а д а н н е 10. Растлумачце паходжанне падкрэсленай дзеяслоўнай формы ва ўрыўку з верша Якуба Коласа 1904 г.:

Не пытайце, не прасеце
Светлых песень у мяне,
Бо, як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

З а д а н н е 11. Патлумачце паходжанне падкрэсленых слоў і кампанентаў у ніжэйпрыведзеных устойлівых выразах, прадоўжыце гэты спіс самастойна.

Дай Божа, вынь да палож, гары яно гарам, не дай Бог, перакаці-поле, прышый кабыле хвост, сарві-галава, хоць вока выкалі, хоць іголкі збірай, хоць рэпу сей, хоць святых вынасі.

З а д а н н е 12. Ахарактарызуйце формы ўмоўнага ладу ў Дагаворнай грамаце смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам (1229).

**Ѩа томь мироу ажбы миръ твьрдъ былъ. тако былъ кнѧзю любо. и рижаномъ всемъ. и всемоу латинескомоу ıазыкоу[1]. И всемь темь кто то на оустоко морѧ ходить | ажбы нальзлъ[2] правдоу[3]. то написати. како то держати роуси. съ латинескымь ıазыкомѣ. и латинескомоу ıазыкоу съ роусию. то дѣржати Аж быхомъ что тако оучинили. того б҃ъ не даи. ажбы промьжю нами бои былъ. а любо ч҃лвка оубиють до смрти. како ч҃лвка то ѿплатити. ажбы миръ не ръздроушенъ былъ | такъ платити. како то бы ѡбоимъ любо былы | Зде починаıетьсѧ правда | Аже боудѣть свободѣныи ч҃лвкъ оубить | •і• гривенъ серебра. за голъвоу Аже боудѣте холъпъ оубитъ | •а• гривна серьбра заплатити | оу смольнѣскъ таок платии. и оу ризе. и на готскомъ берьзѣ |**

[1] **ıазыкъ** – тут ‘народ’ (ГСБМ. Вып. 37. С. 304).
[2] **налезти** – ‘знайсці’ (Там жа. Вып. 19. С. 120).
[3] **правьда** – ‘закон’ (Там жа. Вып. 27. С. 439).

З а д а н н е 13. Прааналізуйце формы ўмоўнага ладу ў прыкладах са старабеларускіх пісьмовых помнікаў.

1) **Потехо д҃ше моее оучи$^{н}$ то што бы$^{х}$ ıа оумерла с тобою** (Пак. Хр., 11б);

2) **муками испытаемо его, абыхом$^{ѕ}$ познали почливость[1] его** (Скар. ПБ, 45);

3) **если быхмо не видели, то быхмо не вѣрыли** (Трыст., 33б);

4) **уставуемъ хто бы чые ловы[2] кгвалтомъ половилъ тогды тому в чые пущи будеть половилъ маеть кгвалту заплатити двана$^{д}$цать рубле$^{ѕ}$ гроше$^{ѕ}$** (Ст. 1588, 379);

5) **ıа$^{м}$ ту$^{т}$ на то вышо$^{л}$ абы$^{м}$ до горла ѿчизны своеи борони$^{л}$** (Стрыйк., 626);

6) **коли бы тобѣ бы$^{л}$ ѡ$^{б}$ıавле$^{н}$ му$^{ж}$ котори$^{ѕ}$ тебе мае з живото$^{м}$ розлучи$^{т}$, тогды бы$^{с}$ его забилъ** (Алекс., 38б).

[1]**почливость** – тое, што і **почтивость** – ‘пашана, павага’ (ГСБМ. Вып. 27. С. 415).
[2]**ловы** – тут ‘паляўнічыя ўгоддзі’ (Там жа. Вып. 17. С. 100–101).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Размежаванне формаў цяперашняга і будучага простага часу звязана з развіццём катэгорыі:

| | | |
|---|---|---|
| 1) часу; | 3) трывання; | 5) асобы і ліку. |
| 2) стану; | 4) ладу; | |

**2.** Адзначце правільны адказ.

Асноўнае дзеянне ў формах будучага складанага II выражае:

1) інфінітыў;
2) аддзеяслоўны назоўнік;
3) форма прошлага часу;
4) элавы дзеепрыметнік;
5) дзеепрыслоўе.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Формы будучага складанага I прадстаўлены ў сказах:

1) **ѿ кого бꙋдеть какаѧ обида нашемꙋ монастырю** (Гр. 1399);
2) **сꙋдьꙗ тое земли имееть сꙋдити прі нашомъ дворе** (Вісл., 12б);
3) **мы оꙋ неⷨ захованіе держати бꙋдемо** (Пак. Хр., 33б);
4) **если же самъ не разꙋметимешъ... пытай се же старшихъ** (Унія, 27б);
5) **землꙗ еси и в землю ѡпꙗть поидеши** (Зб. 82, 267б).

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Формы будучага складанага II прадстаўлены ў прыкладах:

1) **Которыи пѣрвое оꙋкрадѣⷮ а дотꙋль бꙋдеть не крадывалъ ино за первоꙋю татбꙋ віною егѡ казнити** (Судз. Каз., 203–204);
2) **кнѧⷥ великыи витоⷡтъ проводить его до Крева** (Віл., 441);
3) **кнѧⷥ скиⷬкгаило ꙋсхочеть ехати ꙋ ловы** (Патр. Б, 103б);
4) **кто имать седети на прѣстоле твоемъ по тобѣ** (Скар. ТЦ, 121б);
5) **той што спит не бꙋде моглъ повстати** (Пс. XVII, 16б).

**5.** Адзначце правільны адказ.

Хай будзе пекла зачынена для вас, і хай *мецьмеце* рай на зямлі (*У. Караткевіч.* «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»).

Вылучанае слова з’яўляецца формай:

1) інфінітыва;
2) цяперашняга часу;
3) будучага простага;
4) будучага складанага I;
5) будучага складанага II.

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

**ре҃ же емꙋ варѧжько не ходи кнѧже оꙋбьють тѧ • побѣгни в печенѣги • и приведеши ми...** (Лаўр. лет., 24 адв.).

У вышэйпрыведзеным сказе ўжыты формы загаднага ладу ад наступных інфінітываў:

1) **ходити;**
2) **оꙋбити;**
3) **побѣжати;**
4) **побѣгнꙋти;**
5) **привести.**

**7.** Складзіце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У прыкладзе... (1, 2, 3, 4, 5, 6) ужыта форма загаднага ладу... (а, б, в) асобы і ... (г, д, е) ліку.

1) **Просите, и дастьсе вам**$^{\text{ѕ}}$ (Цяп., 9);
2) **пнъ нашъ казалъ тебе до себе на ꙋчтꙋ просити** (Пралог, 490);
3) **просиле**$^{\text{м}}$ **килима ѡби**$^{\text{т}}$ **емꙋ на**$^{\text{д}}$ **лꙋ**$^{\text{ж}}$**ко**$^{\text{м}}$ (Дыяр., 164б);
4) **Мате**$^{\text{р}}$ **его да да**$^{\text{ст}}$ **ти живо**$^{\text{т}}$ **вѣчны**$^{\text{ѕ}}$ (Дыяр., 169б);
5) **сподаринѧ... да**$^{\text{ѕ}}$ **ложечкꙋ дитꙗткꙋ варивца** (Барк., 165б);
6) **всо што мает ч̃лкъ дасть за д̃шю свою** (Зб. 262, 12б).

а) першай; г) адзіночнага;
б) другой; д) множнага;
в) трэцяй; е) парнага.

**8.** Прачытайце радкі з верша.

Плюньце, хлопцы! Заспявайма,
Каб аж вокны задрыжалі!
Ва ўсе грудзі загукайма,
Каб і думкі паўцякалі!

(*Я. Колас*. «Кіньце смутак»)

Складзіце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

Дзеяслоў... (1, 2, 3, 4, 5) ужыты ў форме загаднага ладу... (а, б, в) асобы і ... (г, д, е) ліку.

1) плюнуць; а) першай; г) адзіночнага;
2) заспяваць; б) другой; д) множнага;
3) задрыжаць; в) трэцяй; е) парнага.
4) загукаць;
5) паўцякаць.

**9.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымалася правільнае выказванне.

**То было тобе достоино • ꙋ кого кꙋпишь томоꙋ заплати • то бышь на тѧ не жаловали** (Гр. 1300).

У прыведзеным сказе форма ўмоўнага ладу выступае ў ... (1, 2, 3) асобе і ... (а, б, в) ліку.

1) першай; а) адзіночным;
2) другой; б) множным;
3) трэцяй; в) парным.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Формы ўмоўнага ладу прадстаўлены ў сказах:

1) **полѧномъ же жившимъ ѡсобѣ по горамъ симъ бѣ пѹть изъ варѧгъ въ греки** (Лаўр. лет., 5);

2) **бы тоⷮ не быⷧ лиходеи не подали бы есмо его тобе** (Пак. Хр., 8б);

3) **тогда слышавши предислава, тако бо бѧше еи наречено имѧ родителемам своима преже ст҃го кр҃щнїа** (Жыц. Ефр. Пол., 320);

4) **по чемъ быхомъ ведали, ꙗко гсдь ѹстѹповалъ на небо. намъ пѹть за собою ѹказѹѧ** (Скар., Апост., прадм.);

5) **взывалеⷭмъ ваⷭ абысте мнѣ помочъ дали** (Біблія, 129б).

Тэма 14

# Іменныя формы дзеяслова

Акрамя спрагальных формаў, у сістэму старажытнага дзеяслова ўваходзілі і так званыя іменныя формы: супін, інфінітыў і дзеепрыметнік. Іменнымі іх называюць таму, што па наборы ўласцівых ім граматычных катэгорый, а таксама паводле паходжання яны звязаны з імёнамі – назоўнікам, прыметнікам і займеннікам.

***Супін*** – дзеяслоўная форма іменнага паходжання, якая генетычна з'яўляецца назоўнікам з былой асновай на *ŭ, што застыў у форме вінавальнага склону адзіночнага ліку (як **сынъ, волъ, медъ, вьрхъ**). Супін утвараўся пры далучэнні да асновы інфінітыва фіналі **-тъ**: **погоубитъ, твердитъ** і меў спецыяльнае прызначэнне – называць мэту дзеяння пры дзеясловах руху (таму яго часам называюць дасягальным ладам, інфінітывам мэты). Вельмі часта ўжываўся з дапаўненнем у форме вінавальнага склону: **идѧше цсрь погоубитъ града** (Усп. зб.).

Формы супіна перайшлі ў агульнаўсходнеславянскую мову як спадчына ад праславянскага перыяду, аднак пачынаючы з XI ст. яны ўжо выцясняюцца формамі інфінітыва, паколькі іх значэнні былі вельмі блізкімі: **посъла призвати** (Астр. Ев.) замест **посъла призватъ**.

Супін лічыцца дзеяслоўнай формай, што мела кніжны характар, выкарыстоўвалася пераважна ў літаратурнай мове і не была ўласціва жывой гаворцы. На карысць гэтага меркавання сведчыць і той факт, што формы супіна зніклі цалкам, не пакінуўшы пасля сябе ніякіх рэфлексаў у мове наступных перыядаў.

***Інфінітыў*** – пачатковая, або зыходная, форма дзеяслова, аднак па паходжанні гэта назоўнік з былой асновай на *ĭ, які застыў у форме давальна-меснага склону адзіночнага ліку, параўн.: **видѣти, ходити** як **тати, зѧти, рыси, звѣри**. Пра генетычную сувязь інфінітыва

з назоўнікам сведчаць, напрыклад, сучасныя аманімічныя формы інфінітыва і назоўніка накшталт руск. *мощь, печь, сечь, течь,* бел. *знаць*; у гісторыі беларускай мовы агульнаўсходнеславянскія формы або захаваліся (*пячы, сячы, цячы*), або атрымалі іншае фанетычнае аблічча (*магчы, секчы*).

Інфінітыў існаваў яшчэ ў праславянскай мове, дзе ўсе дзеясловы ў форме інфінітыва заканчваліся на *-ti. У гістарычным мовазнаўстве гэты афікс называюць па-рознаму: постфікс, суфікс, фіналь.

Такім чынам, да праславянскіх формаў інфінітыва з асновай на галосны проста далучалася фіналь *-ti: *bi-ti, *vodi-ti, *ima-ti, *sudi-ti і інш. Калі ж аснова інфінітыва заканчвалася на заднеязычны *g або *k, то пры далучэнні *-ti на месцы *gt або *kt узнікаў [ч’]: *tekti > **течи**, *sekti > **сєчи**, *bergti > **бєрєчи**, *mogti > **мочи**. У асновах на пярэднеязычны *d або *t пры спалучэнні з *t фіналі адбывалася дысіміляцыя: *dt → [ст’]: *kladti > **класти**; *tt → [ст’]: *metti > **мєсти**[1].

Яшчэ ў праславянскі перыяд у складзе інфінітыўнай фіналі *-ti пачалася рэдукцыя канцавога [i], але ў розных групах старажытных славянскіх моў гэты працэс здзяйсняўся па-рознаму. Напрыклад, у польскай мове на месцы *-ti стаў выступаць сярэднянёбны гук, падобны на [ч]: *cenić, tłumaczyć, wziąć, zobaczyć, żyć.* У гісторыі рускай мовы рэдукцыя такога тыпу адбылася ў інфінітывах, у якіх націск прыпадаў на апошні галосны асновы: **говори́ти** – *говори́ть,* **носи́ти** – *носи́ть,* **плати́ти** – *плати́ть,* але *брести́, грести́, мести́, плести́* і інш.

У гісторыі беларускай мовы рэдукцыя канцавога [i] ў складзе інфінітыўнай фіналі мела месца толькі ў тых выпадках, калі аснова заканчвалася на галосны: **борони́ти** – *бараніць,* **кохáти** – *кахаць,* **стрѣлıáти** – *страляць* і інш. Калі старажытная аснова інфінітыва заканчвалася на зычны (акрамя заднеязычных), то іх сучасныя адпаведнікі выступаюць з *-ці*: **рости** – *расці,* **плєсти** – *плесці,* **вєсти** – *весці.*

Інфінітывы, аснова якіх заканчвалася на заднеязычны [г] або [к], яшчэ ў агульнаўсходнеславянскі перыяд набылі фіналь **-чи**: **бєрєчи, волочи, жєчи, лєчи, мочи, пєчи, рєчи, сєчи, стєрєчи, стричи, тєчи.** Аднак пад уплывам іншых дзеяслоўных формаў, у аснове якіх не назіралася чаргавання заднеязычнага з шыпячым, адбылося аднаўленне [г] або [к] і ў асновах інфінітыва. Працэс гэты працякаў у розных групах усходнеславянскіх моў неаднолькава. Найбольш шырока і паслядоўна аднаўленне прайшло ва ўкраінскай мове: *берегти, пекти, текти*

[1]Больш падрабязна пра гэтыя фанетычныя змены гл.: *Свістунова М. І., Ціванова Г. К.* Гістарычная фанетыка беларускай мовы. Мінск : БДУ, 2016. С. 11–13.

і інш. У рускай мове старажытная інфінітыўная фіналь -**чи** пераўтварылася ў -*чь*: *беречь, лечь, мочь, стеречь, стричь,* а заднеязычны асновы не аднавіўся. У працэсе далейшага развіцця беларускай мовы ў такіх формах адбылося зацвярдзенне шыпячага і развілося аканне. Разам з тым у частцы інфінітываў пад уплывам іншых формаў парадыгмы, у якіх [г] прыстунічаў, гэты заднеязычны аднавіўся: *бегчы, берагчы, легчы, магчы, стрыгчы, сцерагчы,* аднак заднеязычны [к] у інфінітывах не быў адноўлены: *валачы, пячы, сячы, цячы.* У выніку ўсіх гэтых марфаналагічных змен узнік спецыфічна беларускі постфікс -*чы*. Такім чынам, у адносінах да аднаўлення былога заднеязычнага інфінітыўнай асновы беларуская мова займае як бы прамежкавае становішча паміж рускай і ўкраінскай мовамі.

Інфінітыву належала вельмі важнае месца ў сістэме дзеяслоўных формаў – ад яго асновы ў старажытнасці ўтвараліся, акрамя формаў самога інфінітыва, таксама формы супіна, аорыста, імперфекта і дзеепрыметнікаў прошлага часу.

***Дзеепрыметнік*** – дзеяслоўная форма, якая захавала найбольш цесную фармальную і сэнсавую сувязь з імем: з фармальнага боку, структурна дзеепрыметнікі падобныя да прыметнікаў, яны такім жа чынам змяняюцца па родах, ліках і склонах, у сэнсавых адносінах дзеепрыметнікі, як і прыметнікі, называюць прымету прадмета, толькі не любую, а звязаную з дзеяннем, працэсам. Значэнне працэсуальнасці выражаецца ў дзеепрыметнікаў праз катэгорыі стану (залежнага і незалежнага), трывання (закончанага і незакончанага) і часу (цяперашняга і прошлага). Валодае гэта форма дзеяслова і граматычнымі катэгорыямі, уласцівымі імёнам, – катэгорыямі роду, ліку і склону.

Старажытны дзеепрыметнік першапачаткова выступаў толькі ў кароткай (іменнай) форме і меў наступныя словаўтваральныя суфіксы **-ѹч-/-юч-, -ач-/-ꙗч-, -въш-/-ъш-, -м-**[1], **-н-**[2], **-т-**. Дзеепрыметнікі прошлага часу ўтвараліся ад асновы інфінітыва, а цяперашняга часу – адпаведна, ад асновы цяперашняга часу (схема 2). Скланяліся такія дзеепрыметнікі таксама, як і кароткія прыметнікі: у мужчынскім і ніякім родзе – на ўзор назоўнікаў з былой асновай на *ŏ/*jŏ, у жаночым – на ўзор назоўнікаў з былой асновай на *ā/*jā. Выступалі ў формах адзіночнага, множнага і парнага ліку. У сказе выконвалі сінтаксічную функцыю азначэння або часткі састаўнога іменнага выказніка.

---

[1]Суфікс **-м-** далучаўся да розных асноў цяперашняга часу пры дапамозе тэматычных галосных **-о-, -є-, -и-**.

[2]Суфікс **-н-** прыядноўваўся да асноў некаторых інфінітываў з дапамогай тэматычнага галоснага **-є-**.




*Схема 2.* Утварэнне дзеепрыметнікаў

Пры далучэнні да кароткіх формаў дзеепрыметнікаў адпаведных формаў указальнага займенніка **и**, **ꙗ**, **ѥ** ўтварыліся поўныя (займенныя) дзеепрыметнікі. Яны паступова цалкам выціснулі кароткія і перажылі тыя ж самыя фанетычныя змены, што і іншыя часціны мовы, якія змяняліся па займенным тыпе.

У агульнаўсходнеславянскай мове кароткія дзеепрыметнікі незалежнага стану мужчынскага і ніякага роду ў формах назоўнага склону адзіночнага ліку і ў цяперашнім, і ў прошлым часе выступалі без формаўтваральных суфіксаў, што было абумоўлена фанетычнымі ўмовамі, актуальнымі на той час: **хвалити** (інфінітыў) → **хвали** (м. р. і н. р.), **хваливъши** (ж. р.); **хвалиши** (форма цяперашняга часу) → **хвалꙗ** (м. р. і н. р.), **хвалꙗчи** (ж. р.).

Пазней формы мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку пад уплывам іншых склонавых формаў сталі ўжывацца з суфіксамі.

Формы былога жаночага роду накшталт **хваливъши**, **хвалꙗчи** страцілі сувязь з назоўнікам, да якога дапасоўваліся, і, адпаведна, здольнасць скланяцца. У той жа час яны пачалі паясняць дзеяслоў, выконваючы функцыю акалічнасці, і паступова пераўтварыліся ў беларускай мове ў дзеепрыслоўі. Усе іншыя кароткія формы старажытных дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану выйшлі з выкарыстання і былі заменены поўнымі формамі.

У гісторыі беларускай мовы лёс поўных формаў дзеепрыметнікаў аказаўся зменлівым. Так, калі ў агульнаўсходнеславянскай і старабеларускай мове дзеепрыметнікі са старaславянскімі паводле паходжання суфіксамі **-ꙋщ-/-ющ-**, **-ащ-/-ѧщ-** былі шырокавядомыя, то ў новай беларускай літаратурнай мове яны не ўжываюцца.

Актыўнаўжывальныя некалі дзеепрыметнікі з суфіксамі *-уч-/-юч-*, *-ач-/-яч* і *-ўш-*(<*-вш-*)/*-ш-* у сучаснай беларускай мове выкарыстоўваюцца абмежавана паводле шэрагу прычын, і ў тым ліку з-за аманіміч-

насці з дзеепрыслоўямі, параўн.: *Прыйшоўшы са школы вучань убачыць сябра. – Вучань убачыць сябра, прышоўшы са школы.*

Частка дзеепрыметнікаў перайшла ў клас прыметнікаў: *вядомы, знаёмы, любімы, былы, гаючы, заслужаны, паранены, умелы* і інш.

Найчасцей сёння ўжываюцца дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-ан-/-ян-*, *-ен-*, *-т-* накшталт *вывучаны, зроблены, напісаны, пасеяны, прышыты* і інш.

Асобна трэба разглядаць так званыя элавыя дзеепрыметнікі – дзеепрыметнікі прошлага часу незалежнага стану, якія існавалі яшчэ ў праславянскай мове і ўтвараліся ад асновы інфінітыва пры дапамозе суфікса *-l-. Як і ў іншых дзеепрыметнікаў, першаснымі па часе ўзнікнення з'яўляюцца кароткія (іменныя) формы элавых дзеепрыметнікаў. Яны былі часткай такіх формаў дзеяслова, як перфект, плюсквамперфект, будучы складаны II, умоўны лад, у складзе якіх змяняліся па ліках і родах. Агульная семантыка, а таксама частае выкарыстанне гэтых формаў абумовілі ўстойлівае ўжыванне і самога элавага дзеепрыметніка, які іншым разам называюць актыўным дзеепрыметнікам прошлага часу. Пасля спрашчэння складаных дзеяслоўных формаў (страты дапаможных дзеясловаў у складзе перфекта і плюсквамперфекта) элавы дзеепрыметнік набывае здольнасць выражаць працэсуальную катэгорыю часу і фактычна пераўтвараецца ў простую форму прошлага часу – перфект: **ѥсмь неслъ, несла, несло**… – *нёс, несла, несла*…; а таксама ў рэдкаўжывальную ў сучаснай мове форму плюсквамперфекта: **ѥсмь былъ неслъ, была несла, было несло**… – *быў нёс, была несла, было несла*… Адпаведна фанетычным асаблівасцям беларускай мовы фіналь -**лъ** у пэўных умовах перайшла ў [ў] (у нескладовае).

Яшчэ ў агульнаўсходнеславянскі перыяд пачала мяняцца сінтаксічная функцыя дзеепрыметніка: акрамя характарыстыкі дзейніка, ён пачаў абазначаць дадатковае дзеянне і такім чынам функцыянальна наблізіўся да дзеепрыслоўя. Напрыклад, у Лаўрэнцьеўскім летапісе (1377): **и пришедъша сѣдоста радимъ на съжи… прозвашасѧ радимичи а вѧтъко сѣде съ родомъ своимъ по ѡцѣ ѿ него же прозвашасѧ вѧтичи** (Лаўр. лет., 5). **пришедъша** (*якія*?) 'тыя, што прыйшлі' – прымета; **пришедъша** (*пасля чаго*?) 'пасля таго, як прыйшлі' – дадатковае дзеянне.

Многія поўныя (займенныя) формы элавых дзеепрыметнікаў, утвораныя ад беспрыставачных дзеясловаў, сталі прыметнікамі ў ролі азначэння: *беглы, кіслы, рослы, спелы* і інш. Адпрыставачныя ж утварэнні больш выразна захоўваюць сувязь з дзеясловам: *збялелы*,

*збяднелы, падрослы, пачарнелы, прыліплы.* Яны могуць выступаць і як азначэнні, і як часткі састаўнога іменнага выказніка, з'яўляюцца актыўнаўжывальнымі ў сучаснай беларускай мове.

Дзеепрыслоўе ў беларускай мове – самая маладая форма дзеяслова, якая генетычна ўзыходзіць да дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу, якія перасталі выступаць у ролі азначэння і змяняцца – страцілі катэгорыі роду, ліку і склону. Яны застылі ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку жаночага роду: *хваліўшы* < **хваливъши**, *хвалячы* < **хвалꙗчи**. Гэты працэс прыпадае на ўласнабеларускі перыяд. Так, у прыкладзе **оуси люди ѡколо стоꙗчи мꙋжове и жоны засмоутилисе** (Пак. Хр., 22) дзеепрыметнік павінен дапасоўвацца да назоўніка **люди** ў форме множнага ліку, аднак **стоꙗчи** – форма жаночага роду адзіночнага ліку. Такім чынам, адсутнасць дапасавання, акалічнаснае сінтаксічнае значэнне, семантыка дадатковага дзеяння ('засмуціліся, калі стаялі побач') – усё гэта прыметы дзеепрыслоўя.

Ужо ў канцы XIV ст. дзеепрыслоўе выступала як асобная дзеяслоўная форма. У старабеларускай мове маглі выкарыстоўвацца розныя формы дзеепрыслоўяў, аднак пастунова пачынаюць пераважаць уніфікаваныя для ўсіх трох родаў і лікаў формы з суфіксамі **-въш-/-ъш-, -ꙋч-/-юч-, -ач-/-ꙗч**, якія ў далейшым зведалі шэраг фанетычных змен і сталі нарматыўнымі ў беларускай мове.

## ЗАДАННІ

Заданне 1. Вызначыце, у якіх сказах падкрэслены супін, а ў якіх – інфінітыў. Патлумачце асаблівасці ўтварэння і выкарыстання супіна. Звярніце ўвагу на крыніцу, з якой узяты прыклады, – гэта Лаўрэнцьеўскі летапіс (1377) – і зрабіце вывады пра асаблівасці выкарыстання ў ёй формаў супіна і інфінітыва.

1) **В лето · ѕ҃·ф҃·ѯ҃е ·. Придоша половци первое на Рꙋсьскꙋю землю воевать** (Лаўр. лет., 55);

2) **слышавше же се, половци почаша воевати** (Лаўр. лет., 72 адв.);

3) **и въшедъ Ярополкъ в градъ Ольговъ, перея власть его, и посла искатъ брата своего, искавъше его, не обретоша** (Лаўр. лет., 23 адв.);

4) **и повеле искати медꙋ** (Лаўр. лет., 44 адв.).

Заданне 2. Патлумачце, якія фанетычныя змены адбыліся з праславянскімі формамі *vedti, *pletti на стыку асновы інфінітыва і фіналі. Прыгадайце, чым былі выкліканы гэтыя змены?

З а д а н н е 3. Якая форма развілася ў агульнаўсходнеславянскай мове з праславянскага інфінітыва *legti? Падбярыце адпаведнік з прапанаваных ніжэй словаформаў і патлумачце фанетычныя змены ў праформе.

1) **легти**; 4) **лєжи**;
2) **легчи**; 5) **лєчи**.
3) **леги**;

З а д а н н е 4. Пастаўце падкрэсленыя дзеясловы ў пачатковую форму.

1) **Тогда реч̑е Царь мужу божиему, внииди въ домъ мои и обедуи со мною, и дамъ ти дары** (Скар. ТЦ, 158);

2) **реч[є] къ нимъ Исусъ доколе влачитєся и ленуєтєся** (Скар. ІН, 34б);

3) **Нє г[лаго]ли того онъ мя омылилъ, понєже нє суть єму потребни грешници** (Скар. ІС, 25б).

*Заўвага.* Значэнне незразумелых слоў можна даведацца ў «Слоўніку мовы Скарыны» (уклад. У. В. Анічэнка. Т. 1–2. Мінск, 1977) або ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы».

З а д а н н е 5. Ад дзеясловаў *mogti, *biti, *minuti, *visěti, *xvaliti ўтварыце кароткія формы дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага і цяперашняга часу. Ад якіх асноў яны ўтвараліся, пры дапамозе якіх формаўтваральных сродкаў? Якія фанетычныя асаблівасці пры гэтым мелі месца? Як змяняліся такія формы? Праскланяйце ўтвораныя формы ў адзіночным, множным і парным ліках.

З а д а н н е 6. Праскланяйце кароткія формы дзеепрыметнікаў у адзіночным, множным і парным ліках.

1) дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу: **видимъ (-а, -о), знаємъ (-а, -о), нєсомъ (-а, -о)**;

2) дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу: **битъ (-а, -о), нєсєнъ (-а, -о), слышанъ (-а, -о)**.

З а д а н н е 7. Знайдзіце ў ніжэйпрыведзеных прыкладах і ахарактарызуйце дзеепрыметнікі (стан, час, кароткая ці поўная форма, род, лік, склон, сінтаксічная роля).

1) **и близъбє Пасха Июдєискаи въниде Исусъ въ Иерусалимъ. и обрете въ церкви. продающяя волы. и овьця и голуби. и пеняжьникы седяща** (Астр. Ев., 8 адв.);

2) **сѧ грамота ѥсть выдана. на гочкомь берьзѣ пьрьдъ роускимь посломь. и пьрьдъ всєми латинскими коупьци** (Смал. гр., 1229 г.);

3) **Аже кто познаѥть своѥ что боудеть погоубилъ. или оукрадено оу него что. или конь. или портъ. или скотина. то нє рьци се моѥ. нъ поиди на сводъ кудѣ ѥси възѧлъ** (Руск. пр., 1282, 617г – 618б);

4) Колиж оуже по пилатовом присоуженiи млстївыи гсь на смрть з ратоуша всюды свѧзан ланцюхи на шїю заложивши тѧгнен. какъ бы ѡдин злодеи. стало се збежанїе людеи за ним. идоущих (Стр. Хр., к. XV ст.);

5) И егда со обудву странѕ враги биты были, такѕ иже з великого множества ни единъ не осталѕ живъ... И было естъ тыхъ иже в тои день побиты суть ѿ мужа и до жены, дванадесеть тысещъ головъ вси живущии во граде Гаи (Скар., ІН, 18);

6) Многие бо суть возваные, лечъ мало выбраныхъ (Цяп., 31).

Заданне 8. Знайдзіце ў прыкладах усе элавыя дзеепрыметнікі. Вызначыце іх сінтаксічную ролю.

1) а ино все ꙗко же ꙗрославъ соудилъ. тако же и сныве его оуставиша (Руск. пр., 1282, 615б);

2) а нинечи бгъ намъ далъ. городъ полтескъ. а брать нашь кнзь скирикгаило. бжьею помочью и нашею. оузѧлъ свое место оу свои руки. што еще ѡтць ему оуделилъ. також и мы ему даемъ и дали есмы. тотъ городъ полтескъ (Гр. Уладз., 1387 г.);

3) кнѧз же великыи ѧгаило перестꙋпивъ свои слюбъ и правдоу. мовит. поедь к вилни. и тамо докончаемь (Віл. лет.);

4) ведаете ли вы где поле іоавово подлѣ поля моего, имеющее ячмень дозрелыи къ жатве (Скар. ДЦ, 93);

5) виделъ... на руце... раны две кровью накипелые, спухлые (ИЮМ, XXVIII, 123, 1666).

Заданне 9. Знайдзіце ў прыкладах дзеепрыслоўі. Вызначыце спосаб іх утварэння і сінтаксічную ролю.

1) ѡнъ же [Барыс] и з радостию пошол противоу их [печанегаў] а идоучи реклъ ѡтцоу своемоу се готовъ есмъ пред ѡчима твоима сотворити се (Чэцця, 1489 г.);

2) а мы потом с тых чотырэхъ ѡдного которыѕ нам видети и подобати будеть выбравшы на местце тог земрлого суди абоподсудка або писара которого с тых тог часу потрэбовати будеть неѿволочне ꙋставити маемъ (Ст., 1566);

3) и мовилъ ему, друже, ꙗко вошолось сюды не маючи оденьꙗ свадебного, а онъ замолкъ. Тогды рек король слугам звѧзавши ему руки и ноги возьмите его, и вкиньте в темность внутренюю (Цяп., 31).

Заданне 10. У прыкладах з надпісу на крыжы Ефрасінні Полацкай (1161) вызначыце, якімі дзеяслоўнымі формамі з'яўляюцца падкрэсленыя словы. Патлумачце іх утварэнне і сінтаксічную ролю.

1) и да боудеть <u>проклѧтъ</u> стою <u>животворѧщею</u> троицею•и стыми ѡтци• •т•и•ні•семию съборъ стыхъ отць •;

2) ѡфросиньꙗ же раба хва <u>сътѧжавъши</u> крстъ сии•приметь вѣчнꙋю жизнь съ всѣми стыми;

3) ги помози рабоу своѥмꙋ лазорю <u>нареченемоу</u> богъши <u>съдѣлавъше-моу</u> крьстъ сии црькви стаго спаса и ѡфросиньи•.

## ТЭСТ

**1.** Складзіце дзве суадносныя пары (напр., 1 – а, 2 – б).

Паводле паходжання... (1, 2) – гэта застылы назоўнік з былой асновай на... (а, б, в, г, д, е).

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) супін; | а) *ā; | в) *ĭ; | д) *ū; |
| 2) інфінітыў; | б) *ŏ; | г) *ŭ; | е) зычны. |

**2.** Адзначце правільны адказ.

У гісторыі беларускай мовы формы супіна:
1) захаваліся, перажыўшы фанетычныя змены;
2) захаваліся толькі ў гаворках;
3) былі заменены формамі інфінітыва;
4) былі заменены формамі цяперашняга часу.

**3.** Адзначце правільны адказ.

се приехаша послы цесарꙗ <u>сажатъ</u> ꙗрослава (Наўг. гр., 1270).

Падкрэсленае слова – гэта форма:

| | |
|---|---|
| 1) аорыста; | 4) інфінітыва; |
| 2) будучага простага часу; | 5) супіна; |
| 3) імперфекта; | 6) цяперашняга часу. |

**4.** Адзначце правільны адказ.

а Володимерꙋ <u>посадити</u> сынъ свой в Володимери (Лаўр. лет., 93).

Падкрэсленае слова – гэта форма:

| | |
|---|---|
| 1) аорыста; | 4) інфінітыва; |
| 2) будучага простага часу; | 5) супіна; |
| 3) імперфекта; | 6) цяперашняга часу. |

**5.** Адзначце правільны адказ.

Агульнаўсходнеславянскім адпаведнікам праславянскай формы інфінітыва *velkti выступае слова:

| | |
|---|---|
| 1) велети; | 4) влечи; |
| 2) волити; | 5) вести. |
| 3) волочи; | |

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

**перепȣстиⷧ паⷩ бг҃ъ соⷩ на адама, и ȣчиниⷧ з ребра єго невѣстȣ, которагꙗ иⷤ была з тѣла єго <u>взꙗта</u>** (Бельск., 4).

Падкрэсленая форма дзеепрыметніка мае наступныя характарыстыкі:

| *форма*: | *стан*: | *час*: |
|---|---|---|
| 1) іменная; | 3) незалежны; | 5) цяперашні; |
| 2) займенная; | 4) залежны; | 6) прошлы; |

| *утворана ад асновы*: | *выступае ў ролі*: |
|---|---|
| 7) інфінітыва; | 9) атрыбутыўнай; |
| 8) цяперашняга часу; | 10) прэдыкатыўнай. |

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэсленыя дзеепрыметнікі выступаюць са стараславянскімі паводле паходжання суфіксамі ў сказах:

1) **бꙋдеть ли <u>притꙋплено</u> железо, а то не ꙗко первеи, но източено бꙋдеть** (Скар. КЕ, 15б);

2) **знаиде єго <u>седѧщего</u> подъ древомъ смырꙿковымъ**[1] (Скар. ТЦ, 158);

3) **Богатество скоро <u>собраное</u> потомꙿ ȣменꙿшено бȣдеть** (Скар. ПС, 21б);

4) **кнги <u>рекомые</u> по гречески ѱалꙿтироⷨ... имають в собѣ каѳизꙿмъ двадесеть, ѱалꙿмовъ полꙿтораста, стишꙿковъ или припеловъ две тысєщи** (Скар. КБ, 5);

5) **где же сȣть мнози <u>совѣтȣющии</u> ȣкрепꙿлѧетсѧ совѣтъ** (Скар. ПС, 24б);

6) **Дали сꙋть Давыдови... єчменя крꙋпъ бобꙋ и сочевице, и <u>молотоє гречихи</u>** (Скар. ДЦ, 100).

[1]**смырковыи** – прым. ад **смыркъ** ‘елка’ (ГСБМ. Вып. 32. С. 3).

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

**къ томꙋ гоны бобровыє въ тыхъ волостехъ на манастыръ же <u>гониваны</u> бывали** (АЗА, III, 245, 1579).

Падкрэсленая форма старабеларускага дзеепрыметніка мае наступныя характарыстыкі:

| *форма*: | *стан*: | *час*: |
|---|---|---|
| 1) поўная; | 3) незалежны; | 5) прошлы; |
| 2) кароткая; | 4) залежны; | 6) цяперашні; |

*утворана ад асновы*:

| | | |
|---|---|---|
| 7) **гнати**; | 9) **гонивати**; | 11) **гониваєши**. |
| 8) **гонити**; | 10) **гониши**; | |

